# Толькі з табою...




**Музыка І. ЛЮБАНА**

**Толькі з табою мне хочацца быць,**
**Толькі з табою.**
**Радасць і гора, і шчасце дзяліць**
**Толькі з табою.**

**Кожнай часінай к табе я лячу,**
**Каб быць з табою,**
**Толькі к табе прыхіліцца хачу**
**Сэрцам, душою.**

**Выйсці у поле, дзе нівы шумяць**
**Ранняй парою,**
**Першую зорку на небе спаткаць**
**Толькі з табою.**

**Гэтак не страшны цяжкія пуці**
**Будуць з табою,**
**Гэтак ісці неразлучна ў жыцці**
**Толькі з табою...**

---

На першай старонцы вокладкі: **Першамайская дэманстрацыя.**
На чацвёртай старонцы вокладкі: **У дзіцячым садзе № 30 горада Мінска.**

Фото А. Дзітлава.



**У Мінску пабудаваны і пачаў даваць прадукцыю новы завод.** На здымку: у цэху зборкі **Мінскага гадзіннікавага завода. Лепшая зборшчыца комсамолка Галіна Лісіцына.**

Фото М. Ананьіна.

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.**

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.

**№ 5 (38).**

**Май.**

**1956 г.**



Дзяўчаты, якія напрадвесні прышлі працаваць на свінаферму. Злева направа: Марыля Драчан, Лёдзя і Тамара Дземянтовічы.

# РАСКВІТНЕЕ МАЛЕВА

С. КУХАРАЎ, С. ЧЫРЭШКІН

**Рэпартаж**

За намі засталіся раскошныя малеўскія прысады — колішні маёнтак Радзівіла, і мы ўехалі ў невялікую, ціхую вёску Малева. Такіх вёсак шмат параскідана па нясвіжскіх прасторах. Яны падобны адна на адну: вузкія, віхлястыя вулачкі, густа застаўленыя невялікімі хаткамі, і ветракі на водшыбе. А вакол, куды ні кінеш погляд, нібы копы леташняга сена, на пагорках і ўзлесках — вясковыя хутары. Іх многа. Вакол Малева і Карцэвіч нешта каля сотні...

У Малеве і цяпер вельмі мала пасадак. Рэдка пры якой хаце сустрэнеш бярозку ці нават вішню. Бедна выглядаюць хутары, толькі шэрыя саламяныя стрэхі чарнеюць на даляглядзе. Відаць, не соладка жылося пры панскай Польшчы тутэйшым сялянам на сваіх гарбатых палосках, калі нават якая-небудзь грушадзічка на сядзібе была лішняй. Вольна разрасталіся і зеленелі ліпы і акацыі хіба толькі ў княжаскім маёнтку, а селянін мусіў спільваць чэзлую вярбіну пад вокнамі, каб пасеяць жменьку расады.

... Ужо добра ўднела, калі мы пад'ехалі да новага са светлымі вокнамі дамка на ўскраі вёскі. У ім змяшчаецца праўленне калгаса імя Молатава, які нам параілі наведаць.

Красавіцкае сонца старанна высушвала зямлю і тысячамі сваіх адбіткаў адлюстроўвалася ў лужынках і раўчуках, што ўсцяж спаласавалі вуліцы. На ганку нас сустрэла пажылых год паўнатварая, але надзвычай жвавая і бадзёрая жанчына, апранутая па-гарадскому. З групай людзей яна выходзіла з дамка да запрэжаных фурманак.

На наша запытанне, дзе будзе тутэйшы старшыня, жанчына ціха, але цвёрда сказала:

— Я — старшыня. Шаніна Фядосся Дзмітраўна. А што вам патрэбна? Хочаце напісаць пра наш калгас? — як-бы ў роздуме перапытала Фядосся Дзмітраўна і змоўкла, а потым зноў запытала:—Чаму іменна пра наш? Вуньжа цяпер усё пішуць пра нашых перадавікоў — калгасы «17 верасня», імя Калініна!..

Тым не менш у вачах старшыні засвяціліся іскрынкі задавальнення. А можа нам гэта толькі здалося, што яна падумала: «А! Зноў успомнілі пра Шаніну...» І сказала як-бы нехаця:

— Што-ж. Калі трэба, дык што-ж... Дрэнна толькі, што і я, і ўсе брыгадзіры едзем на савет МТС. Дык вы самі ўжо будзеце тут...

Сядаючы ў фурманку, кінула:

— Калі што якое, дык з бухгалтарам гаварыце. Ён — комуніст, у курсе ўсіх спраў!..

Бухгалтар Васіль Кашчэй — яшчэ малады чалавек, крышачку мітуслівы, але дакладны, як і ўсе рахунковыя работнікі. Вярнуўшыся з апошняй вайны, Васіль бяззменна вядзе калгасны ўлік.





На здымках: **у парніках калгаса; новы калгасны кароўнік.**

— З чаго пачнем? — бухгалтар зрабіў строгі выгляд, дзелавіта намерыўся даваць адказы.

— Добра было-б пазнаёміцца з людзьмі, з калгаснай гаспадаркай.

— Калі ласка,— так-жа прыхільна адказаў Васіль і праз момант крочыў з намі па вуліцы, спрытна пераскокваў раўчукі і расказваў:— гэта не тое, што год пяць назад, цяпер мы маем што паказаць. Гаспадарамі сталі!

Мы зайшлі на калгасны двор. Двор гэты сапраўды варты добрых гаспадароў. Смела можна сказаць, куды лепшы, чым калісьці быў у малеўскага пана.

Прасторны, двухрадавы кароўнік, зроблены па тыпаваму праекту. Недалёка ад яго такі-ж акуратны, на мураваных шулах, цялятнік. Крыху воддаль тыпавы свінарнік... На двары ёсць кашара для прагулкі свіней, асобная плошча адведзена для кароў і цялят. У кароўніку ўжо ўстаноўлены аўтапаілкі, дзейнічае падвесная дарога, на кормакухні механізаваны запарнік, машыны для прыгатавання кармоў. Пад рукамі і сіласныя збудаванні, артэзіянскі калодзеж. Усё робіцца, каб аблегчыць цяжкую працу жывёлаводаў.

— Праўда, нядрэнна зроблена? — шчыра запытаў Васіль Кашчэй, і сам-жа адказаў. — Жывёлагадоўчы гарадок.

Крыху памаўчаўшы, бухгалтар з заклапочанасцю гаспадара пачаў гаварыць пра тое, што сёння ўжо і гэтых будынкаў мала — жывёлы прыбаўляецца. Намечана перспектыўным планам ужо сёлета павялічыць прыбыткі ад жывёлагадоўлі ў два разы: да 900 тысяч рублёў.

Неўзабаве да нас далучыўся загадчык свінафермы Алесь Антонавіч Шапавал, надзвычай рухавы, загарэлы мужчына. Ён з запалам расказвае пра сваіх людзей, пра тое, як закладваліся тут асновы новага, калектыўнага жыцця. Шапавал — комуніст. Разам з іншымі былымі парабкамі яшчэ перад вайной арганізаваў у Малеве калгас, быў першым яго старшынёю і цяпер ад душы радуецца, што парасткі новага разрастаюцца і хутка расквітнеюць буйным цветам сапраўды шчаслівага жыцця.

Шапавал ахвотна паказвае нам калгасныя фермы. Ідучы па чыстай бетаніраванай дарожцы ў свінарніку, пільна заглядвае то ў адну, то ў другую загародку і гаворыць:

— Свінаматка, якую даглядае Вольга Валочнік. За адзін апарос прывяла 14 парасят. А гэта яе кормнікі. Вольга ўжо напрадвесні адкарміла дванаццаць япрукоў. Гэта свінкі Насці Вініцкай. Яна спаборнічае з Вольгай. А Вольга — удзельніца Усесаюзнай выстаўкі, мае залаты медаль.

Ужо ў кормакухні, дзе бадзёрыя, расчырванелыя дзяўчаты насыпалі ў кацёл бульбу, Шапавал, нібы схамянуўшыся, дастаў з кішэні раённую газету, разгарнуў яе:

— Дзяўчаткі, — звярнуўся ён да свінарак, — вось тут артыкул нашай Вольгі і партрэт яе, — і таямніча падміргнуў:

— Сёння і вас здымуць. У часопісе будзеце!..

І потым Шапавал усё расказваў пра сваіх новых даглядчыц, якія толькі што прышлі ў жывёлагадоўлю па закліку комсамола. Гэта сёстры Лёдзя і Тамара Дземянтовічы, Марыля Драчан. За месяц яны асвоілі свае абавязкі і працуюць не горш за спрактыкаваных свінарак.

Шчыра прапанаваў загадчык фермы падвезці нас у брыгады, дзе, па яго словах, можна пазнаёміцца з іншымі цэхамі калгаса.

Увечары, калі вярнуліся ў канцылярыю і гутарылі са старшынёй, аграномам і калгаснікамі пра перспектыўны план развіцця калгаса,



Комсамолка Зіна Ефімава адной з першых адгукнулася на заклік партыі пайсці на працу ў жывёлагадоўлю. Яна стала даяркай.

★

мы ўжо мелі даволі яркае ўяўленне пра яго сённяшнія будні і бліжэйшыя перспектывы.

Калгас імя Молатава — вялікая калектыўная гаспадарка, у ім аб'еднана 626 сялянскіх двароў. Зямельная яго плошча 3.200 гектараў. Усе палі, лугі і лес, якія належалі пры панскай уладзе Радзівілу, бясплатна і навечна адданы сялянам. Збылася іх адвечная мара аб зямлі. Цяпер ёсць магчымасць не толькі засяваць яе як мае быць, але пасадзіць дрэвы, сады, упрыгожыць свой быт.

За гэтыя гады, жывучы калектыўна, малеўцы расшырылі колішні панскі сад, пасадзілі больш за дваццаць гектараў маладога саду; пад гародам будзе занята сёлета 18 гектараў, ёсць больш 500 парніковых рам.

Колішнія парабкі і беззямельнікі сталі нядрэнна гаспадарыць без паноў і аканомаў. Летась у калгасе сеялі і кукурузу, і цукровыя буракі, і кармавы лубін. Ураджай гэтых культур, праўда, быў невысокі, але людзі ўпэўнены, што іх намаганні будуць шчодра аплачаны.

Пакуль што асновай арцельнага дастатку ў малеўцаў з'яўляецца лён.

— Лён мы сеялі і раней, як жылі кожны сам па сабе, — расказвае спрактыкаваная ільнаводка Зося Гаціла. — Але якая карысць. За бясцэнак яго забіралі арандатары...

У калгасе-ж лён стаў залатым дном. Летась сеялі ільну 120 гектараў. Усе звенні вырасцілі добры ўраджай — па 4,6 цэнтнера насення і 6,7 цэнтнера валакна. За лён атрымана 2.776.000 рублёў. Гэта ў той час, калі за папярэдні год увесь калгасны даход склаў каля 3,5 мільёна рублёў.

За кошт ільну ўзнялася вага працадня. У мінулым годзе на працадні атрымана, апрача збожжа, бульбы і гародніны, па сем з паловай рублёў. Добра зарабілі ільнаводы. Насця Баранава, Зося Гаціла, Ніна Кузьменка, Анна Сенчанка атрымалі па 10 тысяч рублёў.

— З гэтага бачна, — заўважае старшыня калгаса, — што лён дапамог нам узняць арцельныя прыбыткі, згуртаваць людзей у адзіную працавітую сям'ю.

Натхнёныя рашэннямі XX з'езда партыі, калгаснікі цяпер смела ўзяліся за павышэнне ўраджайнасці збожжа, бульбы, кармавых культур, гародніны і павелічэнне прадукцыйнасці жывёлы.

Тыя паказчыкі, што былі запланаваны раней, сёння ўжо не задавальняюць калгаснікаў. Яны вышукваюць новыя магчымасці, схаваныя рэзервы. Ужо ў бягучым годзе намечана атрымаць не менш як па 12 цэнтнераў збожжа, 150 цэнтнераў бульбы і гародніны, 45 цэнтнераў кукурузы ў пачатках, 7 цэнтнераў ільнавалакна з гектара.

— Пяцігадовае заданне — за два гады! — такое аднадушнае рашэнне ўсяго калгаснага калектыву.

У перспектыўным плане запісана: у 1956 годзе мець на фермах 600 галоў буйнай рагатай жывёлы, больш 550 свіней. Значна павялічыцца пагалоўе авечак. Пастаўлена задача дамагчыся не толькі колькасных паказчыкаў, але і якасных — павысіць прадукцыйнасць жывёлы. На сто гектараў ворыва будзе забяспечана па 40 цэнтнераў свініны, 170 цэнтнераў малака.

Вялікія, але зусім рэальныя задумы намечаны перспектыўным планам па будаўніцтву. У бліжэйшыя гады будуць узведзены новыя будынкі: цялятнік, свінарнік, канюшня, крытыя такі, гараж, кузня, свіран. Запланавана таксама лазня, яслі, школа, клуб; поўнасцю будзе завершана электрыфікацыя калгаса.

У новы калгасны пасёлак, які злучыць вёскі Малева і Карцэвічы, ужо сёлетняй вясной пераселяцца пяцьдзесят хутаран. Праз гады два-тры будуць ссёлены ўсе шматлікія хутары, што ўсё яшчэ параскіданы на адлегласці васьмі кіламетраў ад калгаснага цэнтра.

... Наш экскурсавод-спадарожнік Алесь Антонавіч Шапавал і назаўтра ахвотна вазіў нас на сваім жвавым коніку па абуджаных веснавых вуліцах з брыгады ў брыгаду і ўсё расказваў, не сціхаючы.

— Бачыце, торфу колькі! — паказваў ён на палі, калі зноў пад'язджалі да Малева. — 17 тысяч тон вывезлі! Добрая заправа!..

Заўважыўшы хлапчукоў з рыдлёўкамі ўдалечыні, яшчэ больш ажывіўся: — Малайцы. У лес пайшлі па дрэўцы, — і ўсміхнуўся, узрадаваны, памаладелы:

— А што-ж! Няхай і над нашымі хатамі зелянеюць, шумяць прысады, ліпы. Расквітнее наша калгаснае Малева!..

Расквітнее абавязкова. Людзі адчулі ў сабе вялікае натхненне.

**Калгас імя Молатава**
**Нясвіжскага раёна.**

Дыяграмы росту.


















Вясковая моладзь сабралася ў нядзелю на танцы. У цэнтры — загадчык калгаснага клуба баяніст Юрка Ігнатчык.



**Студэнты геалагічнага факультэта Беларускага Дзяржаўнага універсітэта** (злева направа) **А. К. Кавальчук, Ф. Ф. Манулік, Г. В. Гурскі і Б. Н. Гурскі ў музеі геалогіі.**

Фото С. Чырэшкіна.

# ПЕСНЯ ГЕОЛАГАЎ

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

Аляксей загарнуў кнігу і падняўся з-за стала. Шызы змрок згусціўся ў кутках, пачынаў напаўняць пакой. Была пара ўключыць святло, але Аляксею не хацелася рабіць гэтага. Яму падабаецца часіна, калі дзень паволі ўступаў сваё месца ночы і ўсё навокал траціла вясёлыя фарбы, ахіналася вячэрняй смугой. Гэты невялікі адрэзачак часу перад тым, як у розных канцах горада ўспыхвалі першыя зыркія агні, заўсёды дзейнічаў на Аляксея неяк асабліва: у такія хвіліны вельмі стройна роіліся думкі, яскравей усплывала ў памяці мінулае і мацней хацелася зазірнуць наперад, у будучыню.

Аляксей падышоў да акна і, адхінуўшы шторы, расчыніў яго насцеж. Адсюль, з вышыні чацвёртага паверху, яму была добра відаць уся поўночна-ўсходняя частка горада. Нейкі час ён глядзеў на знаёмую панараму: новыя вышынныя будынкі, зазелянеўшыя сады і паркі, дымныя заводы і фабрыкі на ўскраіне. Знізу да яго даносіўся нязмоўчны гул і шум вуліцы.

«Які ўсё-такі вялікі і многалюдны горад!» — падумаў Аляксей.

Яго думкі міжволі перакінуліся на ціхую вузкую вулачку ў Брэсце, са старымі прысадамі і драўлянымі домікамі паабапал. Там прайшло яго маленства, там ён сустрэў пару юнацтва. Той вуліцай яго праводзіла маці да ваенкамата, калі ён ад'язджаў на службу, у поўночны флот. Той вуліцай амаль чатыры гады назад ён бег дахаты з радасным паведамленнем, што залічаны на першы курс аддзялення геалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя В. І. Леніна.

Геолаг!.. Прызнацца па шчырасці, да самага паступлення ва універсітэт Аляксей не думаў аб гэтай прафесіі. І ўсё-ж адзін нязначны эпізод з гадоў дзяцінства запомніўся яму, відаць, недарэмна. Аляксею было тады гадоў каля дванаццаці, калі ў нядаўна вызваленым яго родным горадзе адкрывалі помнік Леніну. Алёша таксама быў на гэтай урачыстасці і доўга разглядаў белы мармуровы бюст, умацаваны на высокім пастаменце. Пастамент быў зроблены з нейкага вельмі прыгожага каменя — Алёшка ніколі раней не бачыў такога. Камень адсвечваў рознымі колерамі, якія пераліваліся на сонцы, і быў гладкі, як шкло. Алёшка нават улучыў хвіліну, каб пагладзіць яго рукой. Потым ён падыйшоў да дзеда Нічыпара, які, як здавалася Алёшу, усё на свеце ведаў, і запытаў:

— Дзядуля, дзе гэта ёсць такія прыгожыя камені?

— Такія камені? Далёка, брат. Недзе аж у самай Сібіры, — ахвотна азваўся дзед. — А здабываюць іх з зямлі. Цэлыя горы ёсць з такога каменя. Толькі зверху нябачна. Капаць трэба.

— У зямлі? — перапытаў здзіўлены Алёша.

— А як ты думаў! Такое багацце, брат, пад нагамі не валяецца. А ў зямлі — што хочаш ёсць: там, брат, і жалеза табе, і медзь, і золата, там і нафта, з якой газу робяць. Усё ў зямлі.

— Дзядуля, а ў нашай зямлі ёсць гэта?

— Хто знае! Можа, што і ў нас ёсць. Толькі ніхто не шукае. А багацці — яны, брат, усюды ў зямлі...

Тое, аб чым даведаўся Алёшка ад дзеда, было для яго незвычайным. Доўга хадзіў ён пад уражаннем пачутага і нават не раз уяўляў сабе, што нібыта раскалоў пагорак на беразе Мухаўца і знайшоў там незлічоныя запасы скарбаў. З часам новыя ўражанні заглушылі вялікую цікавасць Алёшкі да сакрэтаў зямлі. І абудзілася гэтая цікавасць зноў ужо тады, калі Аляксей, вярнуўшыся з флоту і закончыўшы вячэрнюю школу, павінен быў выбраць свой шлях у жыцці. Стаўшы студэнтам геафака, Аляксей не адразу адчуў сябе на месцы. «Я вельмі прывык быў да мора,— расказваў ён потым, — і баяўся, ці палюблю новую справу так, як палюбіў цяжкую, суровую службу на караблі». Трывога была дарэмнай; любоў да новай справы, якой ён вырашыў прысвяціць жыццё, прышла досыць хутка. Ужо ў сярэдзіне першага года Аляксей мог даказаць любому, што калі і ёсць на зямлі цікавая і патрэбная праца, дык гэта праца геолагаў...

Незнаёмая бадзёрая песня, раптам раздаўшыся ўнізе, вывела яго з задумення.

Шмат шляхоў у выхаванцаў геафака —
Хто на Каўказ, хто да Балтыйскіх берагоў.
Але за вёрстамі
Ў далёкай ростані
Ніколі мы не забываем сяброў.

Дзе-б ты ні быў, геолаг, —
Ў лясах Сібіры, ці ў горах Урала —
Скрозь над табою неба,
Неба радзімы, якая цябе паслала.

Перагнуўшыся цераз падаконнік, Аляксей пазнаў сваіх сяброў-аднакурснікаў — Барыса і Жору Гурскіх, Глеба Дамінікоўскага і Фёдара Мануліка. Іх дружба асабліва ўзмацнела пасля мінулага лета, калі яны, упяцярых, пабывалі ў геалагічнай экспедыцыі на Урале. Гэта была першая ў пасляваенны час экспедыцыя з Беларускага універсітэта на Урал. Шэсць тысяч кілометраў адмералі хлопцы з поўначы на поўдзень па Уральскаму хрыбту. У іх распараджэнні быў універсітэцкі «ЗІС», на якім адвозілі горную пароду да бліжэйшай станцыі. 50 тон узораў 80-ці рознавіднасцей было адпраўлена ў Мінск з Урала.

Да чаго-ж цікавым было гэтае першае падарожжа сяброў! Незабыўныя ўражанні пакінула яно ў сэрцах. Хлопцы і цяпер не могуць успамінаць без смеху, як, упершыню ўбачыўшы непадалёку ад меднарударнай шахты ліманіт, яны ўзялі 4-пудовую глыбу на рукі і цягнулі яе ўтраіх кілометраў пяць да машыны. Думалі — во, пашанцавала! А потым агледзеліся, што ліманіту — падганяй «ЗІС» і нагружай, колькі трэба.

Хоць і не была гэтая група студэнтаў сапраўднай вышукальніцкай экспедыцыяй, але нямала цяжкасцей выпала і на іх долю. Іншы раз прыходзілася працаваць ледзь не круглыя суткі. Страшэнна зморaныя, падалі хлопцы на сеннікі і засыналі кароткім сном падарожнікаў. Для начлегаў выбіраліся населеныя пункты, але спалі ў палатках — як пастанавілі перад ад'ездам.

У вёсцы Мурзінка сябры гутарылі з мясцовым старажылам, некалі вядомым вышукальнікам, добрым знаўцай уральскіх парод. Яму 80 год, але ён ходзіць яшчэ адзін у тайгу. Гэты стары таежны жыхар пакарыў студэнтаў незвычайнай любоўю да скарбаў зямлі. Яшчэ ніколі не бачылі яны, каб чалавек з такім замілаваннем, з такой глыбокай пашанай гаварыў аб кварцах або мармуры. Сябры даведаліся, што ў дзеда ёсць нейкі прыгожы каштоўны камень, і папрасілі паказаць ім. Стары спусціўся ў падзямелле і вынес адтуль невялічкую скрынку. Са скрынкі выняў маленькую шкатулку з яшмы. У шкатулцы, у чыстай мокрай анучцы, ляжаў рэдкай прыгажосці цёмнафіялетавы аметыст.

— Прадай, дзед, — не стрымаўся Аляксей.

Стары спахмурнеў.

— Ну, навошта «прадай»? Ён у мяне ўжо 50 год. Мне трэба на яго глядзець.

Вечарам у палатцы, успамінаючы сустрэчу з дзедам, Барыс сказаў:

— Дык вось, браткі: сапраўднымі геолагамі мы станем толькі тады, калі навучымся любіць свой матэрыял так, як той стары таежнік...

... Шумлівай гурбой сябры ўвайшлі да Аляксея.

— Прывітанне таварышу Кавальчуку! Што гэта ў цябе цёмна, як у «Гроце смелых»? — запытаў Барыс.

«Грот смелых» — адна з своеасаблівых залаў Кунгурскай гіпсавай пячоры, якую хлопцы наведалі ў экспедыцыі. Такую назву ён атрымаў за тое, што ў ім утварыліся з гіпсу шматлікія вычварныя постаці людзей і звяроў, якія палохалі наведвальнікаў.

— А мы да цябе з новай песняй, — сказаў Глеб. — Слухай... выконваем квартэтам.

Яны сталі ў рад, пераплёўшы рукі на плячах і моцнымі, зладжанымі галасамі заспявалі:

Будзем бачыць друг друга мы
За вяршынямі гор,
За снягамі завейнымі
Скрозь бязмежны прастор.

І няхай у самых розных месцах
Нам ісці ў разведку давядзецца,
І за тысячамі вёрст разлукі
Будуць чутны гэтай песні гукі.

Ніхто не ведае аўтара гэтай песні. Але гэта не мае значэння, калі песня добрая, калі гэта — песня дружбы. Геолагі любяць яе асабліва і ведаюць такіх песень многа. У іх надзвычайн цікавай і цяжкой, а часам і небяспечнай працы без сапраўднай, шчырай і бескарыслівай дружбы нельга ступіць і кроку. Толькі баявое сяброўства нашых воінаў можа пахваліцца такой вернасцю. Людзі эгаістычныя і крывадушныя не могуць знаходзіцца ў радах геолагаў. Сюды ідзе толькі той, каму можна верыць, як брату.

— Ведаеце, хлопцы, — звярнуўся да сяброў Аляксей, — з поўгадзіны назад я перачытаў яшчэ раз тое месца з дырэктыў па шостай пяцігодцы, дзе гутарка ідзе аб геолагах. І ведаеце: якая-ж вясёлая перспектыва ў нас і як-жа чакаюць нашых рук! У гэтай пяцігодцы геолагам прыдзецца папрацаваць, як яшчэ ніколі. Так што рыхтуйцеся, хлопчыкі, — яшчэ год, і вы пад маёй камандай выгрузіцеся на адным з паўстанкаў нашага Палесся...

— Ну, гэткі камандзір знайшоўся, — у адно слова, як згаварыўшыся, адказалі Барыс і Глеб.

— Ты лепш глядзі, каб табой самім не пачалі камандаваць, — хітра ўсміхаючыся, паглядзеў на Аляксея Жора. — А то нешта ты вельмі часта стаў дападаць на філфак... Увогуле, сябра наш дарагі, хоць і рады мы твайму шчасцю, а вымушаны прызнаць гэта як здраду нам...

— Ой! вялікае дзякуй, хлопчыкі, што напомнілі, — усклікнуў Аляксей і, глянуўшы на гадзіннік, дадаў: — А то я, чаго добрага, яшчэ спазніўся-б...

З жартамі і смехам сябры высыпалі на вуліцу. Быў надзвычай прыгожы, цёплы і ціхі майскі вечар. Блішчэла пры святле электрыкі маладое, ярказялёнае лісце таполяў і струменіла ў вечаровую цішу такім духмяным знаёмым водырам, што хацелася дыхаць ім на поўныя грудзі, узацяжку. І зноў сама напрасілася песня:

Шмат шляхоў у выхаванцаў геафака —
Хто на Каўказ, хто да Балтыйскіх берагоў.
Але за вёрстамі
Ў далёкай ростані
Ніколі мы не забываем сяброў.


Министерство Связи СССР
ТЕЛЕГРАММА
=МИНСК ЦК КОМСОМОЛА ЖУРНАЛ
МАЛАДОСТЬ=
№ 5
1НСК/445 066 664
244 31 0630 ЗНСВ
УЧАСТНИКИ СОВЕТСКОЙ АНТАРКТИЧЕСКОЙ НАУЧНОЙ ЭКСПЕДИЦИИ
ШЛЮТ МОЛОДЫМ ТРУЖЕНИКАМ БЕЛОРУССИИ СЕРДЕЧНЫЙ ПРИВЕТ
И ПОЗДРАВЛЕНИЕ МЕЖДУНАРОДНЫМ ПРАЗДНИКОМ ТРУДЯЩИХСЯ
ДНЕМ ПЕРВОГО МАЯ ТЧК ЭТОТ ВЕСЕННИЙ РАДОСТНЫЙ СОЛНЕЧНЫ
ПРАЗДНИК ВЕСНЫ МЫ ВСТРЕЧАЕМ НА ПОРОГЕ СУРОВОЙ
АНТАРКТИЧЕСКОЙ ЗИМЫ ЕЕ СИЛЬНЫМИ МОРОЗАМИ ЖЕСТОКИМИ
СНЕЖНЫМИ ПУРГАМИ НО СЕРДЦА НАШИ ВМЕСТЕ С

## Слова да беларускай моладзі

Удзельнікі савецкай антарктычнай навуковай экспедыцыі пасылаюць маладым працаўнікам Беларусі сардэчнае прывітанне і віншаванне ў дзень міжнароднага свята працоўных — Першага мая. Гэтае радаснае, сонечнае свята вясны мы сустракаем на парозе суровай антарктычнай зімы з яе моцнымі марозамі і жорсткімі снежнымі завеямі. Але нашы сэрцы разам з любімай Радзімай, з родным савецкім народам. На далёкай Антарктыдзе мы сагрэты той вялікай увагай і любоўю, якую праяўляюць аб нас, савецкіх палярніках, савецкія людзі.

З наступленнем антарктычнай восені наш калектыў раздзяліўся. На пабудаванай за кароткі тэрмін на беразе Антарктыды навуковай абсерваторыі Мірны застаўся на першую зімоўку вялікі калектыў нашых таварышаў на чале з начальнікам экспедыцыі Міхаілам Міхайлавічам Сомавым. Удзельнікі марской экспедыцыі накіраваліся на дызель-электраходзе ў далёкае і складанае плаванне ў прыбярэжных водах Антарктыкі для комплекснага акіянаграфічнага вывучэння антарктычных вод. Будаўніча-мантажная група адправілася ў сярэдзіне сакавіка на радзіму на дызельэлектраходзе «Лена».

Пачэснае заданне Радзімы экспедыцыя выканала з гонарам. Пабудаваная на Антарктыдзе першая савецкая поўднёвапалярная абсерваторыя Мірны пачала комплекснае вывучэнне Антарктыкі па праграме міжнароднага геафізічнага года.

Мы заўсёды з вялікай цікавасцю сочым па радыё за поспехамі працоўных Беларусі ў галіне гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, глыбока цэнім уклад працоўных Савецкай Беларусі ў нашу агульную справу будаўніцтва комунізма. Нас захапляюць слаўныя працоўныя подзвігі моладзі Беларусі. Ад імя ўдзельнікаў антарктычнай экспедыцыі яшчэ раз віншую праз часопіс «Маладосць» моладзь Беларусі з радасным святам Першае мая і жадаю новых поспехаў у творчай працы, вучобе і асабістым жыцці.

**Намеснік начальніка комплекснай антарктычнай экспедыцыі па навуковай частцы, начальнік марской XX экспедыцыі «Об» прафесар КОРТ.**

## НОВЫ ТЭАТР



**У цэнтры Мінска, на вуліцы Энгельса, складаючы адно цэлае з Палацам піянераў, красуецца гэты новы будынак. Справа і злева ад уваходных дзвярэй, на рубінавым шкле золатам напісана: «Беларускі тэатр юнага гледача».**

**Усяго толькі месяц прайшоў з таго дня, калі глядзельная зала новага рэспубліканскага тэатра была ўпершыню запоўнена гледачамі. Тым, хто прышоў на ўрачыстае адкрыццё тэатра, былі паказаны ўрыўкі з некалькіх спектакляў. Гарачыя апладысменты, якімі гледачы ўзнагароджвалі малады калектыў на працягу ўсяго вечара, з'явіліся шчырай ацэнкай вынікаў першага этапу работы тэатра. Спектакль аб бессмяротным Паўцы Карчагіне, паэтычная казка «Горад майстроў», вясёлае прадстаўленне для малых «Дзімка-невідзімка» з захапленнем прымаюцца ўсімі наведвальнікамі тэатра, — ад першакласніка да вузаўца. Асобна трэба сказаць аб пачуццях бацькоў, чые дзеці атрымалі «свой тэатр» і хто сам спяшаецца не прапусціць ніводнай пастаноўкі. Гэта пачуцці самай глыбокай удзячнасці Радзіме за клопаты аб падрастаючым пакаленні. Роля тэатра юнага гледача, вядома, выходзіць далёка за рамкі толькі відовішчнай установы. Новы тэатр — сябра і выхавацель нашай дзетвары, юнацтва і моладзі!**

# Агні над Палессем

Рыгор АРЦЕМ'ЕЎ

Нарыс

Узыйшло сонца. Поле адразу змяніла сваё шэраватае аблічча. Даўгія цені пацягнуліся ад вежавых кранаў, установленых на будоўлі новых будынкаў, ад стрэл экскаватараў, ад металаканструкцый, ад насыпаных высокіх узгоркаў зямлі.

Ва ўсёй сваёй веліччы адкрылася панарама будаўнічай пляцоўкі Васілевіцкай электрастанцыі. Прыглушана гудуць маторы, то тут, то там успыхвае іскрыстае полымя электразваркі. Відаць, як, павіснуўшы ў паветры, плыве вялізны жалезабетонны блок. А ўнізе, ля падэшвы кранаў, снуюць сюды-туды самазвалы з бетонам, з каменем, праходзяць чыгуначныя составы з лесам, цэментам, жалезам. Незмаўкаючы грукат, галасістыя гудкі — усё гэта зліваецца ў роўны працоўны рытм. Ні хвіліны спакою. Будоўля жыве, дыхае, развіваецца.

Ля дзвярэй жалезабетоннага завода стаяць цесляры, арматуршчыкі. Сярод іх начальнік вытворчасці, ён-жа сакратар партарганізацыі будоўлі Яўген Раманавіч Равека. Усе толькі што прышлі з абеду і вядуць мірную гутарку пра тое, што трэба рабіць. Раптам рука Яўгена Раманавіча здрыганулася. Ён заклапочана глядзіць у той бок, дзе працуюць бетоншчыцы. Нарэшце, не вытрымаў і закрычаў:

— Што вы робіце?! Паглядзіце на іх, што яны робяць, паглядзіце! Падчапілі да крана форму з жалезабетонам і хочуць перавярнуць яе на другі бок. Хіба можна чапаць яе, пакуль не прышоў час? Ах, неспакойная маладосць!

Таго, што крычыць Равека, дзяўчаты не чуюць. Бетонамяшалкі заглушаюць ягоны голас. А яны — Ліда Палігоша, Надзя Ханкевіч і Зіна Кулянок — падчапілі ўжо форму да крука аўтакрана. Выгляд у іх сур'ёзны, заклапочаны. Ліда махае рукою кранаўшчыку:

— Узялі! — крычыць яна.

— Я вось вам вазьму, — чуецца ўзлаваны голас Яўгена Раманавіча за спінамі дзяўчат. — Хто вам дазволіў раней часу ламаць форму!

Ён зірнуў на кранаўшчыка, які толькі што нарыхтаваўся падымаць форму, паківаў на яго пальцам:

— Адстаўце!

— Мы прыдумалі новы спосаб з'ёму форм, — першай загаварыла Ліда. — Не трэба будзе ламаць форму. Дазвольце паспрабаваць, Яўген Раманавіч, толькі адну форму. Як удасца, дык будзе вельмі добра.

— Што-ж з вамі зробіш, — уздыхае Яўген Раманавіч. — Паспрабуйце, а я пагляджу.

Ён зірнуў на Ліду, кашлянуў, хацеў нешта сказаць, але змоўчаў і пайшоў да бетоннага завода. Дзяўчаты перакінуліся позіркамі, як-бы пытаючы адна ў адной: а можа і сапраўды мы не тое робім і нічога з нашай выдумкі не атрымаецца?

— Але паспрабуем, — упэўнена гаворыць Ліда. Яна папраўляе хустачку, ускідвае галаву, як-бы нагадваючы сяброўкам тую вясёлую Лідку, ад абцасаў якой вечарамі аж стогне падлога ў новым клубе будаўнікоў. Сяброўкі адразу зразумелі Ліду: трэба паспрабаваць. Яны зачапілі крук аўтакрана за правы борт формы, у якой было больш за тры тоны бетону, падалі знак кранаўшчыку. Форма з бетонам павольна паднялася, стала на рабро і гэтак-жа павольна перакінулася на другі бок. Атрымалася ўсё гэтак, як думала Ліда. Яны не зламалі драўляную форму, а знялі яе, аддзяліўшы ад застыглай жалезабетоннай масы. А раней-жа кожная форма ламалася і ішла на дровы. Для фармоўкі чарговай жалезабетоннай дэталі трэба было рабіць новую форму. Яўген Раманавіч падлічыў; зараз адной формай можна сфармаваць да 800 дэталей.

— Колькі лесу ў глум пусцілі, — прамовіў, гледзячы на зладжаную работу дзяўчат, парторг. — Чаму вы раней гэтага не прыдумалі?

— Вы нам таксама памаглі, — гаворыць Ліда, — падтрымалі нас.

— З табою ў нас, Ліда, заўсёды добра атрымліваецца, — загаварыла Надзя Ханкевіч, калі яны ўжо вярталіся дадому. Яна ўспомніла, як яны ў палявых умовах новабудоўлі скарацілі час сушкі бетону ў формах.

...Вясновым днём 1955 года на будоўлю прыехала невялічкая група людзей. Сярод іх была Ліда. Вакол распасціралася балотная пустэча. На голым месцы ўбілі невялічкія калочкі, зачапілі чырвоныя сцяжкі і паставілі палаткі. На фанернай дошчачцы, прыбітай да слупа, вывелі: «Васілевіцкая ДРЭС». Потым пачалі прыходзіць самазвалы, бульдозеры. Увачавідкі раслі шматкватэрныя жылыя дамы, пракладвалася шаша, будавалася чыгунка. Пачалі капаць катлаваны.

А крыху наводшыбе ад галоўнай будаўнічай пляцоўкі ўзводзіўся завод жалезабетонных канструкцый і розных дэталей. За год ён павінен даваць пяць тысяч кубаметраў зборнага жалезабетону.

Ліда разам з іншымі дзяўчатамі працавала на будаўніцтве завода падсобніцай. Дзяўчаты яе выбралі за старшую. Аднаго разу яны пачалі скардзіцца Лідзе: «Чаму гэта нас не падпускаюць да бетонамяшалак?» Тады Ліда пайшла да Яўгена Раманавіча. Яна сказала яму: «Завод наш аснашчоны новай тэхнікай, дык трэба асвойваць яе. А дзяўчат нашых і блізка не падпускаюць да гэтай тэхнікі. Гэта няправільна».

Яўген Раманавіч, падумаўшы, згадзіўся з ёю.

— Вось што, — прапанаваў ён, — вазьміцеся, пакажыце прыклад.

Яна не адразу зразумела пра што ідзе гаворка. Яўген Раманавіч растлумачыў:

— На заводзе не хапае бетоншчыкаў. Мы папросім адміністрацыю перавесці вас туды. Пойдзеце?

— Пайду, — сказала яна.

Бетоннаму заводу трэба было выпусціць першую партыю жалезабетонных вырабаў для чыгуначнай эстакады і насценныя блокі. Некаторыя з гэтых дэталей павінны былі важыць да 10 тон, а плошча іх — да 30 квадратных метраў.

Цесляры Рудніцкі і Савасцеенка загадзя зрабілі з дошак формы, расклалі іх на адкрытай пляцоўцы. Арматуршчыкі ўклалі туды арматуру. Ліда Палігоша з сваімі сяброўкамі Марыяй Стукач, Надзяй Ханкевіч і Зінай Кулёнак падрыхтавалі бетон і пачалі за-



**Цэх зборнага жалезабетону. Перадавыя работніцы Марыя Стукач і Надзея Ханкевіч укладваюць арматуру.**



**Лепшыя цесляры С. Рудніцкі, І. Сідараў і В. Савасцеенка падрыхтоўваюць апалубку.**

паўняць гэтыя формы. Дзяўчаты імкнуліся, каб паток падачы быў бесперапынны. З бетонамяшалак бетон ішоў проста ў формы. Яны ведалі, што праз 12—15 хвілін цэмент пачынае тужэць. А калі забавіцца, дык можа пагоршыцца якасць бетону.

Першая партыя форм запоўнена бетонам. Трэба было пачакаць 28 сутак, пакуль яны прасохнуць. А тым часам сяброўкі пачалі падрыхтоўваць бетон для заліўкі адкрытай пляцоўкі будучай падстанцыі. Лідзе хацелася як хутчэй убачыць вынік сваёй працы — першыя жалезабетонныя вырабы. Пад канец дня яна кожны раз ішла на пляцоўку. Упэўненым крокам яна ішла ад адной да другой формы, аглядвала іх. Яе займала адна думка: як скараціць час сушкі бетону, каб хутчэй рабіць жалезабетонныя канструкцыі. Думаючы пра гэта, яна доўга глядзела на вежавыя краны. Яны, здаецца, вельмі лёгка пераносілі з месца на месца масіўныя дзвярныя і аконныя блокі, кантэйнеры з цэглай. А сігнал кранаўшчыка як-бы яшчэ раз нагадваў Лідзе: «Чаго баішся? Давай хутчэй жалезабетон!»

Ліда ведала, што галоўны корпус станцыі будзе будавацца ў асноўным з буйных лёгкатыпавых жалезабетонных блокаў. Для гэтага спатрэбіцца 25 тысяч кубаметраў бетону. І калі яны будуць кожны раз чакаць партыю бетону 28 сутак, дык многа блокаў не наробіш. Многа гаварылі на сходах аб скарачэнні часу сушкі, а вынікаў пакуль што не было.

Аднаго разу Ліда сама расставіла формы на адкрытай пляцоўцы, дзе больш сонца. Арматуршчык камсамолец Фёдар Юдзенка расклаў сплеценую сталёвую арматуру на дно форм, а астатнія дзяўчаты пачалі запаўняць іх бетонам. Ліду радавала сонца. Забываючыся на ўсё, яна жмурылася, падстаўляла пад праменні твар. А сонца ўгравала добра ўжо. Каб усе дні былі такія, дык і бетон хутчэй высыхаў-бы.

Прыйшоўшы на завод, яна падыйшла да бетонамяшалкі. Вялізны барабан яе з грукатам паварочваўся і выліваў густую масу ў драўляны бункер. Раптам Ліда заўважыла, як на трубу, па якой ідзе гарачая вада, трапіў цэментавы раствор. Ён хутка пачаў выпарацца, ператвараючыся ў цвёрдую скарынку.

«Глядзі, як хутка сохне, — падумала Ліда. — Вось прыдумаць-бы нам, каб бетон цвярдзеў штучна...» Пра гэтую сваю думку яна расказала начальніку вытворчасці. Яўген Раманавіч крыху падумаў і сказаў:

— Слушная думка ў цябе. Адно — яе трэба аформіць тэхнічна.

Але дзяўчатам ужо не давялося «афармляць тэхнічна» сваю думку. Неўзабаве поруч з бетонным заводам пачалося будаўніцтва прапарачных камер. Мантажнікі зрабілі павець, праклалі туды парапровад. А дзяўчаты ўжо неслі ў камеру формы, запаўнялі іх бетонам. Калі ўсё было гатова, па трубах пусцілі пару, давялі тэмпературу да 70 градусаў. Пачалося штучнае ацвярдзенне. Лідзе здавалася, што час ідзе вельмі павольна. А колькі гадзін чакаць, яна таксама не ведала. А тут яшчэ арматуршчык Юдзенка не дае спакою.

— Ці хутка там «пірагі» вашы будуць гатовы?

І вось, нарэшце, наступілі радасныя хвіліны, якіх чакалі ўсе работнікі бетоннага завода. Праз 40 гадзін пасля фармоўкі зрабілі аналіз бетону. Ён аказаўся трывалым і сухім. Дзяўчаты разбілі форму, падчапілі гатовую жалезабетонную пліту да крука аўтакрана і вынеслі з камеры.

— От гэта «пірог»! — уставіў свой жарт арматуршчык Юдзенка, — за сорак гадзін спёкся.

Дзяўчаты зайшліся вясёлым смехам. Было чаго весяліцца. Не 28 сутак чакаць сушкі, а ўсяго сорак гадзін. У гэты дзень Ліда і яе сяброўкі адчувалі сябе шчаслівымі. Зараз ім ужо не давядзецца глядзець на сонца і чакаць яго літасці.

Так працуюць маладыя будаўнікі на новабудоўлі шостай пяцігодкі. І кожны з іх хоча, каб хутчэй здаць у эксплуатацыю буйнейшую ў рэспубліцы Васілевіцкую электрастанцыю, каб ужо ў 1957 годзе завіднелася электрычнае святло над Палескай зямлёй.

**г. Гомель.**



Перад пачаткам спектакля.

# „Марынка"

У зале беларускага тэатра оперы і балету вельмі ажыўлена. Сюды прышлі школьнікі і піянеры Мінска паслухаць дзіцячую оперу «Марынка». Лібрэта гэтай оперы напісана паэтэсай Э. Агняцвет. Новы твор расказвае аб тым, як вясковыя дзеці ў час Вялікай Айчыннай вайны выратавалі піянерскі сцяг.

У аснову пастаноўкі пакладзены рэальны факт. На адным са спектакляў прысутнічала сапраўдная гераіня, якая выратавала свой атрадны сцяг, — Марыя Галафаева. Цяпер яна комсамолка, студэнтка юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Дзецям вельмі падабаецца музыка оперы, напісаная заслужа-



Марыя Галафаева (злева) у час перапынку пазнаёмілася з выканаўцай ролі Марынкі Тамарай Ніжнікавай.



Аўтар музыкі оперы «Марынка» Г. К. Пукст сярод піонерак — удзельніц оперы.

Марынка ўцякае ад гітлераўцаў.



ным дзеячом мастацтваў БССР Рыгорам Канстанцінавічам Пукстам. Яны даўно ўжо ведаюць і співаюць яго песні. На мелодыях народных і масавых песень грунтуецца і гэты оперны твор. У арыях, дуэтах і трыё раскрываецца асабісты лёс герояў і іх узаемаадносіны паміж сабой.

Найбольш яркае ўражанне ў спектаклі пакідае вобраз Марынкі, створаны народнай артысткай БССР Т. Ніжнікавай. Гэта энергічная і настойлівая дзяўчынка, не пазбаўленая лірычнасці і фантастыкі. Асабліва тонка раскрывае артыстка драматычныя моманты. Марынка трапляе ў складанае становішча, але выходзіць з яго пераможцай. Ярка прагучэлі арыі «Заўтра на досвітку», «Твой дом фашысты падпалілі», «Скажыце, мілыя сасонкі». Тэма дружбы хораша раскрыта ў дуэце Марынкі і Саўкі.

Мужны і адважны піонер Саўка (артыстка Р. Асіпенка), партызанскі сувязны Кузьма (арт. Б. Нікольскі), малады партызан Юрка (арт. Г. Дзмітрыеў), настаўнік Сава (арт. А. Генералаў) з'яўляюцца прадстаўнікамі таго высокароднага савецкага асяроддзя, якое вырасціла і выхавала Марынку.

Праніклёна паказаны ў пастаноўцы ўзаемаадносіны Марынкі са сваёй клапатлівай маці Ганнай. Маладая артыстка Л. Галушкіна тонка перадала пачуцці маці ў другой дзеі. У дуэце маці са сваёй дачкой выразна прагучэла тэма савецкага патрыятызму:

То вецер свабоды любімай
У душны ўварваўся пакой.
То частка савецкай Радзімы
Знаходзіцца ў хаце маёй.

Пераканаўча гучаць словы аб тым, што:

Ёсць на свеце Масква!
І ніколі яна
Не пакіне у горы дзяцей!

Спектакль пастаўлены маладым рэжысёрам О. Маралёвым. У ім удаліся не толькі сцэны псіхалагічнага характару, але і чароўна-фантастычныя карціны, перададзеныя харэаграфічнымі сродкамі (балетмайстар К. Мулер). Танцы матылькоў, кветак, вавёрак выхоўваюць у дзяцей любоў да прыроды. Пачынаючы ад прыгожага афармлення (мастак М. Бліщ) і канчаючы займальнымі і дасціпнымі масавымі сцэнамі, усё гэта сведчыць аб тым, што пастаноўшчыкі прадумалі кожную дэталь сцэнічнага твору.

Значную працу з аркестрам прарабіў дырыжор І. Абраміс і з хорам — хормайстар Н. Прысёлкаў, таму аркестр і хор у спектаклі гучаць стройна, зладжана і выразна.

Трэба спыніцца і на недахопах, якіх, на вялікі жаль, не пазбег тэатр і асабліва пастаноўшчык, кампазітар і лібрэтыст. Гэта перш за ўсё датычыцца спецыфікі самога жанра, які так мала распрацаваны і ў беларускай музыцы і на сцэне. Пажадана, каб сюжэт твора быў больш паглыблены, а вобразы намаляваны мастацкі рознастайна. У аркестры, як і ўвогуле ў пастаноўцы, хацелася-б чуць і бачыць больш нацыянальных фарбаў.

... Закончыўся спектакль. Дзеці дружна апладыруюць артыстам, задаволеныя тым, што ім паказалі цікавы спектакль аб беларускіх партызанах.



Сувязны Кузьма (арт. Б. Нікольскі) раскідвае лістоўкі.

Новы оперны спектакль сведчыць аб тым, што нашы пісьменнікі, кампазітары і тэатральныя дзеячы пачалі больш клапоціцца аб эстэтычным выхаванні падрастаючага пакалення.

**А. ЕСАКОЎ.**

Сустрэча Юркі з Марынкай і Саўкам.
Фото М. Ананьіна.





# САКРЭТ

Ібрагім АБДУЛІН

Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

У мяне, сябры, ёсць адзін сакрэт. Я ўжо даўно збіраюся падзяліцца ім з вамі. Ды ўсё баюся, ці не будзе гэта здрадай у адносінах да таварыша, які расказаў мне гэтую гісторыю. Зайшоў ён неяк да мяне. Мы разгаварыліся, і вось даслоўна яго апавяданне:

— От з гарадоў да нас пачалі прыязджаць спецыялісты. Ну, не буду таіць, надта ўзрадавала ўсіх нас пастанова ЦК! Нашаму калгасу «Маяк» (у дужках адзначу, што старшыня гэтага калгаса і ёсць мой госць, а прозвішча яго Хакаў) патрэбны былі аграном і зоатэхнік. Я сказаў аб гэтым у райвыканкоме. Старшыня райвыканкома Ізмайлаў спачатку ўпіраўся: «Мажліва, патрываеш гадок, Хакаў? Ваш калгас перадавы, а мы ў першую чаргу пасылаем спецыялістаў сельскай гаспадаркі ў адстаючыя калгасы». Але я патрабаваў свайго: «Дайце мне перш-на-перш аднаго: ці зоатэхніка, ці агранома. Сёння мы, скажам, «Маяк», а заўтра — пудзіла агароднае. Вам-жа і самім нявыгадна, каб мы сталі пудзілам».

Засмяяўся Ізмайлаў і згадзіўся са мною. Накіраваў да нас агранома. Дзяўчыну. Ды яшчэ якую! Светлыя валасы завітыя, як каракуль, вейкі доўгія, загнутыя ўгору і чамусьці чорныя-чорныя; белы, як фарфаравы, тварык нібыта і не знаў, што такое сонца. На ножках блішчастыя лакавыя туфлі. А імя дык ці то знарок такое далі, ці то сама змяніла — Зямфіра. Хіба бываюць такія імёны ў башкірак альбо ў рускіх?

Дзяўчына яшчэ прыехаць не паспела, а слава аб ёй ужо разнеслася па ўсім калгасе. Прынёс яе ранейшы аграном Якараў. І кожнаму сустрэчнаму ён расказваў пра будучага агранома. Спачатку нельга было зразумець, ці ён ганіць, ці расхвальвае яе. Прыбег да мяне і пачаў:

— Горад хваліць — хвалі, а ў сяле жыві, як казалі некалі. Нібыта прыезджы з горада і добры, і разумны, а свой вясковы, — і гультай, і не ведае нічога...

— Пачакай, а хто цябе абзывае гультаём? — перабіваю я яго. — Праўда, адукацыі ў цябе малавата, гэтага не ўтоіш...

— А з гэтай малой адукацыяй хіба не працаваў Якараў і агратэхнікам і зоатэхнікам цэлых шэсць год? Працаваў! І мне здаецца, някепска працаваў. Някепска, так? Някепска. Кожны год пшанічны хлеб елі. У самыя лютыя маразы ніводнае ягнё не адубела. А цяпер Якараў не патрэбны! Цяпер ён нуль! Не, яшчэ прыдзе каза да воза!

— А хто табе казаў, што Якараў не патрэбны?

— Ты. Увесь калгас гаворыць.

— Я такіх слоў не гаварыў і не гавару.

— Дык нашто-ж ты запрашаеш аднекуль кагосьці на маё месца?

— На двух пасадах табе не справіцца. Будзеш у нас зоатэхнікам. Зразумей, гэтая дзяўчына інстытут закончыла. А ты...

— Ну, добра. Калі ў мяне адукацыя толькі за шэсць класаў, дык затое вопыту сем год. Вось і лічы: усяго разам атрымаецца трынаццаць. Калі я з арміі дэмабілізаваўся, палкавы ветурач тры дні ўпрошваў: «Старшына Якараў, заставайцеся на звыштэрміновую, я вас зраблю першакласным ветфельчарам». І ты сам пісаў мне, што ў калгасе нехапае рабочых рук, мала мужчын. Моў, прыязджай! Дурань я, паслухаў цябе. Вярнуўся, стараўся з усіх сіл. Ну скажы: стараўся я, ці не? А цяпер, вядома, Якараў — нуль... Ты думаеш, гэтая прыгажуня возьме груду зямлі ў свае ручкі з чырвонымі пазногцікамі, альбо будзе хлюпаць па гразі, дажджом, ці хадзіць у кірзавых ботах па балоце? Ды, плюнуць ёй на гэта! Месяцы два пабудзе і ўцячэ. Не я адзін, я чуў, у МТС пасмейваюцца: «Ну, у «Маяк» едзе залаты спецыяліст! І зубы, і пярсцёнкі, і завушніцы — усё залатое».

От тут я не ўтрымаўся.

— Не спяшайся выносіць прысуд, Якараў, — абарваў яго я.

Якараў захваляваўся:

— Ну, няхай, калі я спяшаюся, ты ўжо не спяшайся. Ты думаеш, я ад зайздрасці ўсё гэта гавару? Ды я ў нашым сяле радзіўся, вырас, тут і памру (ужо як-небудзь адмераеце два метры на могілках). Ніхто не скажа, што Якараў гультай. Якараў знойдзе работу, сям'ю прахарчуе. Мне вас шкада. Ты-ж сам на кожным сходзе румзаў, што спецыялісты патрэбны... Ну, цяпер дачакаўся — едзе спецыялістка... З яе дапамогай «Маяк» стане пражэктарам, на полі ўсё само будзе расці, без сяўбы. — Ён устаў. — Эх, ды што гаварыць табе! Ужо ўсёроўна! — махнуў ён рукою і выйшаў. Потым зноў вярнуўся: — А ты ведаеш, дзе яна працавала пасля заканчэння інстытута? У ювелірным магазіне, прадавала залатыя гадзіннікі, завушніцы, брыльянты. Каштоўны аграном едзе... Ха-ха-ха!

У гэтым смеху гучэлі ні то боль, ні то здзек, ні то абодва пачуцці разам.

Сляды ад яго ботаў жонка зацерла, а вось сляды ад яго слоў засталіся на сэрцы. Няўжо Якараў пляткар? Не можа быць! Не спіцца мне. І на самай справе, чаму раённыя кіраўнікі не хочуць зразумець наша становішча? Чаму не прышлюць добрага агранома? Ну, няхай, прыедзе гэтая Зямфіра да нас. Дзяўчо! Лялька! Будзе тут паказваць свае капрызы, маляваццa. Раз у тыдзень на каламажцы выедзе ў поле. Не сыходзячы з каламажкі, запытаецца: «Скажыце, таварыш фурман, калі вы сеялі гэты авёс?» Дзед Іхсан засмяецца: «Дачушка, у нас гэта называюць не авёс, а пшаніца».

Пойдуць нелады. Дзяўчына пакрыўдзіцца і ўцячэ. Няхай уцякае. Другі аграном прыедзе. Справа не ў тым. А народ-жа што падумае. Не, непатрэбна нам яна. Як-небудзь без агранома перацерпім. Праз два гады малодшы сын Карыма-бабая заканчвае інстытут, ён і прыедзе...

Устаў я з пасцелі, адзеўся і, не гледзячы на ноч, званю старшыні райвыканкома Ізмайлаву. Спачатку бяру на хітрыкі:

— Таварыш Ізмайлаў, — кажу, — наш калгас, дзякуй богу, наперадзе іншых. Вы ўжо таго агранома накіруйце ў адсталы калгас.

Але хіба Ізмайлава перахітрыш? Ён нібыта і па тэлефону твой твар бачыць.

— Ты чаго там брыкаешся? — кажа. — Сам-жа прыходзіў да мяне клянчыць.

— Я не брыкаюся, я турбуюся не пра сябе аднаго, а пра ўвесь раён.

Але хіба пераканаеш яго! Смяецца:

— Ці не турбуе цябе яе залатыя пярсцёнак? Ды яго-ж скідаюць не толькі тады, як ідуць у поле, але і як за гаршкі бяруцца.

Я гавару:

— Таварыш Ізмайлаў, я не толькі яе пярсцёнка, і пальчыкаў не бачыў. Я толькі...

— Ведаю, ведаю, што ты хочаш сказаць. Прыгледзься да яе, пагутары. Мажліва, меркаванне тваё і зменіцца.

Я не вытрымаў і крычу:

— А якое ваша меркаванне?

— Не прывыкай жыць адным меркаваннем начальства, Хакаў. Ведай адно: золата ні ў вадзе, ні ў гліне не іржавее. Не бядуй! — а сам рагоча.

Настрой мой не палепшаў. І гэты бесклапотны рогат Ізмайлава зусім недарэчны. І, як на

злосць, на другі-ж дзень мяне выклікалі ў раён, а там давялося паехаць ва Уфу.

Прабыў я там дзён дзесяць. Вяртаюся назад. Не даехаў да сяла, саскочыў з воза: праверыць, як пасеялі.

Я доўга ішоў па полі. Нарэшце, дабраўся да культбудкі трактарыстаў. Заходжу. Гляджу, там сядзіць трактарыст Сафуан і чысціць пазногці. Што з ім здарылася? Раней ён не тое, каб пазногці пачысціць, твар па некалькі дзён не мыў, хадзіў мурзаты. Зараз памыты, рот расплываецца ва ўсмешцы. Сказаць па шчырасці, я не асабліва люблю гэтага Сафуана. Гультаяваты хлопец. Трактар у яго заўсёды псуецца. А сёння... Нічога не разумею! На дошцы паказчыкаў яго прозвішча стаіць на трэцім месцы. Гэ, дзіўныя навіны адбыліся за гэтыя дзесяць дзён!

— Ты што тут робіш, Сафуан?— пытаю.

— Хіба не бачыш?

— Бачыць-та бачу,— і тут ужо я вырашыў без хітрыкаў, гаварыць проста:— Ды цябе не пазнаць, хлопча!..

— А ты быў на маім загоне? Бачыў, як я паараў?

— Ці не рана выхваляешся, Сафуан?

— Мяне сам аграном хваліў.

— Які аграном?

— Наш аграном.

— Якараў, ці што?

— Зямфіра!

— Яна хіба на полі?

— Гм...— Ён устаў, пачысціў шчоткай кепку, падцягнуў папругу, потым неяк здзіўлена паглядзеў на мяне, паўтарыў сваё «гм» і выйшаў.

Нічога не разумею... Зараз супыню яго і дазнаюся ўсё пра Зямфіру. Не, нялоўка старшыні калгаса распытваць пра агранома ў радавога калгасніка. Але хіба трактарыст Сафуан не хварэе так, як і я, за гаспадарку? Выходжу. Але майго Сафуана і след прастыў. Ён ужо далёка імчыцца на сваім веласіпедзе, і толькі гразь ляціць з-пад колаў. Гляджу, удалечыні хтосьці ходзіць па раллі. То нагнецца, штосьці возьме ў рукі, стане, разглядае. Хто-ж гэта? Падыйсці-б бліжэй. Не, стаміўся. І Зямфіру трэба пабачыць. Вярнуўся я ў сяло і адразу ў праўленне.

Калі першае маё пытанне было пра сяўбу, дык другое — пра Зямфіру. Рахункавод Халімаў уткнуўся ў лічыльнікі, а Якараў падпёр кулакамі галаву і толькі штосьці мармыча сабе пад нос. Што ні запытаюся — ніхто не адказвае мне толкам.

Нарэшце, Якараў не вытрымаў, нават зубамі заскрыгатаў:

— Раздурылі. Цяпер яна накрэмзала заметку ў раённую газету і смяецца з нас.

Я ўсхапіўся.

— Якую заметку? Пакажыце.

Рахункавод, не ўзнімаючы галавы, мармытнуў:

— Заметка яшчэ не надрукавана. Аграном чытаў яе парторгу.

Я чалавек цярплівы, не хвалююся дарэмна. І цяпер стрымаўся, вельмі спакойна адказваю:

— Ну што-ж, калі ёй ёсць аб чым пісаць, няхай піша. Яе воля.

Але мае спакойныя словы чамусьці не супакоілі нікога. Якараў зарыпеў крэслам. А маленькі, худы рахункавод раптам накінуўся на дужага, як бык, Якарава:

— Ты!.. Ты ва ўсім вінаваты!

Якараў нават усхапіўся з крэсла.

— Я?..

— А хто-ж? Хто аб ёй разносіў плёткі па сяле? Можа я?..

— Ды ты разумееш?..

— Чаго ты вылупіў на мяне вочы? Не спалохаюся.

— Давай зойдзем у кабінет,— кажу Якараву.— Штосьці я не разумею вашых адносін да Зямфіры. Што ў вас тут адбылося? Хадзем пагаворым.

І тут, быццам дачакаўшыся гэтага, у праўленне ўвайшла дзяўчына, у ватоўцы, на нагах — маленькія боцікі, на галаве — квяцістая касынка, павязаная па-гарадскому, з невялічкім хвосцікам на патыліцы. Хоць мы і не бачыліся ніколі, але адразу пазналі адзін аднаго.

— Добры дзень. Вы таварыш Хакаў? Я Зямфіра.

Яна села, кінула сярдзіты позірк спачатку на Халімава, потым на Якарава. Дастала з кішэні блакноцік, аўтаручку, пачала штосьці пісаць. У канторы запанавала панурая ціша. Мне зрабілася ніякавата. Я асцярожна падыйшоў да яе і, стараючыся гаварыць як можна больш шчыра, запытаўся:

— Як вы ўладкаваліся? Задаволены?

Яна кінула ў мой бок насмешлівы позірк:

— Дзякую. Хоць ваш ветфельчар мае чацвёра дзяцей і жыве ў адным пакоі, мне адвялі цэлых тры. Перанеслі з канторы радыёлу, вывозяць мяне на поле толькі на каламажцы з аксамітнай спінкай. Надта клапоцяцца, у спёку, у дождж нават не пускаюць выйсці. Прыставілі да мяне спецыяльнага чалавека. Жыву, нібыта пані, ці як жонка старшыні сельпо Галямава, якая песціцца ўсё лета ў цяньку. Кажуць, гэта вы загадалі так паклапаціцца пра мяне: каб не змагла і ў полі бываць, толькі адпачывала?

Я не ведаў, што адказаць. Пачырванеў, стаю і маўчу. Вось табе Зямфіра з залатымі пярсцёнкамі!

— Ну, досыць сядзець, звесіўшы нос. Паехалі ў поле!— звярнулася яна да фурмана.— Дажджу нечага баяцца, жыта лепшае ўродзіць. На ўчастку каля Чарлака авёс дрэнна пасеялі. Я толькі што адтуль. Загон трэба перасеяць нанава, таварыш Хакаў.

— Зводка паслана ўжо ў раён,—мармытнуў Халімаў.

— Няхай будзе пасланай. Мы працуем не дзеля зводак, а дзеля ўраджаю, дзеля калгаса.

Халімаў зірнуў на мяне, чакаючы, што-ж адкажу я.

— Паедзем разам, пабачым, — сказаў я. — І ты не спрачайся з аграномам, Халімаў.

На Якарава я глядзець не мог. Сорамна было.

Зямфіра ўзнялася, схавала рукі ў кішэні ватоўкі. Да чаго-ж гэта вопратка ішла да яе, нібыта яна ўсё жыццё толькі ў ёй і хадзіла!

— Сёння апошні раз еду на калымажцы. У нас-жа на складзе ёсць матацыкл. Адраманце яго, МТС пабач, — сказала яна Халімаву і падыйшла да фурмана, усміхнулася і адразу стала такой любай, сарамлівай дзяўчынкай. — Паехалі, дождж, здаецца, сціхае.

І мы паехалі на поле.

А ўвечары яна прышла да мяне, каб пагаварыць адкрыта, высветліць усе непаразуменні. Дзяўчыну было не пазнаць. У туфлях на высокіх абцасах, у капронавых панчохах, у



Пятрусь МАКАЛЬ

## Ускраем вёскі

Як лес, калышуцца штыкі —
Ідуць салдаты ўскраем вёскі.
І ўслед за імі — хлапчукі,
Нібы за песняй падгалоскі.

Зара паблекла, і ў акно
Ужо крадзецца морак шэры,
І маці, пэўна ўжо даўно,
Дзяцей гукае на вячэру.

Ды не да гэтага малым:
Хвалюююць іх другія справы.
Карціць прабегчы зараз ім
Хоць воддаль ля салдацкай славы.

І так глядзяць яны на строй,
Нібыта ў ім зямлі краса ўся...
Ты з гэтай светлаю парой
І сам нядаўна развітаўся.

Бліскучы твой нагрудны знак
За ордэн дзетвара прымае.
І тут, вядома, абы-як
Табе ісці не выпадае.

Пра стому думкі ўсе пакінь,
Забудзь, што ты поўсутак крочыш...
Ты-ж добра ведаеш, якім
Цябе юнацтва бачыць хоча.

## У вагоне

Дождж вясенні несціхана лье,
Кроплямі па шкле аконным скача...
У вагоне гучна хлопчык плача
І заснуць суседзям не дае.

Маці-ж супакойвае няспынна
Двухгадовага грамадзяніна.
І на пасажыраў, што навокал,
Пазірае вінаватым вокам.

Удзячна я гляджу на клопат матчын:
Недзе дома і ў мяне сям'я,
Сын, які мяне ў жыцці не бачыў,
Гэтак, як яго не бачыў я.

І рукой салдацкай, агрубелай,
Што ласкаць прывыкла сталь штыка,
Асцярожна і зусім няўмела
Пачынаю гладзіць хлапчука.

І усе здзіўляюцца ў вагоне:
Не ад матчыных пяшчотных рук,
Ад маёй шурпатае далоні
Раптам суцяшаецца хлапчук.

Мо' напомніў я малому бацьку,
Што яму ўяўляўся як праз сон,
Ну, а можа, ў постаці салдацкай
Проста моц і сілу ўбачыў ён.

І, напэўна, каб не хвіля гэта
Мне было-б самому нязгад,
Колькі ласкі і пяшчоты светлай
У тваёй суровасці, салдат.

Мікола ХВЕДАРОВІЧ

* * *

Пад сонцам даль праменіцца,
Вясна прыходзіць зноў.
Вада бяжыць і пеніцца
Між ціхіх берагоў.
Паводкамі глыбокімі
Заліты паплавы,
Высока пад аблокамі
Курлычуць жураўы.
І ў воблаках купаюцца
Над тонкім хмызняком,
Да рэчкі прыглядаюцца,
Дзе быў іх ціхі дом.
Там, дзе стаіць панурая
У зацішку альха,
Чаромха белакурая
Чакае жаніха.
Яна стаіць пад месяцам
З бляляваю касой,
І ўся, як далеч, свеціцца
Вясновою красой.
Празрыстая і свежая,
Глядзіць на зорны шлях,
Дзе над калгаснай вежаю
Лунае майскі сцяг.

шаўковай сукенцы, на пальцы залаты пярсцёнак. Не налюбавацца! Спачатку мы гаварылі аб калгасных справах. Мажліва, таму, што яна была ў нас новы чалавек і глядзела на ўсё свежым вокам, яна ўжо шмат заўважыла, і кожнае слова яе было абдуманае, асцярожнае.

Потым яна змоўкла, расчыніла акно. У гародчыку пахла чаромхай. Скрозь галінкі ў кветках відаць быў серп маладзіка. Зямфіра раптам засумавала. Тут мне нават стала шкада яе. Як ні кажы, з горада, не лёгка ёй прывыкнуць да вясковага жыцця.

— Не сумуйце, — сказаў я.

Нібыта адганяючы назойлівыя думкі, яна страсянула галавой.

— Таварыш Хакаў, — сказала яна, — я ўсё ведаю, што вы пра мяне думалі. Байкам Якарава паверылі. А можа, гэта няпраўда?

— Не, праўда, Земфіра́.

І тут я, уражаны выслухаў такую гісторыю.

— Не Земфіра́, а Зямфіра,—сказала яна.— Цыганскае імя. Скажыце, няўжо я падобна на цыганку? Я-ж башкірка. Родзічам маім спадабаліся «Цыганы» Пушкіна, вось яны і назвалі сваю першую дачку імем героіні. Хоць справа і не ў імені, аднак, я была-б рада, калі-б мяне звалі Зухра. Так і звалі некаторыя. Людзей спачатку палохае маё імя, а потым мой выгляд. Вы паверыце, таварыш Хакаў, я, з тае пары, як помню сябе, любіла спорт. Зімой я не скідала з ног лыжы, а летам з вады не вылазіла... Многія людзі, асабліва мужчыны, паглядзяць на мяне і смяюцца: які аграном з яе? А я палову маленства пражыла на вёсцы. Усё помню. Чаму ў горадзе засталася пасля заканчэння інстытута? Такі лёс выпаў. Упадобала я аднаго чалавека. Ён таксама мяне пакахаў. Пажаніліся. Як атрымалі дыпломы, ён уладзіўся ў горадзе. А мне забараніў працаваць. Я пярэчыла, не згаджалася з ім. Тады ён сказаў: «Калі табе сумна сядзець дома, паступай у ювеліргандаль. Там мой знаёмы. Я табе дапамагу». Цяжка мне было. Я не хацела туды ісці працаваць, але кахала яго. Думала яго пераканаць. Да таго пайшло, што я вырашыла пакінуць мужа... Але ці лёгка разлучыцца з любімым чалавекам, таварыш Хакаў? Працую, сама ў магазіне, а душа на вёсцы, у полі, на рэчцы. А тут заклік партыі. Я ніколечкі не вагалася. Муж спрабаваў угаварваць і сварыцца... Я стаяла на сваім. «Што-ж, кажу, тады давай разыйдземся». Ён захліпаў: «Я, кажа, без цябе не магу жыць». «Добра, адказваю, паедзем у калгас разам». «Мама, кажа, надта любіць гарадскі тэатр, без яго змарнее, я не магу павезці яе ў глухамань...» Так мы і разышліся. Толькі пярсцёнак ды завушніцы я з сабой забрала... Ха-ха-ха! Што-ж, яны мне да твару, праўда?

Калі Зямфіра гэта расказала і пайшла, я яшчэ доўга, узлакаціўшыся на падаконнік, думаў аб ёй...

На развітанне Хакаў пацiснуў мне руку і сказаў:

— Чамусьці, прыяцель, мы мяркуем аб чалавеку па яго вонкаваму выгляду і часта памыляемся. Аб гэтым выпадку я нават саромеюся расказваць людзям. І ты нікому не кажы! Сакрэт!

Я выйшаў праводзіць Хакава.

— Ну, а як далей? Як цяпер працуе Зямфіра?

— Як працуе? Калгаснікі яе слухаюцца, паважаюць больш, чым мяне. Часамі нават зайздросна крышку. Хутка, напэўна, дадуць мне змену. Народ, здаецца, пагаварвае аб гэтым.

— А Якараў папрасіў у яе прабачэння, памірыўся з ёю?

— Не. Паехаў вучыцца. «Пакуль, кажа, не атрымаю дыплома, не вярнуся ў сяло».

— А ювелірны муж? Што чуваць пра яго?

— Муж прыслаў развод. Мамка яго цераз дзень бывае ў тэатры, вось і засватала там сваму сыночку нейкую балерыну. А Зямфіра... Кажуць, у сэрцы яе ёсць новая радасць. Баюся пакуль і расказваць...

Хакаў сеў у свайго «Масквіча» і паехаў. А я вось узяў ды і расказаў вам усё гэта па сакрэту.

**Пераклаў з башкірскай мовы**
**І. ГРАМОВІЧ.**

# Будзе зроблена з торфу

«Беларусь — краіна балот», «Беларусь вельмі багатая залежамі торфу» — гаворым мы. Гэта і сапраўды так. Агульная тэрыторыя залежаў торфу складае ў нашай рэспубліцы каля трох мільёнаў гектараў, а яго запасы вылічаюцца некалькімі мільярдамі тон.

Але варта паслухаць нашых вучоных, і можна пачуць такія сцвярджэнні. Нічога падобнага, — растлумачваюць яны. Не так ужо і многа торфу ў рэспубліцы. Трэба-ж мець на ўвазе, што пры існуючым узроўні здабычы торфу наўрад ці хопіць яго на сто год. Да таго-ж, здабыча ўвесь час расце. Напрыклад, у 1955 годзе яна склала 187 працэнтаў да ўзроўню 1950 года і 216 працэнтаў да здабычы перадваеннага часу. Згодна шостага пяцігадовага плана, зацверджанага XX з'ездам КПСС, здабыча торфу ўзрасце на 80 працэнтаў. Усё большая колькасць торфу патрабуецца для цеплаэлектрастанцый, для фабрык, заводаў. Вядома, што ў Беларусі 80 працэнтаў электраэнергіі атрымліваецца за кошт спальвання торфу.

Значыць, да выдаткавання торфу трэба адносіцца эканомна, беражліва, выкарыстоўваць яго поўнасцю.

Даследаванні, распачатыя ў гэтай галіне, пацвердзілі, што з торфу можна здабываць амаль такую-ж колькасць хімічных прадуктаў, як і з вугалю. Так у Беларусі пачынае ствараццa зусім новая прамысловасць — торфахімічная.

Што-ж можна атрымаць з торфу? — задалі мы пытанне дырэктару Інстытута торфу Акадэміі навук БССР, члену-карэспандэнту АН БССР прафесару Пятру Іларыёнавічу Бялькевічу і супрацоўнікам інстытута. У адказ яны расказалі многа цікавага аб багатых выніках даследаванняў савецкіх вучоных у гэтай галіне.

## СПАЧАТКУ — ТАРФЯНЫ ГАЗ

Усім вядома, што пры кожным буйным сталеплавільным або шклозаводзе ёсць свае газастанцыі. Тут торф газіфіцыруецца, газ падаецца ў мартэны або машынна-ванныя печы для атрымання ў іх высокай тэмпературы, здольнай расплавіць сталь і шкло. У Савецкім Саюзе штогод газіфіцыруецца толькі на буйных станцыях больш 2 мільёнаў тон торфу. Гэта дае вялікую карысць, бо кожны кубічны метр тарфянога газу дае 1200—1400 вялікіх калорый цяпла.

Пры газіфікацыі атрымліваецца не толькі газ, але і тарфяныя смолы. Раней было невядома, як іх выкарыстоўваць; да таго-ж сцёкавыя воды станцый вельмі ядавітыя, яны атручваюць водныя басейны, рэкі, паветра. Трэба было знайсці нейкія шляхі ачысткі сцёкавых вод і перапрацоўкі тарфяной смалы.

Вучоныя нямала папрацавалі, пакуль знайшлі сродкі ачысткі сцёкавых вод і раскладання тарфяной смалы. Вынікі аказаліся вельмі добрымі.

## З АДНОЙ ТОНЫ СМАЛЫ

Перш за ўсё выявілася, што калі раскласці тону смалы, то з яе атрымліваецца 280 кубічных метраў газу з цеплатворнай здольнасцю, роўнай 10 тысячам вялікіх калорый з кожнага кубаметра. Але гэта далёка не ўсё. Яшчэ атрымліваецца 14,8 кілаграма фенолу, з якога потым вырабляецца карболавая кіслата і якi ідзе на вытворчасць фарбавальнікаў, узрыўчаткі, дэзінфектараў, асабліва для выпрацоўкі пластмас, і 7,1 кілаграма этылену, з якога ў сваю чаргу здабываюцца хімікаты для апрацоўкі недаспелых пладоў і гародніны: гэта значна паскарае іх выспяванне і павышае якасць. А галоўнае — этылен служыць для атрымання этылавага (віннага) спірту. Тона тарфяной смалы дае яшчэ 240 кілаграмаў фарсункавага вадкага паліва, 117 кілаграмаў электроднага коксу, амаль 600 кілаграмаў матэрыялу для пакрыцця дарог, або 144 кілаграмы шпалапрасмольваючага масла, а таксама шмат іншых карысных хімічных рэчываў. Вось якое багацце закладзена ў адной тоне тарфяной смалы!

Усё гэта атрымана пакуль што ў хімічнай лабараторыі. На існуючых смолазаводах справа абстаіць прасцей. Да гэтага часу са смалы выдзяляюць газ, дарожна-вяжучыя рэчывы і групу антысептыкаў. Антысептыкі, дарэчы кажучы, маюць вялікае значэнне. Яны ўжываюцца для прасмольвання чыгуначных шпал, тэлеграфных слупоў, крапёжнага лесу, драўляных дэталей для гідратэхнічных збудаванняў. Дастаткова сказаць, што 25 працэнтаў



**У лабараторыі тарфяных воскаў. Кандыдат тэхнічных навук О. І. Мазіна, інжынер А. С. Сасім і кандыдат тэхнічных навук Ф. Л. Кагановіч за даследаваннем узораў тарфянога воску.**



Дырэктар Навукова-даследчага інстытута торфу АН БССР доктар хімічных навук, член-карэспандэнт АН БССР Пётр Іларыёнавіч Бялькевіч.
Фото С. Чырэшкіна.

тэлеграфных слупоў даводзілася-б штогод замяняць, калі-б яны не былі абаронены ад гніення антысептычнымі сродкамі.

Шостым пяцігадовым планам БССР прадугледжана, напрыклад, будаўніцтва смолапераапрацоўчага завода на базе аднаго з буйнейшых у Совецкім Саюзе Гомельскага шклозавода, які карыстаецца газам для сваіх машынна-ванных печаў. Толькі антысептычных сродкаў смолапераапрацоўчы завод дасць столькі, што пры кансервацыі антысептыкамі драўніны і павелічэння за кошт гэтага яе тэрміну службы будзе дасягнута эканомія ў 150 мільёнаў рублёў у год.

### ШТО ДАСЦЬ АБЯСШКОДЖАННЕ ПАДСМОЛЬНЫХ ВОД

Вырашэнне задачы ачысткі сцёкавых вод нясе вялікую эканомію нашым сталеліцейным заводам, мартэнам, шклозаводам, якія карыстаюцца тарфяным газам, дазваляе аздаравіць іх тэрыторыю.

Аднак, каштоўныя рэчывы растворany ў падсмольнай вадзе ў невялікай колькасці, і таму нашым вучоным давялося пераадолець нямала цяжкасцей, пакуль была створана тэхналагічная схема ачысткі і абясшкоджання падсмольных вод. Паявілася магчымасць атрымліваць сульфат-амоній, воцатна-кальцыевы парашок і 15 працэнтаў плотнага астатку, які ўжываецца ў ліцейнай вытворчасці.

Згодна схемы інстытута, у шостай пяцігодцы на Гомельскай газагенератарнай станцыі будзе пабудавана спецыяльная ўстаноўка для ачысткі сцёкавых вод. Падлічана, што толькі ад адной установкі будзе атрыманы вялікі эфект: яна дасць 850 тон воцатнай кіслаты, якая ідзе для вырабу ацэцілцэлюлёзы, пластмас, арганічных растваральнікаў, фармацэўтычных прэпаратаў, звычайнага харчовага воцату і г. д., і 3—4 тысячы тон сульфат-амонія, які выкарыстоўваецца ў якасці ўгнаення на палях. Да таго-ж, каб атрымаць такую-ж колькасць кіслаты іншым спосабам, трэба перапрацаваць 60 тысяч кубаметраў драўніны.

### ВОСК, ТАННЕЙШЫ ЗА ІМПАРТНЫ

У Поўднёвай Амерыцы расце своеасаблівая пальма, лісце і ствол якой пад трапічным сонцам выдзяляюць цягучую светлажоўтую масу — воск. Гэты воск, пад назвай карнаубскага, выкарыстоўваецца ў самых розных галінах прамысловасці. Патрэба ў ім такая вялікая, што немцы пачалі даследаванні з тым, каб гэты воск атрымліваць з каменнага вугалю.

У выніку лабараторных даследаванняў нашых вучоных стала вядома, што воск ёсць у торфе, хоць далёка і не ўсюды. Высветлілася, што яго больш у верхавым торфе, чым у нізінным, але выдзяляць яго з торфу было нялёгка.

Група работнікаў інстытута на чале з прафесарам П. І. Бялькевічам, прафесарам В. І. Ракоўскім пасля доўгіх творчых пошукаў распрацавала схему пабудовы даследча-вытворчай установкі для перапрацоўкі торфу. Кускавы торф здрабняўся і сартыраваўся, а пасля змяшчаўся ў спецыяльны апарат — экстрактар, дзе прамываўся адпаведнай вадкасцю. З экстрактара з торфу выбіраўся воск, парафін і смолы. Потым вадкасць з растворанымі ў ёй рэчывамі паступала ў другі апарат — выпарнік, дзе і выпаралася, а ў выпарніку заставаўся тарфяны бітум. Пары з выпарніка вярталіся зноў у экстрактар. Аддзяліць воск ад парафіна і смол было лягчэй, і, на радасць усіх супрацоўнікаў інстытута, былі атрыманы першыя кілаграмы воску.

Абсалютна сухі торф дае ад 3 да 11 працэнтаў воску. Цікава, што пасля такой ачысткі торфу ён у якасці паліва становіцца толькі лепшым. Брыкеты такога торфу значна менш паглынаюць ваду. Калі такі брыкет пакласці на месяц у ваду, то толькі тады яго вільготнасць узрасце на 45 працэнтаў.

...Ці бачылі вы, як прыгожа зіхацяць на сонцы легкавыя аўтамабілі? Справа не толькі ў тым, што яны пакрыты добрым лакам. Пасля афарбоўкі яны пакрываюцца спецыяльнай пастай, у састаў якой уваходзіць воск. Хіба не прыходзілася вам любавацца бліскучай паверхняй добра апрацаванай мэблі? Гэта таму, што яна таксама пакрывалася воскам. Воск уваходзіць у састаў абутковых крэмаў, з'яўляецца замяняльнікам харчовай сыравіны — стэарыну для дакладнага ліцця ў металаапрацоўчай прамысловасці; ён патрэбны пры вытворчасці капіравальнай паперы, алоўкаў, ідзе на прыгатаванне паст для паліроўкі нікельных металічных пакрыццяў і вырабаў з алюмініева-крэмневых сплаваў. Воск вельмі неабходны пры апрацоўцы штучных скур. Дарэчы, у ім маюць неабходнасць і кандытарскія фабрыкі. Мала хто ведае, што для таго, каб шакаладнае дражэ не зліпалася, яно таксама пакрываецца чыстым воскам. Але гэта, безумоўна, далёка не ўсё. Больш 50 галін прамысловасці маюць патрэбу ў воску.

Можна спытаць: а чаму не выкарыстаць для гэтай мэты пчаліны воск? Уся справа тут у тэмпературы плаўлення. Тарфяны воск плавіцца пры тэмпературы 87$^0$, а пчаліны — значна ніжэй. З-за гэтых і некаторых іншых якасцей нам і прыходзілася ўвозіць многа карнаубскага, або мантан-воску.

Наша прамысловасць зараз мае патрэбу ў цвёрдых тугаплаўкіх восках. Варта было інстытуту паслаць узоры выраблена га воску ў арганізацыі, якія такі воск выкарыстоўваюць, як у адказ пасыпаліся пісьмы з просьбай прысылаць яго вялікую колькасць. Шостым пяцігадовым планам прадугледжана пабудова ў хуткім часе ў Беларусі даследча-прамысловага воскавага завода. Тым самым пачне развівацца айчынная воскавая прамысловасць.

### ЗА ДАЛЕЙШЫЯ ГЛЫБОКІЯ ДАСЛЕДАВАННІ

Такім чынам выявілася, што здабываемыя з торфу рэчывы патрэбны ў металургічнай, хімічнай, харчовай, медыцынскай і іншай прамысловасці. Але яшчэ далёка не ўсё вядома пра торф. Перад беларускімі вучонымі ў шостай пяцігодцы стаяць не толькі вялікія практычныя задачы па арганізацыі воскавай прамысловасці і будаўніцтву смола-пераапрацоўчых заводаў, але і не менш важныя задачы далейшага вывучэння торфу і ўсяго таго, што можна з яго атрымаць.

**В. ШАЦІЛА.**

Мікола **АУРАМЧЫК**

## Дарогі майго края

Дарогі, родныя дарогі!
Як быццам пратапталі вас:
Прамыя — у часы трывогі,
Лучыстыя — ў спакойны час.

Жыццё праклала вас на ўлонні
Лугоў, узгоркаў і палёў,
Нібы маршчыны на далоні
Сярод крывавых мазалёў.

Перакрыжоўваліся грозна
Тут нашы ўласныя шляхі
З шляхамі крыжаносцаў розных,
Як пікі, шаблі і штыхі.

Абапал вас ў дубровах светлых
Народ мой катаў падсцярог
І пазаблытваў іх у петлях
Лясных прасёлачных дарог.

Тут, на зямлі многапакутнай,
Каля дарогі кожны схіл
Асветлен зоркай пяцікутнай,
Узнятай на гарбах магіл.

Калі праходзіць будзеш блізка,
Стань з непакрытай галавой
Ля гэтых сціплых абеліскаў
Салдацкай славы баявой.

Дзе сябры леглі, як снапы,
Там абеліскі — край дарогі,
Як на шляхах да перамогі
Кіламетровыя слупы.

Генадзь **БУРАЎКІН**

## Веснавое

Сёння я незвычайна радасны,
Ну не хлопец —
усмешка адна:
Цеплынёю дваццаціградуснай
Абагрэла мяне вясна.

Люстры-лужыны проста ў вочы
Сотні сонцаў мне навалі.
І лягчэй, і прыемней крочыць
Па сырой адагрэтай зямлі.

І паветра здаецца мядовым,
І нябёсы — чысцей і сіней.
Я іду,
дваццаціградовы,
І дзвіночаты глядзяць на мяне.

І, напэўна, таму, што рады я
Захапленню ў вачах дзяўчат,
Так пяшчотна спявае радыё,
Так свавольна звініць ручай.

А каб гэтак было бясконца
І каб цень у душу не залез,
Вось вазьму ў спадарожнікі сонца
І на ноч не пушчу за лес.

І пайду па зямлі з ім,
радасны,
Ну не хлопец —
усмешка адна.
Цеплынёю дваццаціградуснай
Абагрэла мяне вясна.

## Школьныя акцёры

Дзе вы сёння, школьныя акцёры —
Неспакойны, баявы народ?
Можа і забыўся ўжо каторы,
Колькі ў школе мелі мы турбот!

Як на рэпетыцыях, бывала,
Фізіку вучылі у кутку,
Як сядзець да ночы не давала
Вартаўнічка нашаму гуртку!..

Як мы хваляваліся на сцэне,
Калі ў зале гаснула святло,
І якое шчырае натхненне
Нам заўжды памочнікам было!

Аніколі гэтых дзён гарэння
Нельга ні згасіць, ні разлюбіць:
Мы-ж такімі, як былі на сцэне,
І ў самім жыцці імкнемся быць.

А. **ВЯРЦІНСКІ**

## Сястра

Яна прысніцца 'шчэ не раз нам —
З сваёю мілай дабратой,
З паглядам задушэўным, ясным
І лёгкай, стройнаю хадой.
Чакаем, помню, яе змены,
Бо добра ведаем усе,
Што нейкай цеплыні адменнай
Яна ў палату прынясе.
Яна ўваходзіла — і жарты
Ляцелі к ёй наперабой.
І кожны тут хацеў быць вартым
Яе увагі дарагой.
Пагляд дзяўчыны заіскрыцца
Яшчэ прываблівей тады.
Старэйшы заў яе — сястрыцай
І проста Кацяй — малады.
І нездарма сусед з павязкай
Мне гаварыў па вечарах,
Што і павязка — проста ласка
У спрытных кацiных руках.
То жартаваў, што нават лішні
Дзянёк тут палежаць не грэх, —
Калі гучаў сястры увішнай
Гарэзлівы, вясёлы смех.
Калі-ж збіраўся хто дадому,
Не так развітваўся ён з ёй,
Як з медсястрой даўно знаёмай, —
А нібы з роднаю сястрой.



У час месячніка венгера-савецкай дружбы ў Мінску пабывалі венгерскія студэнты, якія вучацца ў Савецкім Саюзе. Студэнты пабывалі ў вышэйшых навучальных установах Мінска, гутарылі з беларускімі студэнтамі. На здымку: венгерскія студэнты на вуліцах Мінска.

Фото Ф. Бачылы.

# ПЕРШЫЯ АВАНСЫ

Грэскі раён, калгас імя Кірава. Сёмы дзень месяца. Дзень выплаты грашовага авансу ў лік працадзён.

Вось што даведаліся мы каля стала касіра ў гэты дзень.

Па плану кожны працадзень, акрамя значнай натуральнай аплаты — збожжам, бульбай, мёдам, фуражом, пасля заканчэння года будзе аплочаны пятнаццаццю рублямі грошай. У дні палучак цяпер на кожны працадзень выплачваецца па восем рублёў.

Адзін за другім падыходзяць да стала касіра калгаснікі, ставяць свае подпісы ў плацёжнай ведамасці. Не спяшаючыся пералічваюць грошы. Не спяшаюцца і пайсці з канторы. Завязваюцца размовы.

Жэня Мяцельская расказвае нам, што, скончыўшы ў мінулым годзе школу-дзесяцігодку, яна вырашыла застацца ў родным калгасе. У яе — пажылыя бацькі, і яна робіць усё, каб значную частку працы ў сям'і ўзяць на сябе. У гэтым годзе разам з бацькам Аляксандрам Цімафеевічам і маці Ольгай Паўлаўнай кожны месяц яны выпрацоўваюць па 85—100 працадзён. Што паспелі набыць на грошы, атрыманыя ў калгасе? Швейную машыну, некалькі адрэзаў на сукенкі, розныя прадметы хатняга ўжытку.



Вось распісваецца ў ведамасці калгаснік Фёдар Сцяпанавіч Бранавец. Яму ўжо за шэсцьдзесят; ён працуе вартаўніком на малочна-таварнай ферме. Штомесячная палучка Фёдара Сцяпанавіча складае каля чатырохсот рублёў.

— Правільны парадак! — гаворыць ён аб штомесячным авансаванні. — Раней, калі грошы патрэбны, — цягні што-небудзь на рынак. Колькі часу на гэта трацілася! Ды і не кожны на гандаль здатны...

Звеннявая па ільну Марыя Смольская на свае працадні атрымлівае ў месяц па 310 — 350 рублёў. Акрамя гэтага, на працягу першых дзён месяца калгас заплаціў ёй за кіраўніцтва звяном і з адлічэнняў ад грошай, якія выручаны за лён — больш трох тысяч рублёў. Муж Марыі Смольскай — шафёр.

— Мой Кастусь зарабляе болей за мяне, — не без гонару гаворыць маладая жанчына. — Ды і ў маці кожны месяц не менш трыццаці працадзён атрымліваецца. Вось вам і прыбыткі!

— Ты раскажы аб выдатках,— гаворыць хтосьці з прысутных.

— Што-ж,—адгукаецца Марыя,— выдаткі па прыбытках. Купілі ў гэтым годзе добрыя паліто, мадэльныя туфлі, шарсцяную сукенку... шафу люстраную... Ну і, вядома, рэшта ёсць.

— Што-ж вы з ёю робіце? Тайна?

— Не, тайны няма. Адкрыта кладу на ашчадную кніжку. Ашчадная каса — тут-жа, у калгасе. Давайце, Віктар Іванавіч, — звяртаецца яна да касіра,— пакінем з гэтых тысячу ў вас на захаванне.




Віктар Іванавіч Васілевіч, які вядзе па сумяшчэнню і справы калгаснага аддзялення раённай ашчаднай касы, дастае са стала прыходны ордэр.

А. ГАНЬКОЎ.

На здымку: Марыя Смольская распісваецца ў атрыманні чарговага грашовага авансу.

# ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ

У адрас студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта прышло пісьмо з далёкай Японіі. Студэнт юрыдычнага факультэта універсітэта горада Тагоку пісаў, што ён любіць рускую літаратуру, песні і хацеў-бы перапісвацца з савецкімі студэнтамі.

Японскаму студэнту Мінэо Каяма адказала пісьмом студэнтка III курса юрыдычнага факультэта Ліля Цунская.

Штодзённа ва універсітэт прыходзяць пісьмы, паштоўкі, тэлеграмы са штэмпелем «міжнароднае». Іх піша моладзь, часцей за ўсё студэнты. Многіх са сваіх зарубежных сяброў беларускія студэнты ведаюць асабіста. Пазнаёміліся яны так.

У жніўні 1954 года ў Маскоўскім дзяржаўным універсітэце адбывалася IX сесія Савета Міжнароднага Саюза студэнтаў. На мінскім аэрадроме прызямляліся самалёты з маладымі зарубежнымі гасцямі. Тут і завязваліся знаёмствы. Студэнты мяняліся адрасамі, абяцалі пісаць адзін другому.

Тамара Сабаленка, студэнтка трэцяга курса філалагічнага факультэта, атрымала пісьмо. Дытэр Фрылінгауз, студэнт Гетынгенскага універсітэта (Заходняя Германія), стрымаў-такі сваё слова. Вяртаючыся дамоў, ён пісаў: «Як я шчаслівы, што змог пабываць у Савецкім Саюзе і ўбачыць гэтую цудоўную краіну. Я немец, і я не хачу забываць тое, што было, я ведаю, колькі ваш народ перанёс гора і пакут у гады вайны. Таму мне часам становіцца сорамна, як шчыра і па-сяброўску савецкія людзі адносяцца да нас, немцаў».

Хутка паштальён прынёс ліст з маркай Галандыі і Святлане Клімковіч. Яе знаёмая — студэнтка літаратурнага факультэта славянскага аддзялення Амстэрдамскага універсітэта Тэнека пісала аб тым, чаго не паспела расказаць пры сустрэчы: «Я працоўная студэнтка. Працую ў гарадскім архіве, чытаю старыя акты XVII стагоддзя. Такім чынам, я зарабляю сабе грошы... Разам са мной працуюць яшчэ 20 другіх студэнтаў. На папярэднім экзамене па сербскай мове я атрымала ацэнку «выдатна». Нажаль, гэта ў нас не ўплывае на стыпендыі, таму што іх у нас студэнты зусім не атрымоўваюць»...

Дваццацітрохгадовы галандскі паэт Ніко Схепманер у пісьме да Соні Крупіч пісаў: «Я хачу паведаміць табе асаблівую для мяне навіну апошніх дзён: выйшаў з друку зборнік маіх вершаў «Паэтычнае катанне на веласіпедзе». На вашай мове такая назва дужа доўгая і непаэтычная, на галандскай — яна карацей і мілагучней. Калі-б ты ведала, якая гэта выключная падзея ў маім жыцці! Наколькі мне вядома, я цяпер самы малады паэт у Галандыі. Але гэта, зразумела, не важней за ўсё. У Галандыі зусім немагчыма пражыць, зарабляючы вершамі. За зборнік я атрымаў 100 гульдэнаў — табе гэта здасца жартам».

Першую кнігу маладога паэта каталіцкія газеты сустрэлі бязлітаснай крытыкай. Ім не падабаецца, што Ніко «закаханы ў жыццё», што ён «імкнецца да свабоды» і г. д. Ніко добра ведае англійскую і французскую мовы, нядрэнна валодае рускай, а зараз захапляецца беларускай мовай. Па яго жаданню Соня выслала яму «Выбраныя творы» Янкі Купалы.

Разам з перапіскай сябры наладзілі сапраўдны культурны абмен. Студэнты беларускага універсітэта выслалі сваім сябрам творы Талстога, Дастаеўскага, Гогаля, Чэхава, Пушкіна, Лермантава, Маякоўскага, беларускіх паэтаў і пісьменнікаў, зборнікі песень, рэпрадукцыі многіх карцін, віды Масквы, Мінска і Ленінграда, часопісы і газеты. Зарубежныя сябры не застаюцца ў даўгу. Лепшыя кнігі заходнееўрапейскіх класікаў паявіліся на паліцах у нашых студэнтаў.

Так пераклічка сяброў дапамагае ім у вучобе і ў працы, садзейнічае яшчэ большаму збліжэнню, узаемаразуменню студэнтаў.

І. ЦІШЧАНКА.



# ПЕРШЫЯ РАДКІ

**Г. ШЧАРБАТАЎ**

«У мяне ёсць жаданне напісаць верш або апавяданне. Як гэта робіцца?», «Як стаць паэтам?», «Ці буду я паэтам?»,— пытаюцца ў сваіх пісьмах у рэдакцыю многія нашы чытачы.

Зразумелае жаданне нашых маладых людзей стаць пісьменнікамі. Кожны дзень прыносіць радасныя весткі аб новых кроках нашай краіны наперад, да камунізма. Цудоўнае сёння і яшчэ больш прыгожае заўтра натхняюць савецкі народ на працоўную доблесць і геройства. Велічныя перспектывы нашага будаўніцтва акрыляюць моладзь, нараджаюць жаданне ўславіць жыццё ўсхваляванымі песнямі і вершамі.

Добрае жаданне! Аднак яго недастаткова для таго, каб стаць сапраўдным паэтам. Гэта, відаць, разумеюць і пачынаючыя аўтары, калі пытаюць аб «сакрэце» паэзіі.

Агульнавядома, што пісьменнікам можа стаць толькі таленавіты чалавек. Працэс фарміравання пісьменніка — гэта гады напружанай работы па авалоданню скарбніцай сусветнай культуры, гэта няспынная ўсебаковая і глыбокая вучоба. Быць паэтам — гэта яшчэ не значыць валодаць тэхнікай вершаскладання. У адказах сваім карэспандэнтам М. Ісакоўскі не аднойчы падкрэсліваў, што паэт — з'яўляецца носьбітам і стваральнікам духоўнай культуры народа, і ён проста не мае права быць адсталым, неадукаваным, неактыўным. Ён павінен ведаць непамерна больш, чым радавы грамадзянін, ён павінен бачыць значна далей, ён павінен разумець і адчуваць жыццё ва ўсёй рознастайнасці значна паўней і глыбей.

Многія пісьменнікі — А. Горкі, Н. Астроўскі, А. Макарэнка, Д. Фурманаў — у гутарках з творчай моладдзю, у артыкулах неадназова адзначалі, што малады пісьменнік расце як пісьменнік толькі тады, калі ён расце як чалавек. «Ваша задача—стаць пісьменнікам. Але вы ведаеце, што пісьменнік — гэта настаўнік. А вучыць можа толькі той, хто ведае больш тых, каго ён вучыць, хто мае што сказаць» (Н. Астроўскі).

Праца пісьменніка — вельмі складаная і адказная. Яна патрабуе велізарнай волі, напружання ўсіх сіл, вялікай настойлівасці. Гэта не лёгкая праца «па натхненню», як думаюць некаторыя, а штодзённая, упартая, карпатлівая праца.

Паглядзім-жа, як адносяцца да гэтых патрабаванняў многія пачынаючыя паэты і празаікі, што прысылаюць нам свае творы.

Перад намі некалькі вершаў Янкі Лагвіновіча з Ганцавіцкага раёна. Пад кожным вершам пачынаючы аўтар добрасумленна паведамляе, колькі гадзін працаваў над творам, і пытаецца, ці будзе ён паэтам. На сваё вялікае здзіўленне мы бачым, што Я. Лагвіновіч некаторыя вершы напісаў за ...адну гадзіну, некаторыя — за дзве і тры.

Што гэта за вершы? Той, што напісаны за гадзіну, называецца «Над возерам». У ім аўтар звяртаецца да каханай дзяўчыны і просіць, каб прышла і паглядзела ў вочы паэту, бо «ў іх іскаркі шчасця» ад таго, што ён учора напісаў новы верш. Варта прывесці адну страфу верша, каб паказаць, як лёгкадумна ставіцца пачынаючы аўтар да паэзіі:

Паглядзі... У іх іскаркі шчасця  
І усмешка на алых губах.  
Паглядзі... Паглядзі, дарагая,  
Новы верш у гарачых руках.

Гэтая страфа гаворыць аб безуважлівых адносінах аўтара да працы, аб адсутнасці ў яго літаратурнага густу. У чатырох радках тры разы без усякай мэты паўтараецца адно і тое-ж слова «паглядзі», незразумела, пры чым тут і «гарачыя рукі». Калі дадаць, што слова «паглядзі» паўтараецца і нават рыфмуецца («не глядзі — паглядзі») у папярэдняй страфе, то стане зразумелым, што Я. Лагвіновіч выпадковы набор слоў шчыра лічыць паэзіяй.

А вось верш, напісаны за тры гадзіны. Ён называецца «Роднай краіне». Аўтар паведамляе, што ён шчыра спявае песню «аб роднай старонцы», што ён «бачыць шырокія рэкі і моры і чуе цячэнне і плёскат іх вод»; паэт бачыць народ, які працуе на палях, у цэхах заводаў і фабрык. Але чаму радкі верша не кранаюць нашай душы, не выклікаюць ніякіх пачуццяў? Вельмі проста. Аб усім гэтым мы кожны дзень чытаем у газетах, слухаем па радыё. Нічога новага паэт нам не сказаў, ён толькі зарыфмаваў агульнавядомыя факты. Але-ж вядома, што зарыфмаваная проза не становіцца паэзіяй ад таго, што яна зарыфмавана. Паэт павінен імкнуцца адкрываць перад чытачом нейкія новыя далягляды, убачыць у жыцці нешта такое, чаго не бачыць кожны чалавек, і расказаць аб гэтым у дасканалай мастацкай форме. Нічога гэтага ў вершах Я. Лагвіновіча не знойдзеш. Больш таго, напісаны яны непісьменнай, вельмі беднай мовай.

З усяго сказанага відаць, што пачынаючы паэт Я. Лагвіновіч, як і многія іншыя, лічыць, што вершы можна пісаць «па натхненню» (за гадзіну-дзве), што культурны ўзровень паэта тут не мае значэння. Такім аўтарам хочацца напомніць словы Уладзіміра Маякоўскага з яго артыкула «Як рабіць вершы?» аб тым, што «паэзія — вытворчасць. Найцяжэйшая, складанейшая, але вытворчасць». Трэба, каб пачынаючыя аўтары вельмі ўважліва прачыталі гэты артыкул вялікага паэта. Яны ўбачаць, як Ул. Маякоўскі з найвялікшай адказнасцю ставіўся да кожнага слова ў вершы, як ён у кожным радку паступова апрацоўваў кожнае слова, дабіваючыся найбольшай выразнасці радка. Разумеючы высокую патрабавальнасць да паэзіі, Ул. Маякоўскі раіў маладзі «брацца за пяро толькі тады, калі няма іншага спосабу гаварыць, апрача верша».

Некаторыя пачынаючыя паэты з першых сваіх літаратурных крокаў становяцца на няправільны шлях. Яны лянуюцца выпрацоўваць у сябе высокую патрабавальнасць, спадзеючыся, што ў рэдакцыі папрявяць, дацягнуць, узнімуць іх твор. Пры гэтым аўтары зусім абыякавыя да таго, хто будзе «дацягваць» верш, як ён будзе дапрацаваны. Абы было надрукавана! Пачынаючы паэт Л. Галіноўскі з Шклоўскага раёна піша ў рэдакцыю: «Пісаць на беларускай мове мне цяжка, таму што я малапісьменны чалавек. Вельмі прашу вас апрацаваць як трэба мой верш і змясціць яго ў часопісе».

Прыкрае адчуванне пакідае такое пісьмо. Здзіўляешся таму, як можа непісьменны чалавек брацца за літаратурную справу. Дасканалае веданне мовы — гэта першаасноваў рабоце кожнага пісьменніка. Без добрага ведання роднай мовы нават самы здольны пісьменнік не можа дабіцца поспеху ў творчасці.

Шклоўскаму таварышу ўторыць пачынаючы празаік І. Кірэйчык, які піша: «Па-мойму, калі твор з'яўляецца слабым, то яго можна паправіць, узняць на патрэбную вышыню». І гэта, заўважце, павінна рабіць рэдакцыя. І. Кірэйчык з крыўдай дадае: «Я не магу прымірыцца з тым, што з усіх маіх твораў, якія я пасылаў у розныя рэдакцыі, ніводнага не змог убачыць надрукаваным».

Скажам шчыра і адкрыта: усім, хто прысылае ў рэдакцыі слабыя вершы, апавяданні, п'есы, хто лёгкадумна, па-ўтрыманцку ставіцца да літаратурнай работы, давядзецца прымірацца з тым, што іх творы ні ў адным выданні не будуць надрукаваны. Кожны здольны пачынаючы пісьменнік павінен шукаць сваю ўласную дарогу ў літаратуры. У гэтым яму заўсёды дапаможа кожная рэдакцыя.

Некаторыя таварышы імкнуцца «пралезці» ў літаратуру любым, нават несумленным шляхам. Такія «паэты» бяруць том твораў Я. Коласа, Я. Купалы ці М. Багдановіча, адшукваюць найбольш даўнія іх вершы, спакойна перапісваюць іх і пасылаюць у рэдакцыю як уласныя. Так, напрыклад, робяць І. Заяц з вёскі Зубаўшчына Ваўкавыскага раёна, І. Булацкі з вёскі Кавака Брагінскага раёна. Іосіф Заяц перапісаў вершы Я. Коласа «Мяцеліца» і «Песні зімы», напісаныя яшчэ ў 1910 і 1916 гадах, вершы М. Багдановіча «Зімой» і «Зімовая дарога» і, непісьменна падпісаўшыся «слажыў Іосіф Заяц», без ценю сораму, прыслаў іх у рэдакцыю. Доўга, відаць, не раздумваў і І. Булацкі, які перапісаў верш Генадзія Бураўкіна «Слова аб партыі», надрукаваны ў «Чырвонай змене», і, выдаўшы за свой, прыслаў у «Маладосць». На што спадзяюцца такія «аўтары», цяжка сказаць. Але яны, відаць, не ведаюць, што плагіят (літаратурны крадзеж) гэтак-жа сурова караецца савецкімі законамі, як і ўсялякі іншы крадзеж.

Вядома, не ўсе так безадказна ставяцца да літаратурнай справы. Рэдакцыя атрымоўвае многа вершаў, па якіх відаць, што аўтары перш, чым прыслаць у рэдакцыю свае першыя радкі, многа вучыліся і працягваюць вучыцца, што яны ведаюць жыццё і маюць што расказаць чытачу. Можна назваць маладых мінскіх паэтаў Г. Бураўкіна, Ю. Свірко, В. Зуёнка, гамельчаніна В. Клімянкова, магілеўчаніна В. Даюжэнку, якія няспынна дбаюць аб паэтычным росце, шукаюць свайго індывідуальнага голасу, вучацца ў старэйшых паэтаў літаратурнаму майстэрству.

Толькі настойлівае авалоданне вяршынямі культуры, высокая патрабавальнасць, напружаная штодзённая праца, няспынныя пошукі новага, арыгінальнага могуць прынесці і сапраўдную радасць, і сапраўдны поспех у творчай працы маладых літаратараў.



**Напярэдадні фестывалю**

**У рэспубліцы ідзе дзейсная падрыхтоўка да Усесаюзнага фестывалю савецкай моладзі. У дамах культуры, клубах ідуць рэпетыцыі гурткоў мастацкай самадзейнасці, рыхтуюцца новыя нумары.**

**Ажыўлена зараз у Смаргонскім доме культуры Маладзечанскай вобласці. Тут працуюць танцавальны, харавы і драматычны гурткі.**

На здымку: кіраўнік танцавальнай групы **Е. Хацілоўскі** рыхтуе новы танец.

Фото А. Гарэльчыка.

# ПА ПУЦЁЎЦЫ КОМСАМОЛА

Дзяўчына павольна ішла па вуліцы. Хруставў тонкі лядок. Было прыемна дыхаць свежым паветрам, асабліва пасля доўгага сядзення ў горача напаленым клубе. У вушах у яе гучэў голас:

«Знайшла прафесію — свінаркі. Праславіцца хоча!»

А яна тады разгубілася і нават не знайшла, што адказаць. Яна ўжо нават не чула, пра што гаварылі комсамольцы. Толькі знаёмы дзявочы голас вывеў яе з задумення:

— Чаго засумавала, Нэла, пойдзем працаваць на ферму разам, — гаварыла яе сяброўка Галя Жалянiна.

Выступалі яшчэ комсамольцы, і ўсе яны выказвалі жаданне следаваць прыкладу Нэлы. Гэта падбадзёрыла і акрыліла дзяўчыну. Але ўсё-такі яна думала: «І навошта я выскачыла першай!» «Праславіцца хоча», — гучэлі ў вушах словы Грыгорыя Палачаніна. Яго ў вёсцы, праўда, ведалі добра. Прышоўшы з арміі, ён амаль поўгода ўжо гульма гуляе. Жыве на матчыны працадні. А ў калгас працаваць ісці не хоча. Не адзін раз комсамольцы прабіралі яго за гэта, а яму ўсё сваё на ўме. «Культурную» прафесію сабе выбірае.

Нэла злавіла сябе на тым, што і ў яе думкі верцяцца вакол гэтай «прафесіі». Ці правільна яна зрабіла? Кідаць ферму потым будзе сорамна. А як-жа тэхнікум? Кнігі? Не хацела сабе прызнацца, але іменна гэта і хвалявала яе цяпер. Вакол гэтага вярцеліся думкі дзяўчыны. Успаміналіся сябры, якія жывуць у горадзе, вучацца ў тэхнікумах, інстытутах. Разам скончылі школу, разам паехалі ў горад. І Галіна Градовіч, і Валянцін Кузьміцкі, і іншыя цяпер слухаюць лекцыі. А яна?..

Непрыкметна для Нэлы Марцынкевіч надышоў 1955 год — год за-



канчэння сярэдняй школы. Многа было хваляванняў.

— Віншую, Нэла, і жадаю поспехаў, — сказаў ёй, паціскаючы руку, дырэктар школы.

Яна глядзела на атэстат сталасці, а ў галаве роіліся думкі: куды-ж цяпер?

Нэла паехала з сяброўкамі ў Мінск. Старшыня калгаса раіў ёй застацца ў роднай вёсцы, але яна — ні блізка.

— Чаго ты тут, у вёсцы, не бачыла? — казала ёй сяброўка Галіна Градовіч. — Я еду ў медыцынскі. Ды і наогул вярнуцца сюды заўсёды паспееш. Яшчэ можа не здадзім «уступных».

Але для Нэлы Марцынкевіч не было ніякіх «можа». Раз рашылася паступаць, значыць усё. Першага верасня яна сядзела ў аўдыторыі бібліятэчнага тэхнікума. Непрыкметна прайшлі першыя дні вучобы. Вакол было так многа цікавага, новага. Але праз некалькі месяцаў яна засумавала. Усё часцей прыгадваліся сябры, што засталіся ў роднай вёсцы, лес, поле. І нечакана прыйшла тэлеграма: «Прыязджай, маці хварэе». На другі дзень дзяўчына была дома. Маці папраўлялася, а дзяўчына не спяшалася вяртацца ў горад. Чаму? Яна і сама не магла адказаць сабе на гэтае пытанне. Усяго тры месяцы не была Нэла Марцынкевіч у калгасе, а колькі тут адбылося падзей! Калгас заваяваў першынство ў раёне па надою малака. На працадні калгаснікам выдалі многа хлеба і грошай.

— Лепш зажылі мы цяпер у калгасе, дачухна, — гаварыла маці.

Кіпучае калгаснае жыццё, звонкія песні дзяўчат, праца — усё гэта вабіла дзяўчыну. Але як кінуць вучобу ў тэхнікуме? Шкада ды і сорамна. Яшчэ падумаюць, што не змагла адолець навукі. Не, гэтага рабіць не варта. Яна вярнулася ў тэхнікум. Неяк выпадкова трапіла ў рукі газета. «Комсамольцы — на фермы!», кінулся ў вочы вялікі загаловак. У газеце расказвалася аб тым, што комсамольцы, моладзь ідуць працаваць на фермы.

Дырэктар тэхнікума, відаць, так і не зразумеў, чаму Нэла Марцынкевіч вырашыла перайсці на завочнае аддзяленне.

Зноў родны калгас. Комсамольцы рыхтаваліся да сходу.

— Мне, відаць, таксама можна прыйсці на сход? — запыталася Нэла ў сакратара комсамольскай арганізацыі Жэні Прачкоўскай.

— Вядома, прыходзь, чаму-ж не, — адказала Жэня. — Сёння пасля работы ў клуб прыходзь.

Інструктар райкома комсамола Пётр Юхнавец расказаў моладзі пра паход комсамольцаў на работу ў жывёлагадоўлю.

— Ну, а цяпер слова за вамі, — закончыў ён выступленне.

Прайшла мінута-другая. У клубе стаяла цішыня. Ці ніхто не адважваўся выступіць першым, ці яшчэ што, але юнакі і дзяўчаты маўчалі. Інструктар і сакратар комсамольскай арганізацыі разгубіліся, не ведалі, што рабіць, але нечакана падыйшла да стала Нэла Марцынкевіч.

— Я хачу ісці працаваць на ферму свінаркай. А ў тэхнікуме буду вучыцца завочна.

— Я бачу папаўненне ідзе, — сустрэў моладзь загадчык свінафермы Вікенцій Пракопавіч Рабаткевіч. — Можа, вы і мяне ўжо замяніце?

— Не, вы нас яшчэ павучыце трохі, — смеючыся адказала Галіна Жалянiна.

Для Нэлы Марцынкевіч, Галіны Жалянінай, Аляксандра Рабаткевіча і іншых юнакоў і дзяўчат пачаліся працоўныя будні. Асабліва цяжкага тут нічога не было. Тое, што яны ў дні летніх канікул працавалі ў калгасе, дало ім добрую практыку.

Хапала часу ў моладзі і на культурныя мерапрыемствы. Пры клубе стварылі харавы гуртох. Зноў у дружным, зладжаным хоры можна адрозніць звонкі голас Нэлы Марцынкевіч.

Неяк Нэла Марцынкевіч зайшла ў бібліятэку.

— Дазволь мне, Валя, выбраць кнігу самой, — звярнулася яна да загадчыцы бібліятэкі Куніцкай.

А праз некалькі хвілін расчаравана сказала:

— Так і ведала, няма.

— Якую-ж кнігу ты хочаш? — спытала яе Куніцкая.

— Не адну, а многа. У мяне-ж сесія набліжаецца.

— Дык ты думаеш працягваць вучобу ў тэхнікуме? — здзівілася тая. — У цябе-ж часу не хопіць.

— Хопіць. І не толькі на вучобу, а і на кіно, і на хор, і на танцы.

Хоць і нямнога часу прайшло з моманту, як працуе на ферме моладзь, але праца яе ўжо адчуваецца. Неяк на праўленні калгаса зайшла гаворка аб свінагадоўчай ферме. Доўга гаварылі аб тым, што трэба яшчэ зрабіць, каб павялічыць выхад свініны.

— Скажы, Вікенцій Пракопавіч, зможаш ты дабіцца поспеху? — запытаў сакратар партарганізацыі Іосіф Васільевіч Бараноўскі ў загадчыка свінафермы. — Моладзь-жа ў цябе нявопытная.

Той прыжмурыў свае хітраватыя вочы і ўсміхнуўся:

— Скажы, Іосіф Васільевіч, а колькі на малочнай ферме працуе моладзі?

— Большасць, — адказаў той.

— А першае месца ў раёне занялі. Занялі. Дык чаму-ж мы не справімся...

**Е. ЯРОТАЎ.**

Калгас імя Калініна Лагойскага раёна.

# Абанементная картка Івана Мартыновіча

«Ваня! Вярніся!» — данеслася да яго. На вуліцы хлопец на момант прыпыніўся і пакрочыў далей. «І чаго ён да мяне прычапіўся? Што за цікавасць сядзець дома, уткнуўшыся ў кнігу. Зусім іншая справа валейбол...»

Працягваючы ў думках спрэчку з братам, Іван накіраваўся да школы, дзе павінны былі сабрацца такія-ж аматары валейбола, як і ён.

Але настрой быў сапсаваны. Ваня любіў свайго старэйшага брата, а тут — на табе! — пасварыліся. Ды хоць-бы было за што, а то за кнігу. Няўжо Васіль не разумее, што валейбол цікавей за любую кнігу.

Такія размовы, як сёння, здараліся ўжо не раз. Бывала, што брат дзейнічаў без слоў: проста не пускаў з дому і, паклаўшы перад ім кнігу, прымушаў чытаць. Ваня чытаў, а думкі яго былі далёка.

Невядома, чым скончыліся-б гэтыя бясконцыя спрэчкі са старэйшым братам, калі-б Ваню не прызвалі ў армію.

Новыя месцы, новыя людзі, новы парадак жыцця. Перш за ўсё дысцыпліна. Тут ужо не пойдзеш гуляць у валейбол, калі табе ўздумаецца. Але ўсё-ж у вольную хвіліну Івана паранейшаму можна было бачыць на валейбольнай пляцоўцы.

Дружба з кнігай для радавога Івана Мартыновіча пачалася зусім нечакана. Аднойчы ў нядзелю, не атрымаўшы ўвальніцельнай, Іван застаўся ў часці. Ён ужо сабраўся на валейбольную пляцоўку, але пайшоў дождж, і прышлося сядзець у казарме. Пад руку яму трапіла маленькая кніжачка з «Бібліятэкі чырвонаармейца». «Звязда» — прачытаў ён на вокладцы. Разгарнуўшы яе пасярэдзіне, Іван прабег вачыма адну-дзве старонкі. «Вось здорава! Забраліся ў размяшчэнне нямецкіх войск. Але чаму? Хто такі Траўкін?» Прышлося вярнуцца да першай старонкі. Кніга захапіла юнака.

І вось прачытана апошняя старонка. «Не, не можа быць, Траўкін не загінуў. «Звязда! «Звязда!» — хацелася крыкнуць Івану. — Ты чуеш мяне?»

Уражанне ад кнігі было моцнае. Мала сказаць моцнае. Кніга адкрыла перад юнаком новы, нязведаны раней свет. Кладучыся спаць, Іван у думках яшчэ раз прайшоў з разведчыкамі Траўкіна ўвесь іх гераічны шлях.

З гэтага, мабыць, і пачалося. Праз некалькі дзён салдат Мартыновіч зайшоў у бібліятэку і папрасіў «што-небудзь накшталт «Звязды» Э. Казакевіча». Захапленне кнігамі было настолькі моцным, што юнак часам забываў пра валейбол, пра гімнастыку. Сябры ўжо ведалі: калі Іван чытае, цяжка адарваць яго ад кнігі.

Кнігі абуджалі ў Івана жаданне быць падобным на знаёмых герояў. Так, лейтэнант Траўкін стаў для яго ўзорам высокароднага і беззаветнага служэння Радзіме. Прачытаўшы «Далёка ад Масквы» В. Ажаева, юнак марыў аб тым, каб пасля скачэння службы ў Совецкай Арміі працаваць гэтак-жа самаахвярна, як героі гэтай цікавай кнігі.

Чым больш чытаў Іван, тым часцей пераконваўся, што ведаў у яго вельмі мала. Паступова ён прыйшоў да думкі, што трэба працягваць вучобу.

Нялёгка здаць за сем класаў, асабліва, калі ў школе ты не вызначаўся стараннасцю і ў дадатак забыў тое, што ведаў. Але-ж Павел Карчагін пераадолеў большыя цяжкасці. А няўжо ён не зможа? Зможа! Іван засеў за падручнікі. Працаваць прыходзілася многа і ўпарта. Дапамагалі і сябры. Неўзабаве ён трымаў экзамены і паспяхова здаў іх. Гэтая перамога, няхай і не вельмі значная, напоўніла юнака верай у свае сілы.

І вось закончана служба ў арміі. Дэмабілізаваўшыся, Іван застаўся ў Львове і паступіў працаваць на радыёзавод. Заўзяты спартсмен, ён хутка пачаў кіраваць усёй фізкультурнай работай на прадпрыемстве. Але цяпер захапленне спортам не перашкаджала Івану Мартыновічу настойліва вучыцца ў вячэрняй школе, чытаць.

Дзень юнака быў вельмі загружаны. Раніцай — на работу, вечарам — у школу, а тут трэба яшчэ падрыхтавацца да спаборніцтваў. Хатнія заданні часта даводзілася рабіць ужо ноччу. А хочацца-ж яшчэ і пачытаць што-небудзь. Прыходзілася адбіраць час у сна.

Часам сястра шкадавала яго: «Цяжка табе, Ваня». Але ён пачынаў ёй прыводзіць прыклады з літаратуры, называў герояў, якім даводзілася намнога цяжэй, чым яму.

Хутка Іван Мартыновіч пераехаў у Мінск. На Мінскім аўтамабільным заводзе, куды юнак паступіў працаваць, бадай, першым чалавекам, з якім Іван пазнаёміўся, была загадчыца заводскай бібліятэкі. Праз некалькі дзён пасля прыезду Іван быў ужо частым госцем і ў чытальнай зале і ў бібліятэцы.

Каб як след авалодаць сваёй прафесіяй слесара-інструментальшчыка, навучыцца чытаць чарцяжы, маладому рабочаму даводзіцца звяртацца і да тэхнічнай літаратуры. Праўда, днём не заўсёды ёсць час для чытання, і Іван паранейшаму чытае ноччу.

Вось і сёння, вярнуўшыся з начной змены, юнак, перш чым легчы спаць, бярэцца за кнігу.

Яго чакае захапляючая сустрэча з новымі героямі, знаёмства з новымі людзьмі. Яшчэ адна прачытаная кніга паявіцца ў абанементе слесара Івана Мартыновіча.

**Майя СТЫРНЭ.**



# ТУТ РОБЯЦЬ КНІГІ





На апошняй старонцы нашага часопіса ўказваецца, што надрукаваны ён у друкарні імя Сталіна. Гэта буйнейшае ў рэспубліцы паліграфічнае прадпрыемства. Для таго, каб падрабязна расказаць пра яго, трэба было-б напісаць цэлую кнігу. Тут працуе больш 1600 чалавек. Яны маюць рознастайныя спецыяльнасці: ад цесляра да гравёра, які пры вырабе кніг выконвае самую дакладную работу. Праца вялікага калектыву друкарні накіравана на тое, каб забяспечыць выпуск 15 газет і 16 часопісаў, каб штодзённа накіроўваць чытачам каля 70.000 экземпляраў кніг, мноства брашур, плакатаў і іншай друкаванай прадукцыі. У двор друкарні час-адчасу ўязджаюць грузавікі з паперай: дзённая «норма» прадпрыемства складае 25—27 тон паперы розных гатункаў.

Экскурсантам, якія наведваюць друкарню, працэс вырабу кніг паказваюць у такім парадку: набор тэкста, выраб клішэ для друкавання ілюстрацый, вёрстка (размяшчэнне матэрыялу па старонках), друкаванне, утварэнне сустаўных частак кнігі — сшыткаў, аб'еднанне сшыткаў у блок — брашуроўка і, нарэшце, пераплётныя работы.

Чытачам нашага часопіса прыемна будзе даведацца, што ў друкарні працуе пераважна моладзь. Тут ёсць вялікая камсамольская арганізацыя. Маладыя паліграфісты працуюць поплеч з пасівелымі ветэранамі кнігадрукавання, пераймаючы ў іх вопыт, памнажаючы яго і дамагаючыся ўсё новых і новых поспехаў.

Мы друкуем некалькі фотаздымкаў, на якіх паказана, як працуе моладзь вядучых друкарскіх прафесій.

На здымку ўверсе — адзін з участкаў наборнага цэха. Каля вялікіх наборных машын — лінатыпаў — сядзяць дзяўчаты, праца якіх знешне падобна на працу машыністак у любой канцылярыі. На першым плане — камсамолка Валянціна Кнацько. Яна знаёміцца з рукапісам, які ёй трэба ператварыць у набор — радкі металічных літар. Пад лёгкімі ўдарамі яе пальцаў па клавішах (як у звычайнай пішучай машынцы) лінатып ажывае, і расплаўлены метал, які знаходзіцца ў ім, пачынае ператварацца ў літары.

У цынкаграфскім цэху адбываецца выраб клішэ — цынкавых пласцін, з дапамогай якіх друкуюцца ілюстрацыі. У аснове працэсаў ляжыць фатаграфаванне. Паглядзіце, аднак, якімі велізарнымі апаратамі аперыруюць цынкографы для таго, каб у кнізе з'явілася хоця-б кароценькая застаўка! На гэтым здымку — камсамольцы, начальнік цынкаграфіі інжынер Генадзі Позднеў і фатограф Віктар Краўцоў.

Наступныя здымкі паказваюць, як адбываецца друкаванне кніг. На вялікіх барабанах, якія верцяцца ўнутры машыны, замацаваны формы з адбіткамі старонак. Яны ўвесь час пакрываюцца свежай фарбай. Паміж барабанамі праходзіць бясконцая істужка паперы. Машына называецца ратацыяй. Яе абслугоўваюць восем чалавек, шасцярых з іх вы бачыце на першым здымку: (злева направа) друкар Нікалай Важнік, прыёмшчыцы Лідзія Цярло, Анна Войніч, Анна Баёк, друкар Аляксандр Чыкатоўскі і прыёмшчыца Валянціна Слесарава. Друкары сочаць за агульным ходам работы; прыёмшчыцы складваюць у кіпы гатовыя сустаўныя часткі кніг — лагі.

Здымак ўнізе справа зроблены ў брашуровачным цэху. Камсамолка швачка Іда Лойка на ніткасшывальнай машыне падрыхтоўвае будучую кнігу да пераплёту.



А вось адна з заключных аперацый — кантроль. Камсамолка Надзежда Рабчонак уважліва агледае кожную кнігу.

Многіх, вельмі многіх прафесій, якія ўваходзяць у адзіную дружную сям'ю паліграфістаў, не назвалі мы ў гэтым кароткім нарысе. Але нават калі-б для гэтага хапіла месца, вы ўсёроўна не атрымалі-б аб іх такога поўнага ўяўлення, якое атрымліваецца, калі сам пабываеш у друкарні. Людзі, якія прысвяцілі жыццё нашаму агульнаму сябру — кнізе, робяць вялікую ўдзячную справу.

**Фото і тэкст А. ДЗІТЛАВА.**







**Цэх каляровага друку друкарні імя Сталіна. Тут друкуюцца каляровыя ілюстрацыі для кніг, вокладкі часопісаў і г. д.** На здымку: **перадавыя работніцы цэха: друкар А. Янкоўская** (справа) **і накладчыца Р. Муравіцкая.**

Фото А. Дзітлава.



У турбінным цэху Смалявіцкай ДРЭС. Адсюль энергія ідзе ў многія гарады, калгасныя пасёлкі і на прадпрыемствы рэспублікі.

Фото А. Дзітлава.

# Каханне — не сяброўства!

Я многа разоў перачытаў пісьмо М. Валошкі і яшчэ больш — П. Несцяровіча, з якім я згодзен толькі па некаторых пунктах. Мае думкі такія.

Мне здаецца, што П. Несцяровіч няправільна зразумеў адносіны Віктара да Клавы. Ён узяў пад сваю абарону Клаву. А ці не вінавата Клава, калі лепш падумаць? На мой погляд — вінавата!

Каханне! Якое вялікае слова! Як прыемна на сэрцы, калі ў ім ёсць сапраўднае каханне!

Вось мне і здаецца, што такое шчырае, чыстае, свежае каханне і ёсць (правільней, было) у сэрцы Віктара да Клавы, калі праўду аб ім напісаў М. Валошка.

Я згодзен (ды і хто не?!), што ўсякае каханне павінна грунтавацца перш за ўсё на павазе да чалавека. Калі ёсць шчырыя, сумленныя адносіны да чалавека, калі ёсць поўнае давер'е, калі ёсць агульныя інтарэсы, калі юнак і дзяўчына адчуваюць, што ім сумна быць адно без другога нават у кругу самых блізкіх, добрых, даўно знаёмых людзей — тады ёсць каханне.

І сапраўды, такім шчырым пачуццём было перапоўнена сэрца Віктара. На заводзе — Клава, дома — зноў яна і радасць, што ніхто не перашкодзіць хоць да раніцы думаць аб ёй. «Не заплюшчыш вочы ўсю ноч, а энергіі ў цябе ўтрая больш». Толькі шчырае, сапраўднае, чыстае, свежае каханне надае чалавеку энергію, здольнасць працаваць, змагацца ўтрая лепш.

Першае прызнанне Віктара было блытаным. А гэта гаворыць ужо аб тым, што ён хваляваўся, калі казаў ёй аб гэтым. А ўсё захвалюецца сэрца прайдзісвета, калі ён прызнаецца дзяўчыне ў сваім каханні?! Не! Ды і чаго хвалявацца? Адкажа адмоўна, дык другую знайду! Бяда вялікая!

Сказаўшы Клаве аб сваім каханні, Віктар не чакаў, што яна скажа, а толькі падумаў, што калі яна яшчэ яго не кахае, «то ён даб'ецца яе кахання». Такія думкі могуць быць толькі пры сапраўдным пачуцці.

Але хлопец не сустрэў адказу на сваё пачуццё. Клава пачынае ўхіляцца яго. А што можа быць самым страшэнным у сяброўстве, а тым больш у каханні? Гэта тое, што закаханы бачыць, што яго не паважаюць, стараюцца ад яго ўцячы. Калі-б Несцяровіч кахаў, дык ён не сказаў-бы, што Віктар «лёгка адмовіўся» ад Клавы. Не! Віктар правільна паступіў, што стрымліваў сябе і стараўся ёй не навязвацца, хоць гэта давалася яму нялёгка.

Клава захварэла... Віктар ля яе пасцелі. «Чаму хто-небудзь другі не прыносіць ёй часопісы, а іменна Віктар?» Ён напісаў ёй запіску. І вось адказ Клавы: «...яна вельмі доўгая і я не прачытала яе!» Ды хіба калі закаханы, то глядзіш на тое, што многа напісана?! Наадварот! Калі многа, значыць лепш! З якой асалодай чытаеш запіску любімай, гэта можа сказаць толькі той, хто шчыра кахае!

А вось і такі факт: ці хаваў-бы хто-небудзь проста запіску сябра? Не! Не хаваў-бы!

Хіба-ж не гаворыць усё гэта, што Віктар кахае, кахае шчыра, па-сапраўднаму.

Нарэшце сустрэча. Клава зноў падае нітачку надзеі. Хлопец хапаецца за яе ўсім сваім сэрцам, усёй сваёй істотай. І што-ж! Пацалунак — крэпасць, аб якую разбілася каханне. А ці не наадварот павінна быць?

Клава прапануе яму дружбу. Не, паміж Віктарам і Клавай, як і наогул у такіх выпадках, дружбы быць не можа. Адказ Клавы сведчыць аб тым, што яна не паважае Віктара, а дзе няма павагі, шчырасці, як правільна сказаў Несцяровіч, там дружбы быць не можа. А пра каханне ўжо і гаварыць няма чаго. Сяброўства і каханне — гэта дзве розныя ступені адносін паміж юнаком і дзяўчынай, або больш агульна: паміж мужчынам і жанчынай, бо кахаць могуць і ў больш сталыя гады. Калі паміж мужам і жонкай няма кахання, то няма ў іх і сям'і.

Сяброўства — гэта проста братэрскія адносіны паміж людзьмі. Каханне — гэта такія адносіны, калі сэрцы двух б'юцца, як адно, калі Клава — гэта Віктар, а Віктар — гэта Клава, калі без каханага жыццё не жыццё, а сумнае, панурае існаванне.

І мае вывады такія:

Віктар шчыры, сумленны юнак, які ўсім сэрцам кахае Клаву. Клава — дзяўчына, якая не здольна кахаць Віктара. Віктар правільна зрабіў, што сябраваць з ёй не захацеў. Там, дзе з аднаго боку ёсць шчырае, сапраўднае, чыстае, свежае каханне, дружбы быць не можа, калі яно было не прызнана з другога боку.

Я зусім згодзен з Несцяровічам, што «ў аснове ўсякага кахання павінна ляжаць узаемная павага, давер'е, шчырасць». А сяброўства, якое-б яно не было шчырае, заўсёды менш сапраўднага чалавечага кахання.

**І. СКАРЫНА,**
студэнт Мінскага медыцынскага інстытута.

# Што вы параіце?

## Супроць лёгкадумнасці ў каханні

Пытанне, узнятае Мікалаем Валошкам, хвалюе тысячы юнакоў і дзяўчат.

На маю думку, Віктар, безумоўна, памыліўся. Вядома, нераздзеленае каханне прыносіць горкі смутак, цяжкія перажыванні. Але гэта прымусіць хлопца сур'ёзна паглядзець на самога сябе: а можа ў яго дрэнны характар, нікчэмныя інтарэсы, можа ідзе ён не тым шляхам. І, знайшоўшы ў сабе дрэнныя рысы, юнак абавязкова выправіць іх, будзе ўдзячны таму, хто дапаможа яму ў гэтым. Так зробіць, канешне, той, хто зразумее, што ён памыляўся.

У нашым грамадстве сустракаюцца і пустыя людзі. З дня ў дзень вядуць яны размовы аб каханні і дружбе, з вечара ў вечар носяцца па гораду ў пошуках танцаў, пагулянак, дзе можна пазнаёміцца з кім-небудзь.

З Мікалаем Х. цэлы год жыў я ў адным пакоі інтэрната.

Вечарам, пасля лекцый, Мікалай апранаўся і ішоў гуляць.

— Лепш пачытаў-бы ты кніжку, — гаварылі яму.

— Пачытаю заўтра, — адказваў Мікалай. — Мне сёння абавязкова трэба быць у медычак...

Мікалай умеў завязваць знаёмствы. Ён меў нядрэнны знешні выгляд. І дзяўчаты верылі яго прызнанням. Сёння ён быў з адной, заўтра з другой, праз некалькі дзён яго бачылі з трэцяй.

Мабыць ніхто больш за Мікалая не ведаў столькі дакладных дат і нават гадзін, калі адбываліся вечары адпачынку студэнтаў, рабочых. Ён паспяваў бываць усюды.

Прыходзячы дадому, Мікалай дзяліўся сваімі ўражаннямі, да дробязей расказваў аб сваіх «прыгодах». Аднакурснікі падсмейваліся над ім, называлі Дон-Жуанам. А ён адказваў:

— Гэта ўжо ўсім вядома, з барадой. Прыдумайце што-небудзь новае, арыгінальнае.

У педінстытуце Мікалай пазнаёміўся з Валяй Н. Аб гэтым знаёмстве ён расказаў з асаблівым густам.

Валя Н. і сапраўды была добрая дзяўчына. Яна ўважліва аднеслася да Мікалая. Разам яны хадзілі ў кіно, зрэдку на вечары адпачынку. Ён лічыў, што моцна кахае Валю, і аднойчы напісаў ёй пісьмо. Пісаў ён і пра поўночны полюс, куды гатоў пайсці за ёю, і пра зоркі ў небе. А ўголас сказаў:

— На ёй я, напэўна, прыпынюся. Праз тыдзень-два запішамся.

Гэтага не здарылася. І гэта, можа, лепш для Валі. Мікалаю сумна стала з ёю — надакучыла непрывычная для яго аднастайнасць. Дачакаўшыся суботы, ён пайшоў на танцы ў другое месца.

Пустую душу Мікалая Валя зразумела. Яна сказала яму:

— Не варта нам з табою гуляць у каханне. У нас няма нічога агульнага, што звязвала-б на ўсё жыццё.

Тады Мікалай сур'ёзна сказаў:

— Хочаш, я пазнаёмлю цябе са сваім братам. Вы з ім абавязкова будзеце шчаслівымі.

Гэты чалавек абразіў ні ў чым не вінаватую дзяўчыну.

Нямала яшчэ сярод нашай моладзі такіх, як Мікалай. Яны не могуць паважаць чалавека, бо страцілі пачуццё прыгожага ў жыцці. Вось у такіх людзей не было і не можа быць сапраўднай, шчырай дружбы і кахання. Яны апашляюць гэтыя высокія пачуцці.

Трэба выкараняць такія настроі. Для гэтага камсамольскія і прафсаюзныя арганізацыі прадпрыемстваў і розных устаноў, а ў школе — настаўнікі калектыву, павінны часцей праводзіць лекцыі аб дружбе і каханні.

Пра Віктара я думаю вось што. Мне здаецца, што ў адносінах яго да Клавы многа лёгкадумнага, разлічанага на лёгкі поспех. А ў такім выпадку не можа быць шчырасці, давер'я і ўзаемнай павагі.

**Ів. КІРЭЕНКА,**
студэнт БДУ імя Леніна.

---

Звычайна з дружбы паміж юнаком і дзяўчынай пачынаецца каханне. Так атрымалася і ў Віктара.

Па-мойму, Віктар мала ведае Клаву, яе інтарэсы, жыццёвыя ідэалы, перакананні. І калі Клава адхіліла каханне Віктара, дык гэта не значыць, што яму не трэба сябраваць з ёю. У гэтым Віктар памыляецца. Калі ўзаемная таварыская дружба моцная, дык з такім сябрам можна дзяліцца і марамі, радасцямі, поспехамі. Забыць Віктару Клаву — гэта значыць страціць, магчыма, добрага сябра. Калі-ж Віктар будзе працягваць дружбу з Клавай, дык праз некаторы час можа прыйсці і каханне.

**Г. АДАМОВІЧ,**
загадчык Вераб'ёўскага сельскага клуба, Крывіцкі раён, Маладзечанская вобласць.

Я не згодзен з Л. Несцяровічам, які ў пісьме «Перш за ўсё — паважаць чалавека» лічыць, што Віктар павінен працягваць сябраваць з Клавай. Калі-б Клава кахала Віктара па-сапраўднаму, яна-б паказала яму на яго недахопы. Чалавек, які кахае, змагаецца за каханне дарагога яму чалавека. Няўжо Клава лічыць ніжэй сваёй годнасці шчыра сказаць Віктару пра яго памылковыя думкі або дзеянні?

Я лічу, што Віктар паступіў правільна, калі вырашыў парваць адносіны з каханай дзяўчынай. Было-б горш, калі-б гэта здарылася пазней, калі ў Віктара і Клавы была-б ужо сям'я. Цяжка, зразумела, забываць каханую дзяўчыну, але ўсё-ж лягчэй, чым зрабіць нешчаслівым сямейнае жыццё. Ты, Віктар, зрабіў правільна. Тваё сапраўднае каханне яшчэ наперадзе.

**А. МУЗЫКАНТ,**
Падлеская МТС, Рэчыцкі раён, Гомельская вобл.

Мне здаецца, што сяброўства паміж Віктарам і Клавай магчыма. Хачу расказаць пра аднаго свайго сябра, у якога, як і ў Віктара, было «няўдалае» каханне. Мой сябра, настаўнік, пакахаў адну дзяўчыну, таксама настаўніцу. Ён лічыў яе самай лепшай, самай прыгожай і разумнай. Яны доўга сябравалі, давералі адно другому самыя патаемныя свае сакрэты.

Гэта не перашкаджала маладым людзям крытыкаваць адзін другога на педсоветах, указваць на недахопы. Здарылася, што мой сябра аднойчы захварэў. Дзяўчына часта яго наведвала. Пасля гэтага Мікалай (так звалі майго сябра) адважыўся прызнацца, што кахае яе! Дзяўчына не адказала яму ўзаемнасцю.

Мікалай не перастаў і пасля гэтага сустракацца са сваёй сяброўкай. Яны працягвалі дружыць. Прайшоў час. Мікалай паступова зразумеў, што дзяўчына яго не кахае. Але гэта абыйшлося ў яго без душэўнага надрыву. Хутка Мікалай сустрэў другую дзяўчыну і пакахаў яе.

Віктару, на маю думку, таксама не варта рваць сяброўскіх адносін з Клавай.

**Г. ТАБЕРКА,**
г. Калінкавічы.

Каханне немагчыма без веры ў прыгожае. Гэта самае моцнае пачуццё, якое натхнее на подзвігі. Лягчэй працаваць і жыць на свеце, калі ведаеш, што цябе любяць.

Мне здаецца, што не ўсё гэта Віктар добра ўсведамляе.

Клава — дзяўчына сур'ёзная. З вялікай адказнасцю ставіцца яна да сваёй працы. У той час, як дзяўчына імкнецца знайсці ў Віктары лепшага сябра, з якім-бы яна змагла працаваць, павышаць свае веды, ён патрабаваў ад яе нейкага «чыстага» кахання. Ён адрываў сваё каханне ад працы, ад інтарэсаў Клавы.

Дзяўчына прапанавала хлопцу сяброўства. Пры яе цвёрдым характары гэта што-небудзь ды азначае. Клава, мабыць, хоча прыглядзецца да Віктара, вывучыць яго глыбей і лепш. Дзяўчына паступае правільна. Віктару трэба зразумець, што каханне «з першага позірку» — не заўсёды сапраўднае каханне.

**Генадзі БАРАЎКО,**
В. Бараўкі, Пастаўскі раён, Маладзечанская вобл.



# ТЭЛЕГРАМА

**Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ**

**Апавяданне**

*Мал. Г. Паплаўскага.*

У пятніцу пад вечар Віктар Бандарчук збіраўся ўжо ісці з свінафермы дахаты, як паштальён прымчаў яму на веласіпедзе тэлеграму. Зложана яна была ў чатыры столкі і заклеена ў трох месцах зубчатымі палоскамі ад паштовых марак.

Віктар тут-жа, на двары, разарваў пальцам палоскі і ўпіўся вачыма ў ружовы лісток. На яго твары прабегла здзіўленне. Пастаяўшы трошкі ў задуменні, Віктар раптам павярнуў налева і пайшоў да загадчыка фермы. Раман Сідаравіч Шыла сядзеў у маленькім пакойчыку побач з кухняй і рыхтаваў справаздачу. Ён быў у добрым настроі: за чэрвень, як ні за адзін месяц, быў вялікі прыплод парасят, і гэта радавала яго.

— З просьбай да вас, Раман Сідаравіч, — звярнуўся нясмела Віктар і паклаў на стол тэлеграму.

— Што ў цябе тут такое? — адзначыўшы пазногцем радок лічбаў, на якім спыніўся, запытаў загадчык фермы і прабег вачыма паперку: «Цімох сур'ёзна захварэў. Прыязджайце». — Та-а-ак, невясёлая дэпеша, невясёлая, і што з ім магло здарыцца?

Віктар перасмыкнуў плячыма.

— Хто яго ведае... Хіба з гэтых трох слоў зразумееш? Трэба ехаць туды самому.

— Вядома, трэба, — згадзіўся загадчык. — Што мы, нелюдзі якія, каб кінуць чалавека ў бядзе?

— Дык от я і прышоў прасіць вас, каб адпусцілі... На два дні хацця...

На гэтую гутарку ў пакойчык увайшла старшая свінарка Зоя Бягун.

— Куды гэта цябе адпусціць? — спытала яна. Віктар, замест адказу, падаў ёй тэлеграму. Зоя прачытала напісанае і здзіўлена спытала: — Ён-жа, здаецца, у панядзелак толькі паехаў ад вас?

Замест адказу Віктар моўчкі кіўнуў галавой.

— На бяду мала трэба, — заўважыў Раман Сідаравіч і звярнуўся да старшай свінаркі: — Відаць, прыдзецца адпусціць яго на дні два. Не будзе табе сумна? — і адразу-ж паправіўся з ледзь прыкметнай усмешкай на твары: — Я хацеў сказаць «цяжка»...

Зоя пачырванела, аднак не збянтэжылася.

— Што хацелі сказаць, тое сказалі, Раман Сідаравіч, не апраўдвайцеся, — яна ўжо да гэтага не раз адчувала на сабе пацвельванне загадчыка фермы і ведала, на што намякнуў ён цяпер. — А паехаць, вядома, трэба. Абыйдземся пару дзён, што зробіш...

Вечарам, пры развітанні, Зоя нясмела напомніла Віктару:

— Калі там нічога сур'ёзнага, дык не бався вельмі.

У падвозчыкі Віктар трапіў пасля прыезду ў «Росквіт» новага старшыні. Аляксей Ігнатавіч Крэмез, прыехаўшы ў калгас, перш-наперш пачаў знаёміцца з людзьмі: хто, дзе і што робіць. За два дні ён наведаў не толькі ўсе тры брыгады, але паспеў нават абыйсці хаты многіх калгаснікаў.

На свінаферме Аляксей Ігнатавіч доўга хадзіў па ўсіх закутках, распытваў пра ўзрост свіней, колькі каторая важыць і часам нешта запісваў. Пад канец сваіх агледзін ён перагартаў блакнот і задумліва сам сабе прамовіў:

— Свінагадоўляй, відаць, прыдзецца сур'ёзна заняцца, — а ў Шылы і Зоі спытаў: — Можа, у вас ёсць якія патрабаванні да мяне, як да старшыні?

— Нам трэба дужэйшы возчык, а то дзеду Сцяпану цяжка аднаму спраўляцца, — папрасіла Зоя і зірнула на загадчыка фермы: што ён скажа на гэта.

Раман Сідаравіч падтрымаў просьбу старшай свінаркі.

На трэці дзень свайго старшынства Крэмез сядзеў у канторы за сталом і рыхтаваўся да пасяджэння праўлення. У гэты час з пачкам газет і пісем увайшоў калгасны паштальён.

Аляксей Ігнатавіч прыняў карэспандэнцыю, акінуў позіркам з галавы да ног Віктара і пацікавіўся, ці даўно ён працуе на гэтай рабоце.

— Трэці год, — адказаў з гордасцю Віктар.

— Трэці год? — здзівіўся старшыня. — І не надакучыла вам?

— Не. А чаму вас гэта цікавіць?

— Я-ж старшыня: мяне павінна ўсё цікавіць.

Калі Бандарчук выйшаў за дзверы, Крэмез звярнуўся да бухгалтара:

— Няўжо вы не маглі знайсці ва ўсім калгасе жанчыны на гэтую работу? Такі здаравенны хлапчына пошту разносіць, а стары дзядуля падвозчыкам на свінаферме працуе.

Бухгалтар падняў галаву ад раскладзеных па ўсім стале папер, пачухаў пад носам і, не спяшаючыся, адказаў:

— Яно чаму-б не маглі знайсці... Мала хіба ў нас дзяўчат, ды і ўдава тут адна прасілася. Але-ж ранейшы старшыня прыходзіцца сваяком Бандарчуку.

Вечарам таго-ж дня на пасяджэнні праўлення перагледзілі спісы працуючых. Стараліся прызначыць людзей так, каб найбольшую карысць меў ад гэтага калгас. Віктара паслалі працаваць на свінаферму.

Два дні не выходзіў ён на работу. Адны разважалі: саромеецца хлопец, другія пацвельвалі: ведае — гэта не паштальёнаву сумку насіць, тут прыдзецца брацъ на горб, на сілу. А Зою турбавала зусім іншае: «Каб хоць кропельку меў пачуцця да мяне — з ахвотаю пайшоў-бы. Нават сам папрасіўся-б, каб разам быць, а то прызначылі — і не хоча».

Як яно здарылася, што Зоі прыглянуўся Віктар, яна і сама не ведала. Пасля таго, як Надзя Важнік не прыняла віктаравага сватаўства, ён амаль тыдзень не выходзіў з хаты вечарамі. Ніякія песні не вабілі хлопца. Аднойчы надвячоркам Віктар сустрэў Зою. Яна ішла з фермы дахаты, а Віктар нёс пошту ў другую брыгаду. Спыніліся, трошкі пагаварылі, а пры адыходзе Зоя, нібы між іншым, напомніла:

— Сёння вечарам танцы будуць.

У клуб Віктар прышоў знарок пазней. На злосць Надзі Важнік, ён трымаў сябе весела. Пратанцаваў некалькі танцаў з Зояй, а як скончылася гулянка, узяў яе пад руку і пайшлі вуліцай. Каля зоіных варот пастаялі з поўгадзіны. Не хацелася Віктару так хутка расставацца, ён адчуў палёгку на сэрцы ад зоінай чуласці. Калі праўду казаць, дык і Зоі не вельмі хацелася спаць, але не выказваць-жа ёй з першага вечара сваю прыхільнасць.

Развітаўшыся, Зоя паціху, без груку прычыніла за сабою дзверы ў сенцах, а Віктар пастаяў трохі і пайшоў у бок клуба. Неўзабаве ён вярнуўся назад, прайшоў яшчэ раз каля зоінага акна, пільна ўзіраючыся ў яго шыбы. Адхінуўшы ражок фіранкі, Зоя бачыла ўсё, і радасць агарнула яе, з'явілася неадольнае жаданне заспяваць моцна-моцна, на ўвесь голас. І калі-б гэта было днём, яна не ўтрымалася-б і зацягнула сваю любімую:

«...Что ты ходишь всю ночь одиноко,
Что ты девушкам спать не даёшь?»

А цяпер, калі ў хаце даўно ўжо спалі, прышлося заглушыць сваё жаданне і легчы ў пасцель.

Але сон доўга не браў Зою. Ён мае свае няпісаныя законы, адсюль-адтуль ды прыслухаецца да стуку чалавечага сэрца: б'ецца яно спакойна, дык можна і вочы такому чалавеку заплюшчыць, калі-ж у грудзях бушуе завея ці бура, дык у такіх выпадках і сон не вялікі ахвотнік траціць дарэмна свае намаганні. Можа, з гадзіну паспала ў тую ноч Зоя, аднак увесь дзень працавала на ферме весела, з подбегам.

Праз некалькі дзён зоіна маці пытала ў дачкі:

— Гэта праўда, што мне казалі сёння?

— Што?

— Што ты з Віктарам Бандарчуком ночы прастойваеш?

— Языкоў людзям не завяжаш. Мала чаго нагавораць.

— Чаму-ж раней не гаварылі? Глядзі, дачушка... Думаеш, Надзя Важнік кінула-б тако-

га хлопца, каб ён быў варты таго?.. Паглядзі сама, столькі часу прайшло пасля вайны, а яны свінчаці і таго не ацаняюць. Такую цялушку ім далі з калгаса. Людзям меншыя дасталіся, ды і то якіх кароў павыгадоўвалі, а ў іх без догляду загінула. І як яны толькі жывуць!

— А пры чым тут Віктар? — з напускным здзіўленнем спытала Зоя.

— Як гэта пры чым? Гаспадар у хаце! А ён што: разнясе пошту і ўвесь час сланяецца без работы, такі бамбіза. Каб на добры лад, дык даўно можна было-б хату перасыпаць... А ён усё на гатовае спадзяецца. Надзя разгадала яго хітрыкі, а ты ўцяміць не можаш. Думаеш, маці табе кепскага хоча?..

Зоя са злосцю перапыніла старую:

— Няма чаго загадзя турбавацца: я замуж не збіраюся. Калі прайшла раз-другі з хлопцам, дык гэта яшчэ нічога не азначае,—бразнула дзвярыма і пайшла на ферму. Маці з дакорам пакруціла галавой, гледзячы ўслед дачцы.

Цэлымі днямі Зоя была на ферме. Не то што работа заядала, а проста ўцягнулася, прывыкла, палюбіла сваю справу. А як прызначылі яе старшай свінаркай, дык маці ў той-жа дзень пажартавала:

— Цяпер ты, дачушка, і начаваць там будзеш.

— Калі трэба будзе, то і пераначую.

Аднаго разу Віктар непрыкметна зайшоў у свінарнік і, пачуўшы зоін голас, спыніўся, пачаў прыслухоўвацца.

— Прыемна табе? Падабаецца? Бачыш, пястуха якая, любіш, калі гладзяць...

Віктар ціха падышоў да Зоі.

— Паслухаць збоку, можна падумаць, што яна разумее тваю гаворку, — усміхнуўся ён.

Зоя ўздрыганула ад нечаканасці і зірнула на Віктара.

— І разумее. Не глядзі, што нямое стварэнне, а ласку знае.

— Пудоў дванаццаць, напэўна будзе?—прыкінуў Віктар.

— Не менш.

— От-бы ў сваім хляве такую мець! Як ты думаеш, Зоя?

— Ці-ж трудна? Догляд і стараннe патрэбны.

— Ты з імі ўмееш абыходзіцца. Вядзеш на кармленне, дык аж страшна глядзець, як ты смела ідзеш сярод такой чарады.

Ад віктаравай пахвалы Зоя трошкі пачырванела і ціхім голасам адказала:

— А інакш і нельга, Віця. Тут работа такая, не любіш, не ідзі, а прыйшоў — любі.

— Ты прывыкла, Зоя. А мне гэтая работа не па сэрцу.

Зою здзівілі віктаравы словы. «Канешне, гэта не паштальёнства», — падумала яна, а ўголас сказала:

— Прывыкнеш і ты, уцягнешся.

— Наўрад...

— Пабачыш.

— Мяне іншае цікавіць...

— Хіба што, — уздыхнула Зоя.

Ужо некаторы час яны працуюць разам, сустракаюцца вечарамі, і ўсё-ж яна не адчувала тых цёплых пачуццяў з боку Віктара, пра якія марыла не раз, і нездарма балела ў Зоі сэрца, калі Віктар ад'язджаў да дзядзькі. Нібы прадчувала яно небяспеку, толькі сказаць не магло. Не ведала Зоя, што ў «Першай пяцігодцы» ёсць ільнаводка Ларыса Макавец.

Ад «Росквіту» да «Першай пяцігодкі» было трошкі больш за сорак кіламетраў. Шмат чаго перагаварыла віктарава маці з сынам за дарогу.

— І добра, сынок, што так выйшла з Надзяй. Дзяўчына яна, праўда, з твару нішто сабе, ды з харства вады не піць, кажуць людзі. Добра, калі да харaства ў дзяўчыны яшчэ што-ні-што прыкладаецца. Не ўсё-ж сваім гарбом нажываць.

— Пра гэта я і сам ужо думаў.

— Думаў, а з свінаркай звязаўся. Усе гэтыя любошчы да пары да часу, сынок. У яе вунь тры браты растуць ды сястра, а якая там у іх гаспадарка...

— Ведаю, ведаю! — махнуў рукой Віктар. Яму ўспомнілася, як развіталася з ім Зоя і стала ніякавата ад матчыных слоў.

...Прыехалі яны да дзядзькі пасля абеду ў суботу. Дома была цётка Алеся, а Цімох — на сенакосе. Адсутнасць Цімоха ніколькі не здзівіла прыезджых.

Хутка Алеся паставіла на стол пачастунак, сама села збоку і завяла гутарку з сваякамі:

— Я казала свайму не спяшацца, пачакаць да восені. Дык ці-ж яго ўгаворыш! У чацвер да Ларысы прыязджалі з Антонава, а назаўтра Цімох адбіў вам дэпешу. Самі ведаеце, які ён гарачы. Кажа, дзяўчына можа вылецець раней, чым птушкі ў вырай.

— У нашым родзе ўсе гарачыя. Мы з ім аднаго характару: наважыў што рабіць — не адкладвай, — з гонарам сказала віктарава маці.

Алеся пачала хваліць Ларысу. Яна расказвала то пра яе самую, то пра яе работу, то пра маёмасць. Хоць Віктар і чуў гэта ўсё ад дзядзькі, калі той прыязджаў да іх, але і цяпер слухаў цётку з цікавасцю.

— Дзяўчына яна фартовая. І да працы— агонь. Адных прэміяльных за лён штогод колькі атрымлівае.

У хату ўвайшоў Цімох.

— Прыехалі? Ну, і добра. Развітвайся, хлопча, з халасцякоўствам,—міргануў ён Віктару.

Ларысе хутка перадалі аб прыездзе Віктара. Такія навіны маланкай разносяцца па вёсцы. Яна вымыла, як заўсёды, падлогу, змяніла абрус на стале і паставіла букет палявых кветак.

Усю дарогу Віктара непакоіла адно: як сустрэне яго Ларыса, што скажа.

Насустрач Цімоху і Віктару выйшла Ганна, ларысіна маці. Прывітаўшыся, яна запрасіла гасцей у хату, дзе ўжо гарэла падвешаная да бэлькі трыццацілінейная лямпа.

Як трошкі падвыпілі, Цімох пачаў выхваляць пляменніка.

— Ён у нашай радні самы кемлівы. Толькі я расказаў пра цябе, Ларыса, як Віктар адразу ўхапіўся. Гэта, кажа, маё шчасце, няйначай. Ён нават сам прыдумаў, якую лепей тэлеграму даць.

— А навошта яе было даваць?—здзівілася Ларыса. — Ці-ж нельга было так прыехаць?

— Хе-хе! — падміргнуў Цімох. — Які гэта брыгадзір дасць каня ў сенакос на такія раз'езды?—і тут-жа звярнуўся да Ганны: — Дык як вы, матуля, глядзіце на наш прыход да вас?

— Я—што. Чужым людзям мы заўсёды рады, і сустрэць іх ёсць чым... А пра астатняе няхай Ларыса кажа. Дзяўчына ў сталым розуме. Не хвалюся, Цімохка, ды ты і сам ведаеш — ёй і ад сваіх хлопцаў адбою няма. Чуеш, Ларыса, чаго людзі прышлі? Кажы.

Ларыса зірнула строгім позіркам на Віктара, той трошкі пачырванеў і апусціў вочы, і замест адказу спытала сама:

— Нешта мне дзіўна, што вы так здалёк прыехалі. Няўжо ў вас няма сваіх дзяўчат?

— Ёсць, ды не такія, як вы,—нясмела адказаў Віктар.

— Лепшыя.

— Хто гэта ад лепшага шукае горшае... — паспрабаваў усміхнуцца Віктар.

— Адкуль-жа вы ведалі, што я лепшая за вашых дзяўчат? Мы-ж ніколі не бачыліся.

— Гэта ўжо наш сакрэт, Ларыса, — паспрабаваў увільнуць ад прамога адказу Віктар і з просьбай у вачах зірнуў на дзядзьку. Цімох даеў кавалак вяндліны, выцер хустачкай губы і прышоў на дапамогу пляменніку.

— Пра добрае далёка чуваць... — прамовіў з важнасцю Цімох, спадзеючыся, што яго намёк на пахвалу зробіць вялікае ўражанне на Ларысу. Але Ларыса была не з такіх. Яна тут-жа дакончыла пачатую Цімохам прымаўку.

— ...а пра благое яшчэ далей. Праўда?

— Вунь ты якая!—прыжмурыў левае вока Цімох.—Я цябе ведаў толькі здалёк, а ты, відаць, вострая не менш за Віктара. Пальца ў рот не кладзі!

— Цяперашняя моладзь, Цімохка, не такая, як у наш час была. Праўду кажаш, пальца ў рот не кладзі, — паглядзела маці ласкава на дачку. Ёй прыемна было, што Ларыса смела і прыстойна трымала сябе з чужымі людзьмі. «Не толькі да работы здатная, але і да гаворкі», — падумала Ганна.

Ухапіўшыся за пададзеную Ганнай думку, Цімох на ўсе лады пачаў расхвальваць Ларысу і Віктара. Ларыса паслухала трохі і выйшла на ганак, нібы ёй з непрывычкі ад тлуму і дыму забалела галава. Віктар выйшаў услед. Яны селі на лаўку. Гаворка спачатку не ладзілася: Віктар ніяк не мог знайсці зачэпкі. Ларыса сама дапамагла яму.

— Мне ўсё-ж дзіўна: ні разу мы не бачыліся і вы прыехалі з такой сур'ёзнай прапановай. Я ўяўляла сабе такія справы толькі па каханню. А тут, выходзіць, варта мне згадзіцца, дык вы адразу і ў сельсовет гатовы ісці.

— Хоць зараз, калі-б ён быў адчынены. Вось мая рука, — Віктар узяў ларысіну руку і падсеў бліжэй.

Ларыса павольна адсунулася.

— А я так не магу. Мне трэба падумаць, агледзецца.

— І шмат на гэта часу патрэбна? Калі вы мне скажаце?

— Не раней, як вечарам.

— Мы хацелі-б раніцай выехаць. Самі ведаеце, сенакос, коні патрэбны.

— Раней не магу.

— Воля ваша. Прыдзецца чакаць.

На двары світала, калі Цімох з Віктарам вярнуліся да сваякоў.

— Ну, як-жа, сынок, сустрэлі, правялі вас? — распытвала маці.

— І сустрэлі добра, і правялі нядрэнна, а пэўнага нічога не сказалі.

— Як-жа так?—здзівілася яна.

— Ды так, вечарам абяцала сказаць.

— Да вечара не так далёка... Кладзіся, адпачывай, і я пайду лягу. Бо і мы з цёткай не спалі, гаварылі ўсё, чакаючы вас.

Гэтым часам Цімох сцягваў аб парог цесны ў пад'ёме бот і злаваўся: «Ссохліся, ліха на іх,





хоць ты халяву разразай». Віктар памог дзядьку разуцца. Той хадзіў цяпер босы па чыста вымытай падлозе, пасыпанай дробным аерам, і шукаў на падаконніках партабак з самасадам.

Віктара непакоіла іншае.

— Нешта сэрца маё трывожыцца, дзядзька. Наўрад ці выйдзе што?

— Ат, глупства гаворыш, хлопча. Якая гэта дзяўчына кінецца адразу хлопцу на шыю? Што ўжо на сэрцы ў іх, а на словах яны не вельмі падкія, а ў такіх справах — і пагатоў.

— Дык вы ўпэўнены, дзядзька?

— Як сам у сабе. Думаеш, я такія справы раблю цяпу-ляпу? Мне, дзякаваць богу, шосты дзесятак ідзе, сякі-такі вопыт ёсць. Раней, чым даваць тэлеграму, я лагодненька пагаварыў. Сказала, няхай прыедзе, пагляджу.

— Я от і баюся, што толькі пагляздзіць, — трывожыўся Віктар. Ён закурыў, раздзеўся і лёг у пасцель. Доўга ляжаў з адкрытымі вачыма. Ледзь заплюшчыць іх — Зоя і Ларыса з'яўляюцца, як добра знаёмыя сяброўкі. У абедзвюх усмешкі. І так некалькі разоў паўтаралася змена прывідаў. Віктар не вытрымаў, устаў і выйшаў на двор, патупаў крыху, палюбаваўся прыгажосцю раніцы і вярнуўся ў хату. Дзядзька хроп спакойным сном. Ранішняе паветра асвяжыла Віктара, і неўзабаве ён таксама заснуў.

Пасля абеду ўсіх дэлегатаў раённай нарады павезлі на паказальнае поле вопытнай станцыі. Як вокам акінуць, цвіў высокі лён. Ад лёгкага павеву ветру па полі беглі пяшчотныя сінія хвалі.

У кузаве машыны Ларыса сумысля села побач з Надзяй Важнік. Разгаварыліся спачатку пра лён, а пасля зусім непрыкметна, каб не кінулася Надзі ў вочы, Ларыса перавяла гутарку на хлопцаў, расказала аб прыездзе ў іхні калгас Віктара.

— Дык вунь чаго паехаў ён да вас!—здзівілася Надзя, — а дома распусцілі чуткі, што дзядзька хворы, — і яна пачала распытваць, што ўяўляе з сябе тая дзяўчына, да якой паехаў у сваты Віктар.

— Росту яна майго, з твару таксама падобна на мяне. Нас вельмі часта за блізнят прымаюць.

Надзя ўважліва паглядзела на Ларысу і заўважыла:

— Губа ў яго не дура... Ды, можа, дзяўчына багатая яшчэ?

— Якое там багацце? Хата, карова. Але яна сама добра зарабляе ў калгасе.

Надзя нахіліла галаву да Ларысы і ціха прамовіла:

— У яго-ж у сваім калгасе свінарка ёсць, Зоя Бягун. Яна ўсё думала, што ён перайначыцца, дойдзе-ж да розуму калі-небудзь. А ён як быў гультаём, так і застаўся. Думаеце, ён за харастcovered вашай дзяўчыны пагнаўся? Не! Дзве яму адмовілі ў сваёй вёсцы (Надзя не сказала, што ў ліку дзьвух яна — другая), дык дзядзька на край свету павёз. Але, відаць, і ў вас раскусілі такога працаўніка. А Зоя, дурная, за яго і за сябе гэтыя дні робіць на ферме. Як дачуецца, от будзе перажываць.

Ларыса ўсміхнулася.

— Перадайце, няхай не перажывае. Наша дзяўчына не пойдзе за яго.

— Адкуль вы ведаеце?

— Ведаю, яна мне сама казала.

— А калі і пойдзе, то не ашчаслівіцца, — махнула рукой Надзя.

Доўга гутарылі яшчэ дзяўчаты, ідучы між ільняных палеткаў.

На захадзе сонца Ларыса вярнулася дахаты. Разам з сваёй сяброўкай яны саскочылі з кузава машыны каля цімохавай хаты, атрапалі адна ў адной пыл з сукенак. Віктар праз акно заўважыў іх і выйшаў на ганак. Услед за ім выйшла маці і спынілася каля вушака ў сенцах.

— Ну як, не засумавалі ў нас? — весела спытала Ларыса.

— Трохі, — усміхнуўся Віктар. — А дзе-ж вы былі? Адкуль вы прыехалі? Заходзьце ў хату.

— Дзякуй. Мы не надоўга. У раён ездзілі. Нарада ільнаводаў была. Прывітанне прывезла вам.

— Ад каго? — здзіўлена спытаў Віктар.

— Ад Зоі. Не чакалі? Праўда? А яна не забылася на вас.

— Як вам сказаць... Вядома, не чакаў, — сумеўся Віктар, але хутка ўзяў сябе ў рукі: — У мяне з Зояй нічога такога, працуем на адной ферме.

— Дык яна-ж вас не лае, а перадае прывітанне, — і тут-жа зусім сур'ёзным тонам спытала: — Вы едзеце дахаты сёння ці заўтра?

— Сёння, зараз-жа, толькі конь даесць авёс, — здагадаўся Віктар.

— Я хацела пераслаць Надзі Важнік кніжку пра дружбу і каханне. Яна прасіла. Пачытайце там разам.

— Поштай перашліце, — коратка адказаў Віктар. У адзін момант яму ўсё стала ясна: «—Надзіны штучкі!»

Ларысіна сяброўка ледзь стрымалася ад смеху.

— Хадзем дахаты, — пацягнула яна Ларысу.

Віктар праз сілу падаў руку дзяўчатам і адразу пайшоў запрагаць каня. «Халадком лепей ехаць будзе, менш заядзі паганай», — суцяшаў ён сябе.

Надзя сустрэла Зою на вуліцы. Каля клуба на мураве танцавалі. Надзя пачакала, пакуль скончыцца танец і адвяла Зою ўбок. Нахіліўшыся плячукамі да ліпы, дзяўчаты доўга шапталіся.

— Я адразу падумала, што тут нешта не так. Надта-ж ён трымаў сябе дзіўна перад ад'ездам, — успомніла Зоя.

— А ты, Зоечка, вельмі не бяры да сэрца. Знойдзецца яшчэ такі Віктар. Я не раз хацела з табою пагаварыць, ды ўсё не адважвалася: баялася, каб ты не падумала, што адбіваю ў цябе хлопца.

— Хто мог падумаць, Надзечка, што ён на такія штукі здольны, — з крыўдай сказала Зоя.—Каб ты ведала, колькі разоў упікаў мне Раман Сідаравіч за віктарава гультайства. Гэта, кажа, твая рэкамендацыя. Паслухаў цябе, а цяпер цацкайся з ім.

І ўсю ноч на волас не заснула Зоя. А раніцаю прыехаў Віктар. Убачыла Зоя, зайшлося сэрца, так і карцела выйсці насустрач, як тыя разы, але перамагла жаданне, стрымала слова, што дала сама сабе ўночы.

Віктар распрог каня і, не заходзячы дахаты, пайшоў адразу на ферму. Яму хацелася знаць, ці ведае Зоя, чаго ён ездзіў. Зоя пад паветкам рыхтавала корм: перамешвала ў вялікім карыце нарэзаную канюшыну з аўсянай мукой і, не адгінаючыся, адказала на прывітанне.

— Зоечка, ты нечага злуеш? Зірнуць нават не хочаш на мяне, — звярнуўся ласкава Віктар.

— А чаго мне злаваць? Бачыш, работай занята, — адказала Зоя. Потым адагнулася, адкінула назад апушчаныя на вочы пасмы валасоў і, акінуўшы позіркам Віктара з галавы да ног, спытала: — Ну, як дзядзька?.. Паправіўся?

— Маўчы ты, Зоечка! Ды ён і не хворы. Хацеў, каб мы прыехалі праведаць, — адказаў Віктар лагодным тонам.

Зоя іранічна прыжмурыла вочы:

— Праз тыдзень зноў хацеў вас пабачыць? І тэлеграму ён прыдумаў?

Віктар збянтэжыўся: «Значыць, усё ведаеце», але вырашыў трымацца да канца.

— Гэта Надзя табе па злосці наплявузгала, а ты і паверыла, — паспрабаваў усміхнуцца Віктар, ды строгі позірк Зоі сагнаў з яго твару штучную весялосць.

— У мяне свой розум ёсць.

— Няўжо ты думаеш, я змяняю цябе?

— Мяняюць тое, на што чалавек мае права. А ты-ж не пытаў яшчэ ў мяне, ці згаджуся я быць тваёю.

— Ды перастань ты, Зоечка, распякаць,—не вытрымаў Віктар.—Я і сам не ведаю, як здарылася.

— Вунь што, не ведаеш, як здарылася?.. А я ведаю... Лёгкага хлеба захацеў. Пачуў, што дзяўчыне прэміі даюць, адна ў мамы, калгас заможны... Паглядзі на сябе, што ты за работнік. На людское квапішся. Трэба пра свой калгас думаць ды пра сваю хату...

Віктар наважыў перавесці гаворку на іншы лад. Ён спытаў дзе цяпер можа быць Раман Сідаравіч.

— Навошта ён табе? Ты ўжо ў касары прызначаны. Ідзі да брыгадзіра, пытай, што рабіць.

— А тут?

— Сама буду за дваіх працаваць,—адказала Зоя і ўзялася дамешваць корм. Яна змоўчала, што на віктарава месца сёння выйшаў новы возчык.

Некалькі хвілін Віктар стаяў моўчкі, не ведаючы, што рабіць. Потым ціха сказаў:

— Забудземся, Зоечка, на ўсё. Памірымся.

— Ніколі. Паехаў, сам набраўся сораму, мяне асарамаціў на ўсю акругу, а цяпер — «памі-і-рымся».

— Ну, што-ж... Калі-небудзь пакаешся, сходзіш па розум, ды позна будзе, — крута павярнуў Віктар у бок канторы.

— Ты ўжо Надзі казаў гэта, — кінула наўздагон Зоя, але Віктар нічога ўжо не адказаў.

Ён крочыў, заняты сваімі думкамі, а Зоя, не адгінаючыся ад работы, глядзела ўслед яму. «Калі азірнецца, значыць, кахае, — загадала яна пра сябе,—а калі кахае, то, можа, яшчэ і памірымся».

«Эх, Зоя, Зоя, адзін раз ты падала мне руку сама, а другі — не ўзяла маёй», — уздыхнуў Віктар і міжвольна павярнуўся ў бок свінафермы, дзе з такім хваляваннем чакалі гэтага моманту.

І лёгка-лёгка стала на сэрцы ў Зоі. «Усё-ж кахае,—азірнуўся!—ледзь не ўскрыкнула яна ад радасці, але перажытае ёю напомніла пра сябе, мацней затахкала сэрца ад крыўды: — Калі перадумае столькі, колькі перадумала я за ноч, ды сэрца на вугаль так перапаліць, як перагарэла маё, тады можна будзе яшчэ падумаць пра спатканне».

*Новыя кнігі*

# „Мой таварыш“

З хваляваннем бярэш у рукі невялічкую кніжачку з надпісам «Мой таварыш». За некалькімі дзесяткамі старонак хаваюцца гады ўпартай працы над словам, бяссонныя ночы, слодыч поспеху і горыч няўдач. За сціплымі, скупымі радкамі вершаў паўстае біяграфія іх аўтара — Марка Смагаровіча. У 1942 годзе ад рукі фашысцкіх катаў загінулі яго бацькі. Уступіўшы ў партызанскі атрад, Марк помсціў ворагам. Пасля цяжкога ранення ён застаўся інвалідам. Але не ў характары савецкага юнака адступаць, як-бы ні было цяжка. Жаданне працаваць, быць карысным народу, Радзіме прывяло юнака да паэзіі.

Гартаючы старонкі першай кніжкі вершаў Марка Смагаровіча, перш-на-перш усведамляеш: аўтар сціплых, скупых радкоў — сапраўды паэт.

Крытык мог-бы адразу-ж заўважыць у вершах нямала паўтораў, штампаў, у многіх выпадках мова невыразная.

І ўсё-ж-такі не гэтыя недахопы вызначаюць характар зборніка «Мой таварыш». З ростам паэта, з развіццём яго майстэрства гэтым хібам будзе заставацца ўсё менш месца.

Падставы для таго, каб называць аўтара паэтам, дае зусім не той факт, што вершы зборніка напісаны ў асноўным гладка (з пункту гледжання формы), што прысвечаны яны важным тэмам нашага жыцця. Кожнаму вядома нямала вершаў, напісаных на важныя тэмы і неблагіх па форме, але далёкіх ад сапраўднай паэзіі.

Паэтам Марка Смагаровіча робіць тое, што ў вершах яго ёсць шчырасць, непасрэднасць, сваё бачанне свету.

Выразна адчуваецца асноўная тэма паэта — тэма працы, якая чырвонаю ніткаю праходзіць праз увесь зборнік. Паэт славіць чалавека-працаўніка — уладара прыроды. Велічныя будоўлі, заводы, сады ў квецені, палі даспяваючай пшаніцы, вада, якая бяжыць праз пустыню, — «гэта ёсць не дар прыроды, а намі створаны пейзаж».

Прыгажосць працы савецкага чалавека, па думцы паэта, перш за ўсё, у тым, што гэта праца калектыўная і для калектыву. І ён услаўляе чалавека працы.

Кладучы ў аснову сваёй творчасці тэму працы, малады паэт падкрэслівае думку аб паэзіі працы ў такіх вершах, як «Наш Янка Купала» і «У кузні».

З тэмай працы («Мастакі», «На руме», «Трактары» і інш.) непарыўна звязана тэма міру. У яе арганічна ўпляталоцца матывы гераічнага мінулага нашага народа, якія падаюцца паэтам праз трапныя дэталі. Надзвычай пераканаўчы ў гэтым плане і характэрны для абранай паэтам формы лірычнай мініятуры верш «Клуб», які хочацца прывесці цалкам:

Прасторны і светлы стаіць
сярод вёскі
Калгасны наш клуб,
як палац.
Гармонік зайграе — ідуць
адгалоскі,
Здаецца, што сцены звіняць,
Бо ён збудаваны
з адменнага дрэва,
Бярвенні з мясцовых
бароў, —
Застыла ў іх рэха птушыных
напеваў
І гром партызанскіх баёў.

Праца, мір, гарачая любоў да Радзімы, шчасце савецкіх людзей, маладое каханне — праз усе гэтыя тэмы лейтматывам праходзяць аптымізм, жыццесцвярджальнасць у пачуццях лірычнага героя.

У той-жа час хочацца сказаць, што Марк Смагаровіч, на наш погляд, злоўжывае формай мініятуры, лірычнай замалёўкі: гэта надае яго вершам некаторую аднастайнасць і ў пэўнай ступені абмяжоўвае яго творчыя магчымасці.

У зборніку ёсць спроба аўтара звярнуцца да сюжэтнага верша (вершаванае апавяданне «Партрэт»), аднак тут паэт не здолеў выкрышталізаваць як след у сюжэце галоўную задуму, якая дала назву вершу. Гісторыю з партрэтам Леніна паэт не звязаў арганічна з сюжэтам, у выніку твор успрымаецца як паасобныя замалёўкі аб барацьбе партызан з фашыстамі — і не больш. Пры гэтым «Партрэт» залішне расцягнуты для верша, а для паэмы — недастатковы па псіхалагічнай распрацоўцы персанажаў, хоць паасобныя ўрыўкі чытаюцца з цікавасцю.

Калі параўнаць раннія вершы паэта з пазнейшымі, можна ўпэўніцца, што ён не шкадуе працы для авалодання паэтычнай культурай.

**Ул. БОЙКА.**

# Узнагарода за веды

**Д. ОРЛОЎ,**
**народны артыст БССР**

**Галіна Леапольдаўна Раксанава ў ролі Джыл Хілкрыст («Мёртвая хватка»).**
Фото С. Чырэшкіна.



**— Як лёгка, як проста іграе Глеб Паўлавіч Глебаў, — гавораць звычайна нашы гледачы, сочачы за ігрой любімага артыста.**

**Вельмі правільная заўвага. У ігры гэтага артыста нас заўсёды здзіўляе лёгкасць, імправізацыйная свежасць.**

**Але ці многія ведаюць, якой цаной дастаецца артысту кожны ўпэўнены крок на сцэне? Ці многія ведаюць, што лёгкасць і непаўторнасць выканання — гэта вынік велізарнай затраты духоўных і фізічных сіл?**

**Бадай што не. Да гэтага часу яшчэ існуе думка, што для паспяховага выступлення на сцэне акцёру дастаткова прыроджаных здольнасцей, а ўсё астатняе... ад «міласці Апалона». Так думаюць, нажаль, і некаторыя найбольш лёгкадумныя маладыя акцёры.**

**А між тым добра вядома, што тварэнні выдатных рускіх артыстаў В. Качалава, М. Тарханава, Н. Хмялёва, Б. Шчукіна, якія ўвайшлі ў гісторыю савецкага тэатра, таксама як і высокія мастацкія вынікі майстроў беларускай сцэны Г. Глебава, І. Ждановіч, А. Ільінскага, П. Малчанава, Б. Платонава, Л. Ржэцкай і іншых — плады глыбокай работы над роляй, над сабой, узнагарода за многія веды.**

**Такія сцэнічныя партрэты, як Туляга, Кропля, Заслонаў, паэтэса Цётка, Несцерка, Кукушкін, запомніліся шматлікаму гледачу не як тэатральныя персанажы, а як жывыя людзі толькі таму, што ў іх абагулены і тыпізаваны артыстамі хвалюючыя бакі нашай рэчаіснасці.**

**На сцэне нельга дзейнічаць, не наглядаючы, аналізуючы, думаючы, уцягваючы ў гэты працэс усе сілы сваёй фантазіі. Вось чаму работа над сцэнічным вобразам у акцёра павінна пачынацца задоўга да першых рэпетыцый п'есы. Без запасу жыццёвых назіранняў акцёр не зможа ацаніць драматургічны характар на шырокіх паралелях рэчаіснасці. А без гэтага сцэнічны вобраз будзе пазбаўлен душы, бо ў такім выпадку акцёр ставіць сябе ў становішча толькі прытворшчыка, а не ідэйнага мастака.**

**Нашы лепшыя маладыя акцёры Г. Аляксеева, Ю. Галкін, Л. Драздова, Н. Яроменка, Г. Орлова, Г. Раксанава, Б. Уксусаў, А. Федароўскі і многія іншыя добра вядомы як стваральнікі яркіх сцэнічных вобразаў. Пра кожнага з іх ёсць што расказаць. Сёння нам хочацца пагаварыць аб таленавіцейшым з іх, аб Барысе Уксусаве.**

**Работа Б. Уксусава над роляй Кукушкіна ў спектаклі тэатра імя Ленінскага Камсамола Беларусі «Брэсцкая крэпасць» адзін з яркіх прыкладаў таго, наколькі праца акцёра можа быць самастойнай, нягледзячы на тое, што яго творчасць падпарадкавана аўтарскай задуме. Створаны ім вобраз воіна-героя — вялікая перамога артыста, вынік глыбокага творчага падыходу да работы над роляй, жывое ўвасабленне прынцыпу ідэйнай актыўнасці акцёрскай творчасці.**

**Гэтая работа мае і яшчэ адну вартасць. Мне прышлося бачыць Кукушкіна — Уксусава не адзін раз, на розных пляцоўках, у розных аўдыторыях. І вельмі прыемна адзначыць, што роля не толькі не старэе, а наадварот, становіцца свяжэйшай ад спектакля да спектакля, узбагачаецца многімі новымі і цікавымі знаходкамі. Калі раней акцёр быў некалькі неэканомным у адборы выяўленчых сродкаў, то цяпер ён у гэтым стаў больш строгім.**

**Мужнасць, бястрашша, воля да перамогі — вось што стала галоўным у характары Кукушкіна — Уксусава. З ідэйнай палымянасцю Б. Уксусаў вылучае і такія якасці воіна Савецкай Арміі, як яго дысцыплінаванасць, пачуццё таварыскасці, вернасць баявой дружбе. Яго Кукушкін не губляе гумару і аптымізму ў самыя цяжкія мінуты жыцця, што вельмі збліжае вобраз са славутым Васілём Цёркіным.**

**У гэтай рабоце Б. Уксусаў поўнасцю праявіў і яшчэ адну каштоўную якасць акцёрскага майстэрства — уменне паказаць рост, развіццё вобраза.**

**...Першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. У адным з брэсцкіх асабнякоў фашысцкія бандыты катуюць байца Савецкай Арміі, палоннага Кукушкіна. Фашысты, сустрэўшы мужнае супраціўленне брэсцкага гарнізона, патрабуюць ад Кукушкіна вестак аб становішчы ў крэпасці. Савецкі воін маўчыць. Ён маўчыць, не гледзячы на страшэнныя здзекі. З яго твару цячэ кроў, губы рассечаны, пепасохлі. Здавалася, вось-вось воля Кукушкіна будзе зломлена... Але не! Варта было нямецкаму афіцэру прапанаваць Кукушкіну выступіць па радыё з правакацыйнай прамовай, як баец імгненна перайначваецца. Куды знікла стомленасць! У яго вачах блісnula маланка, кулакі сціснуліся, і ён са страшэннай сілай кідаецца на фашыста. Зала доўга і ўсхвалявана апладыруе за яркае выкананне. І з гэтага часу глядач ужо не адзяляе акцёра ад вобраза.**

**А колькі гумару і знаходлівасці ўкладае артыст у сцэну з парламенцёрам! Гэты эпізод, дарэчы сказаць, — вынік творчай імправізацыі акцёраў, — ён нарадзіўся на сцэне тэатра. Гэта выдатны прыклад супрацоўніцтва акцёра з драматургам.**

**Працэс работы над роляй мае сваёй канчатковай мэтай пераўвасабленне. Акцёр, пазбаўлены магчымасці пераўвасабляцца, не можа зацікавіць гледача.**

**Поспех Б. Уксусава ў «Брэсцкай крэпасці» і ў «Сапраўдным чалавеку», поспех А. Федароўскага і В. Стрыжова ў спектаклі «У добры час», Л. Драздовай у спектаклі «У ціхім завулку», Л. Шубінай у «Персанальнай справе», Г. Раксанавай у «Мёртвай хватцы» — узнагарода за сістэматычную, глыбокую працу, узнагарода за веды.**

*Студэнцкі гумар*

Мал. С. Раманава.

# Гіпноз

Генка, студэнт другога курса медыцынскага інстытута, сядзіць на лаўцы са сваёй сяброўкай і нервова цярэбіць лісцікі бэзу, не зважаючы на дошчачкі з надпісамі: «Псаваць зялёныя насаджэнні забараняецца».

Генка прышоў на спатканне. Але спатканне гэта не зусім звычайнае. Сёння Генка наважыў, што-б там ні было, пацалаваць Лілю. Знаёмыя яны ўжо больш за поўгода. Позіркі іх даўно сказалі, што яны кахаюць адно аднаго, бо сэрцы пры сустрэчы б'юцца моцна-моцна. Але вось пацалаваць Лілю Генка ніяк не адважваўся. Справа, зразумела, не ў тым, што Генка комсорг групы. Проста ён не адважваўся. І ўсё-ж сёння ён гэта зробіць.

Некалькі дзён назад прафесар прачытаў лекцыю аб гіпнозе, дэманструючы яго на студэнтах. Акрамя таго, Генка прачытаў адпаведную літаратуру, дзе гаварылася, якія людзі могуць валодаць гіпнозам і як гэта робіцца. Генка вырашыў, што ў яго ёсць усё, каб быць гіпнатызёрам. Ён загіпнатызуе Лілю, а потым пацалуе яе.

І вось цяпер Генка ўзяўся ажыццяўляць свой гэтакі намер.

— А ведаеш, Ліля, нам чыталі лекцыю аб гіпнозе. Даволі цікавая. Чалавек спіць, але размаўляе з табой, робіць любую работу. Між іншым, я таксама магу гіпнатызаваць.

— Ты?

— Так, я. А што тут дзіўнага?

— Нешта мне не верыцца.

— Калі не верыш, давай паспрабуем. Гэта зусім бяскрыўдна.

— А калі не прачнуся?

— Вось глупства. Гэтага яшчэ ніколі не было.

Дзяўчына ўсміхнулася.

— Ну, калі ты запэўняеш, тады можна.

— Лілечка, я-ж за цябе... Ну, наогул, я абяцаю, што твайму здароўю гэта ніколечкі не пашкодзіць. Я, вядома, амаль доктар.

— Добра. Я згодна.



— Дык вось, пачынаем. Заплюсні вочы. Уяві, што ты засынаеш. Ні пра што не думай. Слухай толькі мой голас. Усё астатняе цябе не датычыць. Як я далічуся толькі да васьмі, дык ты ўжо і заснеш. Раз, два. Слухай толькі мяне. Тры, чатыры, пяць. Твая воля падпарадкоўваецца майму голасу. У цябе няма ніякіх адчуванняў. Шэсць, сем. Ты ўжо заснула. Восем.

Галава дзяўчыны павольна лягла на спінку лаўкі, а рукі плаўна распасцёрліся ўздоўж цела.

Генка нават сам здзівіўся. Ён адчуваў, што можа валодаць гіпнозам, але каб адразу ўсё было так паспяхова...

Ён дакрануўся да рукі дзяўчыны.

— Што я цяпер раблю?

Ліля памаўчала, а затым павольна вымавіла:

— Я не ведаю.

Генка паправіў ёй валасы і асцярожна правёў пальцамі па пяшчотнай дзявочай шыі.

— А цяпер што ты адчуваеш?

— Нічога, — ціха адказала яна.

Рот яе быў поўраскрыты. І Генка рашыўся. Ён асцярожна нахіліўся і моцна пацалаваў яе.

— Даўно-б так...— радасна прамовіла дзяўчына.

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК,**
**студэнт V курса Мінскага медыцынскага інстытута.**

# Адзінокі

Неба было такое, нібы яго ўсе дворнікі горада абпаласкалі з сваіх брандспойтаў у чаканні з горсовета аўтарытэтнай санкамісіі. Цвіла белая акацыя.

Ігнат Барадаўкін — студэнт інстытута — у нейкай меланхоліі апусціўся на лавачку парка. На лавачцы сядзела Яна і чытала кнігу.

— Адзін, як заўсёды. Крыўдна. Гады ідуць і нічога не вернеш, — сказаў уголас Ігнат і ў роздуме дадаў: — Што можа быць цудоўней за каханне? Так, здаецца, сказаў паэт. Але... У жыцці не заўсёды так...

Усхваляваная пранікнёным маналогам, Яна ўзняла на скептыка вочы і іх зззяючай чысцінёй паспрабавала рассеяць яго смутак.

Яны сустракаліся потым яшчэ некалькі разоў. І праз два тыдні Лідачка Казёлкіна стала Лідачкай Барадаўкінай.

Неяк праз поўгода Ігнат Барадаўкін вярнуўся дадому з інстытута нахмураным і звярнуўся да жонкі:

— Што такое піктаграфія або ідыёграфія?

— Не ведаю.

— Вось і пагавары з табой аб чым-небудзь. Я даўно прышоў да вываду, што любоўныя пачуцці не доўгавечныя. Толькі духоўная дружба двух роўнапраўных па розуму і развіццю істот можа гарантаваць між імі сапраўдны і трывалы саюз.

... Назаўтра Лідачка перайшла жыць да маці.

На комсамольскім сходзе таварышы крытыкавалі Барадаўкіна з усім юнацкім запалам. Няшчасны Ігнат меў, як гаворыцца, нікчэмны выгляд. І... яго пашкадавалі, вынеслі толькі вымову.

У той-жа дзень Ігнат з меланхалічным позіркам шпацыраваў па парку. Пад вечар ён сеў на лавачку і, цяжка ўздыхнуўшы, прагаварыў:

— Як цяжка быць адзінокім. Што можа быць цудоўней за каханне? Так, здаецца, сказаў паэт. Але... У жыцці не заўсёды так.

Яго маладзенькая суседка хуценька паправіла суконку і, схіліўшы ў яго бок галаву, пяшчотна ўсміхнулася. Яна была радасна ўсхвалявана.





# Прынцыповы

Прынцыповы Леў Расшыбін на канцэрце мастацкай самадзейнасці выступіў з уласным канферансам «Не ў брыво, а ў вока», — як ён яго аб'явіў... Ох, і дасталася-ж тут Радзівону Запівохіну, які меў гарачую прыхільнасць да халодных градусаў. Бедны Радзівон і чырванеў, і бляднеў. І калі ў зале ўсе вочы скіроўваліся на яго, Радзівон марыў толькі аб тым, каб вось зараз падлога правалілася пад ім, і яго праглынула-б што-небудзь падобнае на кракадзіла.

А ваяўнічы Леў Расшыбін быў у зеніце свайго поспеху.

... Радзівон Запівохін нікуды не праваліўся. Кажуць, ён пакляўся больш не піць...

А што-ж Леў Расшыбін? Ён, як звычайна, замочвае свой поспех і складае новыя сатырычныя куплеты.

**Алег ФОМЧАНКА,**
**студэнт БДУ імя Леніна.**



# Ноччу

Стараста пакоя Янка Нічыпаравіч Бараноўскі ў кепскім настроі. Ён дэманстратыўна варочаецца на ложку і незадаволена думае: «Развялі нуду. Зноў не дадуць паспаць. На тым тыдні да трох гадзін спрачаліся аб Маякоўскім. Заўчора ледзь не пабіліся з-за вышэйшых форм кахання. І навошта мяне ўпіхнулі да гэтых рамантыкаў...»

На сцяне над ложкам Бараноўскага — карціна ў пазалочанай рамцы. На ёй прыгожая дзяўчына ў доўгай белай суконцы. Сядзіць яна на лавачцы ў ценістым парку і з нейкім сумам пазглядае ўніз, на тоўсты нос Бараноўскага, які тырчыць з-пад прасціны. Здаецца, што дзяўчына вось-вось скажа:

— Ну, і цяльпух ты, Янка!..

Падначаленыя Янкі тым часам вырашаюць адвечныя праблемы студэнцкага жыцця:

— Што ні кажы, а студэнты — гэта людзі, праклятыя богам і экзаменамі, — даносіцца да вушэй старасты голас Юркі Лявончыка, ложак якога стаіць у супроцьлеглым кутку пакоя. — Мне за два дні трэба рашыць пятнаццаць задач і здаць тры лабараторныя работы. Загінуў я, хлопчыкі!

— Ну, заенчыў, — кідае філосаф Антон. — Калі хочаш ведаць, студэнты — самы геніяльны народ у свеце. Філосафы ўсіх вякоў самі блыталіся і другіх блыталі. А наш брат, глядзіш, разбярэ ўсіх гэтых Кантаў і Гегеляў, прывядзе іх у сістэму і экзамены здасць.

— Хто сёння дзяжурны? Святло пара выключаць! — крычыць Янка.

— Здаецца, я, — чарнявы Васіль Бодзік, сусед Бараноўскага па ложку, бярэцца за выключацель. — Ну, заплюшчылі вочкі? Увага, раблю цемру. А мо' і радыё заадно прыглушыць, Янка Нічыпаравіч?

— Дзейнічай, — кідае Бараноўскі. — Перадаюць нейкую дрэнь, толькі нервы псуе.

— Не трэба! — пярэчыць большасць пакоя. — Гэта-ж Штраус!

Васіль Бодзік пад напорам мас павольна выпускае з рук шнур ад рэпрадуктара і кідаецца ў ложак.

«Можа, сціхнуць без святла, музыку будуць слухаць», — злосна думае Янка і накрываецца коўдрай з галавой. Але хіба адгародзішся ад знешняга свету просценькай студэнцкай коўдрай!

— Хлопцы, вы заўважаеце, што наш староста становіцца рэакцыянерам, — Янка з нянавісцю пазнае басок вясёлага хлопца Міколы Чайкі, які спіць ля самага акна. — Святло выключае раней тэрміну, глушыць радыё, забараняе нават песні спяваць.

— Не ўдасца, — падтрымлівае яго Юрка. — Заўтра правядзем сход і скінем Янку са старастаў за няправільную лінію.

Янка Бараноўскі ляжыць, быццам на іголках. Няхай думаюць, што ён спіць. Ён цяпер не скажа ні слова. А заўтра пойдзе ў прафком і раскажа, як Чайка абазваў яго контррэвалюцыйным словам, як Лявончык падбухторваў хлопцаў выступіць супроць старасты. І філосаф за іх таксама. Толькі Бодзік больш-менш добры чалавек. Але трэба спаць, берагчы сваё здароўе. Бараноўскі пачынае лічыць хвіліну за хвілінай, каб хутчэй заснуць. А хлопцаў не стрымаць. Нібы праз сон, ён чуе:

— Цікава ўсё-такі, хто першым дабярэцца да Месяца? Юрка, ты-б згадзіўся махнуць туды першым?..

— Эх, каб увялі вольнае наведванне лекцый. Цэлы дзень самастойнай працы! Я-б усе бібліятэкі перавярнуў. А то чатыры лекцыі кожны дзень...

— Ну, лекцыі няхай будуць абавязковымі. Зрабі вольнае наведванне, дык Янка з Васілём будуць цэлыя суткі спаць. А вось стыпендыю я раздзяляў-бы на тры катэгорыі. Хто вучыцца здавальняюча, таму пражытачны мінімум, добра — атрымоўвай надбаўку, выдатна — яшчэ больш...

— Хутка раз'едземся, хлопцы, хто куды. Па ўсёй Беларусі. На свой хлеб...

— Але, не кажы. Ляцяць гады...

— Я ўпэўнены, што хто не быў студэнтам, той страціў поўжыцця...

Галасы ўсё цішэй і цішэй. Нарэшце, зусім змаўкаюць.

Бараноўскі не верыць сваім вушам. Натапырвае іх, падымае з падушкі галаву: «Бессаромныя! Лайдакі! Нагаварыліся ўволю, напляць на чалавека і спяць, як экзамены здаўшы. А ты пакутуй з-за іх балбатні. Вось уключу святло — ускочыце, як апараныя. Буду назнарок усю ноч чытаць кнігу. Варочайцеся сабе, як уюны...»

Раптоўна ўспыхвае святло. Але яно зусім не дзейнічае на багатырскі сон хлопцаў. Толькі Васіль Бодзік моршчыцца і мармыча спрасонку: «Святло? Будзе зроблена... Янка Нічыпаравіч»... Астатнія нават не кратаюцца.

Бараноўскі закрывае кнігу і пазірае ў столь. Нешта шчыпле яго за душу. Не чытаецца і сон не бярэ. Варочаецца ён ужо зусім натуральна. Скрыпіць пад цяжарам яго нязграбнай камплекцыі ні ў чым не вінаваты ложак. Са сцяны па-ранейшаму пазірае дзяўчына ў белым. Нібы ёй хочацца сказаць:

— Ну, і таўкач-жа ты, Янка!

**Яўген КРЫСКАВЕЦ,**
**студэнт БДУ імя В. І. Леніна.**

# СЯБРОЎСКІЯ ШАРЖЫ



Любе Бельскай — звеннявой па кукурузе калгаса імя Молатава Брагінскага раёна.

**Любу Бельскую з Палесся,**
**Мабыць, ведае ўвесь свет.**
**У кукурузе, як у лесе,**
**Не згубіўся любін след.**
**Кукуруза тут прычынай,**
**Што з усіх канцоў зямлі**
**Лісты хлопцаў да дзяўчыны**
**Ракой цэлай паплылі.**
**Пішуць восем тысяч хлопцаў,**
**Ды пытаюць, як ім быць.**
**І каго тут Любе выбраць,**
**І каго тут палюбіць?**



Міхаілу Крываносаву — рэкардсмену свету па кіданню молата.

**Чалавек ён малад,**
**У руках яго молат.**
**З ім амаль поўсвета**
**Ён аб'ездзіў летась.**
**Вярнуўся са славай**
**У сваю дзяржаву**
**Міхась Крываносаў.**
**Усіх спартыўных босаў**
**Ён пакінуў з носам.**



Народнаму хору Беларускай ССР пад кіраўніцтвам Г. І. Цітовіча.

**Захацела мяне маці**
**У хор Цітовіча аддаці,**
**Каб я весела спявала,**
**Ніякой бяды не знала.**
**А той Цітовіч, —**
**Кіраўнік бядовы, —**
**Сваім чулым вухам**
**Голас мой паслухаў**
**І сказаў: «Адарка,**
**Лепш ідзі ў даяркі».**
**Ой, не хацела-ж мяне маці**
**У даяркі аддаваці.**

# ЭПІГРАМЫ



### У МІНСКАЙ ФІЛАРМОНІІ

На рэспубліканскай нарадзе творчай моладзі гаварылася, што артысты Мінскай філармоніі ў час рэпетыцый гуляюць у азартныя карцёжныя гульні.

**Наш сталічны аркестр філармоніі**
**Дасягнуў амаль поўнай гармоніі**
**У сваім выхаванні актыву**
**І ў рабоце ўсяго калектыву.**
**Для уздыму музычнай культуры**
**Тут работнікі лезуць са скуры:**
**Селі ўсе за сталы, як за парты,**
**І... з азартам гуляюць у карты.**

### РАЗМОВА СТАРЫХ АРТЫСТАЎ

Некаторыя маладыя акцёры Тэатра імя Янкі Купалы і Тэатра оперы і балету не атрымоўваюць адказных роляў у спектаклях.

**ЁН: — Нам шлюць дарэмныя дакоры:**
**«Даволі моладзь заціраць!»**
**Яны-ж залічаны ў дублёры**
**І можа ім дадуць сыграць.**
**ЯНА: — Ва ўсякім разе, гэтым летам**
**Выконваць буду я Джульету.**
**Рамео вы яшчэ не дрэнны.**
**Не, не, не трэба нам замены!**



# Для адпачынку

## ШАХМАТЫ

**пад рэдакцыяй майстра спорту**
**А. СУЭЦІНА**

### Ахвяра ў пачатковай стадыі партыі

У раздзелах, змешчаных раней у часопісе, мы далі вызначэнне тэрміна «ахвяра» ў шахматах і раскрылі яго змест.

Звычайна каштоўным шахматным матэрыялам ахвяруюць у сярэдзіне партыі, у разгар шахматнай барацьбы. Але ў сучасных дэбютах, дзе барацьба пачынаецца з першых ходаў, часта для абвастрэння ігры ахвяруюць пешкі, і нават фігуры, ужо з першых ходаў. Вялікім майстрам такіх ахвяр быў першы рускі чэмпіён свету па шахматах А. А. Алёхін (1892—1946 г.). У вядомай партыі з Эйве, іграной у 1937 годзе, Алёхін (белыя) выкарыстаў наступны цікавы варыянт: 1. d4 d5 2. c4 c6, 3. Kc3 dc, 4. e4 e5, 5. Kf3 ed, 6. C:c4 (!), пакідаючы пад боем каня на c3. Эйве ўхіліўся ад прыняцця ахвяры 6. ...dc, мусіць, баючыся працягу 7. C:f7+Kpe7, 8. Фb3, і сыграў 6. ... b5?, але трапіў «з агню ды ў полымя» пасля 7. K:b5! з разгромнай атакай у белых.

Пазней савецкімі аналітыкамі была ўзята пад сумненне карэктнасць ахвяры Алёхіна 6. C:c4?!

Прапануем нашым чытачам самастойна разабрацца ва ўскладненнях у становішчы. У дапамогу заўважым толькі, што трэба было іграць 6. ...dc!, не баючыся хода 7. C:f7. Магчымасць абвяржэння, між тым, не ўмаляе каштоўнасці ахвяры Алёхіна. Неабходна ўлічваць, што ў практычнай барацьбе за шахматнай дошкай, калі партнёры лімітыраваны жалезнай дысцыплінай часу, вельмі нялёгка знайсці аб'ектыўна лепшы шлях, асабліва пры тых ускладненнях, якія звычайна ўзнікаюць.

Ахвяра, як відаць, дзейнічае на праціўніка псіхалагічна, дэмаралізуючы яго. Смеласць задумы, незвычайнасць сітуацыі, якая ўзнікае, бянтэжыць непадрыхтаванага да гэтага праціўніка. Усё гэта робіць зразумелым значэнне ахвяры ў пачатку партыі і надае партыі асаблівую вастрыню.

У пачатку партыі звычайна ахвяруюцца пешкі. За параўнаўча невялікую матэрыяльную страту той, хто ахвяруе, імкнецца атрымаць перавагу ў развіцці, або арганізаваць ціск на пазіцыю праціўніка, або набыць перавагу ў прасторавых адносінах. Галоўным-жа момантам, які суправаджае ахвяру, з'яўляецца захоп ініцыятывы актыўным бокам на працяглы час.

Характэрна наступная ахвяра пешкі ў варыянтах абароны Каракан. Пасля ходаў: 1. e4 c6, 2. Kc3 d5, 3. Kf3 Cg4, 4. h3 C:f3, 5. Ф:f3 e6, 6. d4 de, 7. K:e4! Ф:d4



Ідэя гэтай ахвяры пешкі належыць беларускаму гросмайстру І. Балеслаўскаму. За пешку ў белых — перавага ў развіцці і два моцныя сланы, якія аказваюць ціск на пазіцыю чорных, што ў шмат разоў кампенсуе невялікую матэрыяльную страту белых.

Нярэдка ахвяруюцца і фігуры. Так, у наступных варыянтах ферзевага гамбіта пасля ходаў: 1. d4 d5, 2. c4 e6, 3. Kc3 Kf6, 4. Cg5 c5, 5. cd cd!?, 6. Ф:d4 Ce7, 7. e4 Kc6, 8. Фd2 K:e4!? (Цікавая ахвяра фігуры, якая вядзе да складаной ігры), 9. K:e4 ed, 10. C:e7 Ф:e7, 11. Ф:d5 — узнікае наступная пазіцыя, паказаная на дыяграме 2.



Прапануем чытачам самастойна разабрацца ва ўскладненнях і паказаць лепшы шлях ігры за чорных.

Тэрмін прысылкі рашэнняў-аналізаў — месяц з дня выхаду часопіса ў свет. Найбольш каштоўныя аналізы будуць апублікаваны ў адным з наступных нумароў часопіса.

## Рашэнне задач і эцюдаў,

**змешчаных у часопісе № 2 за 1956 г.**

### ЗАДАЧА № 1

**Мат у два ходы.**

1. Ле2
1. . . . C:g1 2. Ле6X
1. . . . C:h6 2. Ke8X
1. . . . Kpe5 2. Фa1X
1. . . . Kpe7 2. Фg5X
1. . . . f4 2. Фg5X
1. . . . C — 2. Ле6X

Аўтар задачы: **К. Мусіль** (чэшская школа).

### ЗАДАЧА № 2

**Мат у два ходы.**

Аўтар **Ісаеў.**

Ідэя: развязванне чорным каралём белых фігур.

1. Kc5
1. . . . Kpd4 2. Kb5X
1. . . . Kpf6 2. Л:e6X
1. . . . Л:d6 2. Kd7X

### ЗАДАЧА № 3

**Мат у 3 ходы**

Аўтар **А. Гуляеў** «Шахматы ў СССР».

1. Cc3! (пагроза 2. Kc6)
1. . . . Фa2 2. Kc4 +
1. . . . Лh2 2. Kd5 +
1. . . . c5 2. cd2 +

### ЗАДАЧА № 4

Аўтар **А. В. Немцаў**

(Конкурс, прысвечаны III міжнароднаму турніру ў Маскве 1936г.)

1. Лc5
1. . . . Kpf3 2. Лg1! Kpf2 3. Лcc1—4. Лcf1X
1. . . . Kpf3 2. Лg1 Kpf4 3. Лgg5—4. Лcf5X
1. . . . Kpg3 2. Kpe3 Kpg2 3. Лcc1—4. Лcg1X
1. . . . » 2. ... Kpg4 3. Лhh5 — 4. Лcg5X
1. . . . Kpg2 2. Kpe3 Kp:h1 3. Kpf2 — 4. Лh5X
1. . . . a3 2. Лg5 a2 3. Лa1! Kpf3 4. Лf1X

# МОДЫ

**1. Прыгожае плацце, распрацаванае па нацыянальных матывах. Можа быць пашыта з каймовай лёгкай тканіны (крэпжаржэт, шыфон) або вышыта аплікацыяй. Для вышыўкі аплікацыяй падбіраюцца два кантрасныя колеры: карычневы з жоўтым, карычневы з розавым і г. д.**

**Ліф плацця камбініраваны. Рукаў — густа сабраны «фанарыкам». Ніз плацця — з прамых палотнішчаў. Зашчыпы застрочваюцца да ўзору. Складкі падаюць мякка.**

**2. Дамашняе плацце са штапелю або сітцу, камбініраванае з трох тканін. Ліф — з гладкай тканіны бардовага колеру. Спадніца ў палоску на бардовым фоне. На ёй закладзены шырокія бантавыя складкі, якія мякка падаюць. Рукавы блузкі — з такой-жа тканіны, што і спадніца. Колер фартушка і хусцінкі адбіраецца па колеру палосак на спадніцы. Раскрой фартушка — платкападобны, аздоблены цясёмкай.**

**3. Плацце для школьнага выпускнога вечара. Ніз плацця з прамых палотнішчаў, сабраных па таліі. У чатырох гарызантальных лініях робіцца зборкі машынай, моцна загладжваюцца, а потым машынная нітка выцягваецца. Перад зборкамі прастрочваецца чатыры гарызантальныя лініі чорнымі ніткамі мулінэ. Адлегласць паміж гэтымі чорнымі лініямі кнізу павялічваецца.**

**Ліф абцягнуты, упрыгожаны кветкамі. Рукаў «фанарык». Па таліі павязваецца вузкі паясок.**

Аўтар — **А. І. ГАДЗІЦКАЯ.**

**4. Касцюм выхадны. Складаецца са спадніцы, жакета і жылеткі. Спадніца вузкая, прамая. Спераду складка, застрочаная да палавіны. Жылетка—з той-жа тканіны. З левага боку прарэзная кішэнька. Жакет прамы. Зашпільваецца на 5 гузікаў. Кішэні прарэзныя. Хлясцік — з трох частак. Каўнер — з чорнага аксаміту.**

**Касцюм з шэрай тканіны. Аздабляецца чорным аксамітам.**

Аўтар — **П. Ф. ІГНАЦЬЕЎ.**

**Усе фасоны распрацаваны мастакамі Мінскага дома мадэляў.**

### ЭЦЮД № 5

**Нічыя**

Аўтар **Л. І. Кубель** «Зборнік «250 шахматных эцюдаў» 1937 г. 1. Лb8 + Kpa3 (1. e3 не вядзе да мэты з-за 1. ...Лg5!) 2. Лa8 + Kpb4, 3. e3 (нельга 3. Лb8+з-за 3. ...Лb5) 3. ...Cg3, 4. Лg8, Ch2, 5. Лh8 (не 5. Лg2? з-за 5. ...Лh5), 5. ...Лa5! 6. Л:h2 e5 +, 7. Kpd3 Лa3 +, 8. Kp—Лa2 +, 9. Kpd3! Л:h2 Ладдзя выйграна, але белым мат.

### ЭЦЮД № 6

Аўтар **А. А. Троіцкі, 1913 год.**

**Выйгрыш.**

1. f6! (1. a4 да мэты не вядзе з-за адказу 1. ... Kpg3; не рашае і 1. Kp:g2? Kpg5! 2. a4 ba 3. ba Kpf6, 4. a4 Kpe7. 5. a5 Kpd8, таму што кароль у час затрымлівае пешку.) 1. ... gf 2. Kp:g2 Kpg4, 3. a4 ba, 4. ba Kpf5, 5. a4 Kpe5, 6. d6! cd, 7. c6! dc, 8. a5 і выйгрывае таму, што каралю перагароджаны ўсе шляхі да поля a8.

**Правільныя рашэнні прыслалі наступныя ўдзельнікі конкурсу:**

**Сімакоў М. П.** (Віцебская вобл., г. Лепель, вул. Чапаева 30)
**Сычоў В.** (г. Гомель, Новабеліцкі р-н, вул. Будзенага, д. 1)
**Энкін Э.** (г. Віцебск)
**Траяноўскі**
**Каноненка** (Крывы Рог. Днепрапятроўская вобл. 2-я Моправая)
**Міневіч А. П.** (Гомельская вобл., Ельскі р-н, Дабрыніна, спіртзавод).
**Чарнін Я.** (г. Віцебск, вул. 2-я Садовая, д. 10, кв. 16)
**Яцук Аляксандр.**
**Яцук Іван.**
**Глеб М. К.** (студэнт III курса мех. фак. Бел. Дзярж. Універсітэта)
**Пугацэвіч Ю. К.** (Маладзечанская вобл., Івянецкі р-н, Рубяжэвіцкі с/с, в. Паддзерная, калгас імя Янкі Купалы).

---

### А Д К А З Ы

**На задачы, змешчаныя ў № 3 часопіса**

1. c5 — b6! b8 — d6
2. d4—e5! a5 — e7
3. c3 — b4! a3:c5
4. d2 — e3! f4:d2
5. e5 — f6

### АДКАЖЫ БЕЗ ЗАТРЫМКІ

Раздаць па аднаму яблыку і адно яблыка з кошыкам.

У электрапоезда не можа быць дыму.

### РОСТ ЭЗОПА

Даўжыня ног = даўжыня галавы + 1/2 даўжыні тулава.

Даўжыня тулава = даўжыня ног + даўжыня галавы.

Зробім замену:

Даўжыня тулава = даўжыня галавы + 1/2 даўжыні тулава + даўжыня галавы, або:

даўжыня тулава = 2 даўжыні галавы + 1/2 даўжыні тулава.

Адсюль:

2 даўжыні галавы = 1/2 даўжыні тулава.

Даўжыня галавы = 7 дзюймаў; значыць, даўжыня тулава = 28 дзюймаў. Ногі = 7 дзюймаў + 28 : 2=21 дзюйм. А ўвесь рост роўны 7 + 28 + 21 = 56 дзюймаў, або 2 аршыны.


Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).

«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.

Фармат паперы 70 × 108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч-выд. арк. 7.
Здадзена ў набор 13.IV 56 г. Падпісана да друку 28.IV. 56 г.

АТ 01040. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 239.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

